МЕНСК

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

5

ДВУХТЫДНЕВАЯ ЧАСОПІСЬ

ОРГАН ЦККП/б/Б

1930



# № 5 „ПАРТРАБОТНІКА“:





Друкарня БДВ. Заказ № 1450. У ліку 2000 экз. Галоўлітбел № 781.

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

№ 5 | Сакавік 1930 г. | № 5

## Вытворчыя ячэйкі і пытаньне аб тэхнічных кадрах.

Яшчэ Верасеньскі Пленум ЦК КП(б)Б сказаў, што пытаньне аб кадрах зьяўляецца цэнтральнай праблемай нашай партыі, на разьвязаньня якой неабходна мабілізаваць усе нашы сілы, усе нашы магчымасьці.

Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП(б) і Студзеньскі Пленум ЦК КП(б)Б сваімі рашэньнямі аб кадрах паставілі перад усёй організацыяй цэлы шэраг важнейшых палітычных організацыйна-тэхнічных задач у галіне разьвязаньня праблемы кадраў. За апошні час мы, бязумоўна, маем некаторы зрух у справе разьвязаньня ўсяе праблемы кадраў, але неабходна асабліва настойліва падкрэсьліць, што тэмп разьвязаньня ўсяго комплексу пытаньняў, зьвязаных з праблемай кадраў, зьяўляецца недастатковым, і значная доля віны за такое становішча ляжыць на нашых ячэйках.

Мы прымушаны канстатаваць, што шэраг вытворчых ячэек да гэтага часу дрэнна перабудавалі сваю работу прымяніцельна да разьвязаньня праблемы тэхнічных кадраў. Многія ячэйкі да гэтага часу ня ўзяліся яшчэ сур'ёзна за практычнае ажыцьцяўленьне тых задач, якія выцякаюць з рашэньняў Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) і Студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б. Вытлумачыць такое становішча трэба ў асноўным тым, што ўсё-ж да гэтага часу многія ячэйкі недаацэньваюць усёй палітычнай важнасьці праблемы кадраў і, па-другое, што ня менш важней, *ня ведаюць, што і як робіць*, а такое становішча мы наглядаем галоўным чынам таму, што ячэйкі сур'ёзна ня ставілі перад сабою вырашэньне, ажыцьцяўленьне гэтай задачы.

Найбольш яркім пацьверджаньнем правільнасьці высунутага намі палажэньня аб прычынах слабага ўдзелу многіх ячэек у разьвязаньні праблемы кадраў зьяўляюцца многалікія размовы аб тым, што ўжо *„агалілі ўсё прадпрыемства“*, *што „некага браць у нас для высоўваньня“ і г. д.*

З гэтым трэба неадкладна пакончыць, інакш нам ня вырашыць пастаўленых задач у тэрмін.

Якія-ж задачы стаяць перад нашымі вытворчымі ячэйкамі ў галіне разьвязаньня праблемы кадраў? На разьвязаньне якіх пытаньняў з усёй праблемы тэхнічных кадраў ячэйкі павінны сканцэнтраваць сваю ўвагу?

Вытворчыя ячэйкі ў галіне падрыхтоўкі тэхнічных кадраў павінны заняць перадавыя позыцыі і іх задачы ў асноўным зводзяцца да наступнага. Раней за ўсё ячэйкі павінны прыняць усе неабходныя захады для таго, каб правільна паставіць

падрыхтоўку тых кадраў, якія рыхтуюцца на прадпрыемствах, мы гаворым аб фабзавучах, аб вучнёўстве і аб практыкантах-тэхніках. Ня будзем захоўваць, што да гэтага часу нашы фабзавучы могуць скардзіцца на недастатковую ўвагу да іх. Што тут трэба зрабіць?

*Трэба праверыць пастаноўку вучэбнай часьці, організацыйны бок работы, падбор і працу выкладчыкаў, інструктароў, як скарыстаны старыя фабзавучнікі, на колькі праведзены ў жыцьцё апошнія рашэньні аб палепшаньні работы фабзавучаў, профтэхшкол, трэба нарэшце ўважліва вывучаць, як пастаўлена палітычнае выхаваньне маладых рабочых.*

Далей, усе вытворчыя ячэйкі павінны праверыць, як ажыцьцяўляецца дырэктыва аб павялічэньні пролетарскага ядра ў нашых ВТУЗ'ах і ВНУ'ах на самым прадпрыемстве. Для гэтага неабходна праверыць, на колькі была правільна пастаўлена вярбоўка рабочых у ВУЗ'ы і ВТУЗ'ы і як пастаўлена падрыхтоўка рабочых для ўступленьня ў ВНУ'зы і ВТУЗ'ы.

Нашы вытворчыя ячэйкі абавязаны неадкладна прыняць усе захады да таго, каб забясьпечыць пролетарызацыю ВНУЗ'аў і ВТУЗ'аў у той меры, як гэта вырашана партыяй.

Наступнай важнейшай задачай вытворчых ячэек павінна быць забясьпечаньне нармальнай вытворчай практыкі для студэнтаў ВНУЗ'аў і ВТУЗ'аў, у гэтай галіне перад ячэйкамі стаяць наступныя канкрэтныя задачы:

*Раней за ўсё трэба праверыць, на колькі кіраўніцтва прадпрыемства пайшло на сустрэч пры організацыі вытворчай практыкі, ці няма выпадкаў адказаў у прыёме для вытворчай практыкі бяз важкіх падстаў, далей трэба прагледзець, ці прыняты ўсе неабходныя захады для таго, каб забясьпечыць студэнтам магчымасць сапраўды вывучаць працэсы вытворчасьці, а ня зьбіраць сьмецьце.*

І на рэшце неабходна, каб ячэйкі садзейнічалі стварэньню неабходных абставін для тых, хто прышоў для вытворчай практыкі. Ячэйкі таксама павінны ўсіх тых, хто прышоў на завод да вытворчай практыкі, прыцягнуць да актыўнай грамадзкай работы, вядучы рашучую барацьбу з усімі настроямі „адмаўленьня" ад грамадзкай работы. Ячэйкі павінны пры вызначэньні характару і памераў нагрузкі ўлічваць характар задачы, якая стаіць перад тым, хто займаецца вытворчай практыкай; напрыклад, зусім недапушчальна пасылаць тых, хто спэцыяльна прышоў вывучаць працэсы вытворчасьці, у якасьці брыгадзіраў на вёску на доўгі тэрмін. Так выкарыстоўваць студэнтаў было-б праступкам.

Наступнай сур'ёзнай задачай вытворчых ячэек у галіне падрыхтоўкі тэхнічных кадраў зьяўляецца організацыя высоўваньня па тэхнічнай лініі; ёсьць у нас многа рабочых, якія могуць стаць майстрамі, ёсьць у нас многа майстраў, здольных выконваць абавязкі тэхнікаў, многа ёсьць тэхнікаў, якія здольны выконваць інжынэрныя функцыі. Зусім зразумела, што рабочым майстрам, тэхнікам для таго, каб яны пасьпешна выконвалі ўскладзеныя на іх абавязкі, трэба дапамагчы атрымаць неабходныя тэхнічныя веды. Дык вось ячэйкі і абавязаны заняцца пытаньнямі падбору кандыдатур для высоўваньня, пытаньнямі падвышэньня кваліфікацыі, узроўню тэхнічных ведаў гэтых груп рабочых майстраў і тэхнікаў.

Мы асабліва падкрэсьліваем неабходнасьць для ўсіх вытворчых ячэек актывізаваць сваё кіраўніцтва ў галіне падняцьця ўзроўню тэхнічных ведаў і кваліфікацыі рабочых мас.

Бяз гэтага мы ня зможам правесьці сапраўдную рацыяналізацыю нашай вытворчасьці, бяз гэтага мы ня зможам так шпарка, як нам трэба, правесьці ўсю работу прадпрыемства на вышэйшую ступень. Пры чым мы зьвяртаем увагу на тое, што актыўны ўдзел рабочых у галіне рацыяналізацыі, тэхнічнай рэконструкцыі тармозіць і недастатковасьць спэцыяльных ведаў. Калі ранейшыя веды былі ў агульным дастатковы ў пэрыяд адбудовы, дык цяпер яны зусім недастатковы. Актыўнасьць рабочых у галіне вытворчасьці можа быць паднята на яшчэ большую вышыню ў выніку падвышэньня ўзроўню тэхнічных ведаў рабочых мас.

Барацьба з шкодніцтвам на прадпрыемствах, як важнейшая задача рабочае клясы, таксама патрабуе падняцьця ўзроўню тэхнічных ведаў рабочых.

У галіне падрыхтоўкі тэхнічных кадраў вялікае месца займае наша работа сярод спэцыялістаў. Бо не сакрэт, што многія інжынэрна-тэхнічныя сэкцыі пры заўкомах мала чаго робяць, і гэтая задача павінна быць у бліжэйшы час разьвязана.

Перажываемы намі этап барацьбы асабліва яскрава пацьвярджае неабходнасьць прыцягненьня спэцыялістаў да актыўнай творчай работы па социялістычнаму будаўніцтву, у той-жа час няшчадна выкрываючы ўсіх яўных і скрытых шкоднікаў. Ячэйкі павінны паставіць перад сабою задачу заваяваць для актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве ўсіх тых, хто на гэта здольны і хто гэтага варты. Ячэйкі павінны арганізаваць клясавае выхаваньне спэцыялістаў.

Вядучы рашучую барацьбу з усімі праявамі шкодніцтва, нашы ячэйкі павінны сыстэматычна правяраць выкананьне дырэктыў партыі аб стварэньні для спэцыялістаў здаровых і спрыяючых абставін для работы, пры чым мы звaрочваем асаблівую ўвагу на ўмовы работы маладых спэцыялістаў.

Вось тыя некаторыя асноўныя задачы, якія стаяць перад вытворчымі ячэйкамі ў галіне падрыхтоўкі тэхнічных кадраў. Калі да гэтага дабавіць, што перад нашымі вытворчымі ячэйкамі стаяць вялізарныя задачы, па садзейнічаньню ўсёй партыі ў праверцы работы ВНУЗ'аў і ВТУЗ'аў, дык стане ясна, што хоць работы і многа, але галоўнае яе можна выканаць, і яна нам пад сілу. Трэба толькі сур'ёзна ўзяцца за гэтую справу.

У пляне ўсёй работы па праверцы выкананьня рашэньняў партыі аб падрыхтоўцы тэхнічных кадраў, ячэйкі павінны асабліва заняцца праверкай таго, як ячэйкі КСМ, фабзаўкомы змаглі разьвязаць пастаўленыя перад імі задачы. І чым актыўней будзе ячэйка ў галіне праверкі таго, што зроблена, тым лепш яна разьвяжа стаячыя перад ёю задачы.

Трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што ўсе партыйцы павінны зразумець, што праблема тэхнічных кадраў, гэта праблема камандных кадраў нашай соцыялістычнай прамысловасьці, нашай соцыялістычнай гаспадаркі ў цэлым. Трэба зразумець кожнаму партыйцу, што мы павінны весьці барацьбу з клясавым ворагам за тэхнічныя кадры, за перавыхаваньне ў большасьці тых кадраў, якія мы атрымалі ў спадчыну ад старога ладу і за шпаркае стварэньне сваіх новых кадраў.

Толькі опортуністы ў тэорыі, опортуністы на практыцы могуць недаацаніць усёй астраты праблемы кадраў сёньня; менавіта сёньня, наколькі супраціўленьне клясавага ворага ўзмацнілася ў сувязі з пасьпешным наступам соцыялізму на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі.

# Агітацыя і прапаганда.

А. Гаруновіч.

## СУПРОЦЬ ІДЭІ БЕСПАРТЫЙНАСЬЦІ.

### З блёк-ноту агітатара.

*„Беспартыйнасьць ёсьць ідэя буржуазная. Партыйнасьць ёсьць ідэя соцыялістычная“.*
*Н. Ленин, т. VII, ч. 1, стар. 45.*

### „Я лічу, што соцыялізм можна будаваць і быць не ў радох партыі“.

У сучасных умовах, калі бурна расьце соцыялістычная прамысловасьць, будуюцца гіганты-заводы, калі партыя забясьпечыла карэнны паварот вёскі да соцыялізму, мы наглядаем новае сярод рабочых. Гэта новае заключаецца ў тым, што рабочыя, адзінадушна падтрымліваючы політыку нашае партыі, політыку, накіраваную на ліквідацыю кулацтва як клясы, пайшлі цэлымі цэхамі і аддзяленьнямі ў шэрагі партыі. Аб чым гэта гаворыць? Аб тым, што партыя вядзе правільную ленінскую політыку, політыку, якая знаходзіць энэргічнае падтрыманьне ў самых шырокіх колах рабочых. Уступленьне рабочых у шэрагі комуністычнае партыі цэлымі цэхамі лішні раз упэўнівае ўсю партыю ў правільнасьці яе самай рашучай барацьбы з правым ухілам як найбольш небясьпечным у даны пэрыяд, так і з рэшткамі троцкізму ў выглядзе „левых загібаў“ і з прымірэнцтвам да гэтых ухілаў.

Сярод перадавых рабочых ідэя бальшавіцкай партыйнасьці і дысцыпліны знаходзіць поўнае спачуваньне і падтрыманьне. Рабочыя разумеюць, што толькі моцны, організаваны і дысцыплінаваны авангард пролетарыяту—комуністычная партыя зьяўляецца парукай таму, што соцыялістычнае будаўніцтва з посьпехам будзе прасоўвацца ўперад. Інакш і ня можа быць. Гісторыя клясавай барацьбы наглядна вучыць таму, што пролетарыят, маючы монолітную партыю, партыю бальшавікоў, здолее перамагчы ўсе цяжкасьці на шляху разбурэньня і зьнішчэньня старога грамадзкага ладу і ўтварэньня новага, соцыялістычнага грамадзтва. Аднак, дзякуючы слабасьці ў некаторых мясцох нашай масавай работы, мы сустракаемся з рабочымі, якія не разумеюць значэньня бальшавіцкай партыйнасьці. Зьвернемся да канкрэтных прыкладаў: тав. Г—к зараз працуе качагарам на прадпрыёмстве. Нядаўна ўступіў у партыю. У гутарцы аб матывах прыходу ў партыю кажа наступнае:

> *„Я лічыў, што соцыялізм можна будаваць і быць не ў радох партыі, толькі сумленна адносіцца да работы і выконваць грамадзкую працу, якая мне даручана“.*

Гэты рабочы зьяўляецца надта актыўным грамадзкім работнікам. Ён выконвае шэраг адказных выбарчых грамадзкіх абавязкаў і зьяўляецца вельмі карысным удзельнікам вытворчай нарады. Цікава, чым-жа яшчэ таварыш Г—к тлумачыць сваё „позьняе“ ўсьведамленьне неабходнасьці ўступіць у шэрагі партыі?

> „Па-другое—кажа ён, што рабочыя маглі-б маё ўступленьне ў партыю ацэньваць, як кар'ерызм, бо непасрэдная небясьпека на фронце вайны скончана, а ў мірны час я ўступаю як быццам на чужое, кім-та заваёванае“.

Калі прытрымлівацца лёгікі гэтага таварыша, тады трэба зрабіць такі вынік, што

ў партыю ідуць толькі дзеля „кар'еры" і што ўступаць у партыю можна толькі ў час непасрэднай пагрозы з боку імпэрыялістых існаваньню Савецкага Саюзу.

Гэтыя думкі груба памылковыя. У партыю ідуць усе актыўныя, перадавыя рабочыя, якія зразумелі мэты свае клясы, незалежна ад часу, калі яны гэта ўсьвядомілі. У партыю ідуць усе перадавыя элемэнты клясы пролетараў дзеля таго, каб дапамагчы ёй перамагаць усе цяжкасьці рэволюцыйнай барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва.

З гутарак з некаторымі беспартыйнымі рабочымі аб тым, чаму яны ня ўступаюць ў шэрагі партыі, будучы актыўнымі ўдзельнікамі грамадзкай работы, высьветліліся самыя розныя мотывы. Так, напрыклад, кваліфікаваны рабочы Менскай Электрастанцыі кажа наступнае:

> *„Я даўно думаў уступіць у партыю, але не магу парваць сувязі з вытворчасьцю і маецца такая думка ў мяне калі пойдзеш у партыю, дык згубіш кваліфікацыю. Я лічу лепш актыўна ўдзельнічаць у пабудове соцыялізму беспартыйным".*

Як відно са слоў гэтага рабочага, у яго інтарэсы вытворчай кваліфікацыі стаяць вышэй, чым інтарэсы партыі, гэта значыць, вышэй інтарэсаў усяе клясы пролетарыяту, хаця і трэба папярэдзіць, што партыя ні ў кога не „адбірае" кваліфікацыі, а выкарыстоўвае членаў партыі на тых вучастках работы, дзе ў даны пэрыяд патрабуюцца партыйныя сілы.

Зразумела, комунізм не пабудуеш аднымі рукамі партыйцаў. Аб гэтым часта паўтараў Ленін. Трэба ўцяміць і другое, што ня кожны рабочы можа быць прыняты ў шэрагі партыі. Партыя прытрымліваецца індывідуальнага прыёму, адбору пры зацьверджаньні новых членаў. Чаму гэта іменна так, даводзіць ня трэба. У складзе рабочае клясы маюцца розныя людзі па свайму ўзроўню разьвіцьця, па сваёй клясавай сьвядомасьці. Ёсьць рабочыя, якія даўно працуюць на вытворчасьці, „потомственные пролетарии", як кажуць. Ёсьць нядаўна прыйшоўшыя з вёскі, яшчэ не парваўшыя канчаткова з перажыткамі дробна-буржуазнай ідэолёгіі. Ёсьць і былыя дробныя гандляры, саматужнікі і г. д. Таму практыка індывідуальнага адбору захоўваецца партыяй, як сродак узмацненьня і папаўненьня партыі сапраўднымі пролетарскімі элемэнтамі, адданымі справе соцыялізму.

Перадавыя рабочыя, актыўныя ўдзельнікі грамадзкага жыцьця, удзельнікі соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарных брыгад павінны ўцягвацца ў шэрагі нашае партыі і над практычным разьвязваньнем гэтае задачы павінен працаваць кожны сябра партыі на прадпрыемстве. Цяпер ужо нельга абмежавацца выкананьнем дырэктывы Лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) (1928 год), аб давядзеньні 50% рабочых ад варштатаў у складзе партыі да канца 1930 году. Пасьля гэтага пленуму ў нашай краіне праходзяць вялічэзныя зрухі ў справе індустрыялізацыі і колектывізацыі бядняцка серадняцкіх гаспадарак. Гэта высоўвае новую задачу—задачу значнага ўзмацненьня за кошт перадавых батракоў і беднякоў-калгасьнікаў нашых вясковых партыйных організацый. Таму проблема далейшага пасіленьня вярбовачнай работы на фабрыках і заводах набывае асабліва важнае значэньне. У гэтай сувязі знаходзіцца і справа пасіленьня партыйна-масавай і растлумачальнай работы на прадпрыемствах, бо прыклады, якія мы паказалі і пакажам далей, гавораць аб слабай масавай рабоце на прадпрыемствах. Чым іншым можна тлумачыць тое, што асобныя актыўныя рабочыя не разумеюць вялікага значэньня бальшавіцкай партыйнасьці? Толькі тым, што мы ў сваёй штодзеннай вярбовачнай рабоце не зварочваем належнай увагі растлумачэньню значэньня партыі, як авангарда клясы.

Пяройдзем да другіх беспартыйных рабочых. Тав. П—скі, кваліфікаваны рабочы, кажа, што

> *„я не пайду ў партыю да таго часу, пакуль ня вычысьцяць з партыі ўсіх негадзяеў". Абгрунтоўваючы гэтую сваю думку, тав. кажа, што„ апрача таго партячэйка мала праводзіць адчыненых сходаў, пачынаюць сход адчыненым, а потым абвяшчаюць, што зачынены і трэба выходзіць".*

У адным толькі з гэтым тав. можна згадзіцца: некаторыя ячэйкі сапраўды вельмі мала склікаюць адчыненых сходаў

і дрэнна абвяшчаюць аб адчыненых сходах беспартыйных рабочых. У выніку мы наглядаем на некаторых прадпрыемствах дрэннае наведваньне партыйных сходаў з боку беспартыйных рабочых. Што датычыцца другога палажэньня, аб тым, што трэба чакаць, пакуль вычысьцяць з партыі ўсіх шкодных элемэнтаў, то тут мы рашуча разыходзімся з тав. П—скім. Не чакаць пакуль партыя выкрые шкодніка, прымазаўшагася шкурніка і выкіне яго з сваіх шэрагаў, а ісьці ў партыю і, будучы ў ёй, рашуча змагацца за чыстату яе рабочых шэрагаў. Зразумела, кожны сьвядомы беспартыйны пролетары павінен дапамагаць партыі выкрываць усіх разлажыўшыхся, шкоднікаў і г. д., якія па непаразуменьню папалі ў шэрагі партыі. Але, калі пытаньне стаіць так, як ставіць яго т. П—скі, то мы павінны адказаць, што ўсякі працоўны, каму дарагі інтарэсы партыі, будзь ён партыйны, альбо беспартыйны, павінен дапамагаць сваёй партыі ў змаганьні з людзьмі, выпадкова і памылкова папаўшымі ў шэрагі партыі.

Другі рабочы разважае так:

*„Можна быць і не ў радох партыі, а карысьці прыносіць больш, бо часта ў партыю ідуць, каб дабіцца лепшай працы, палепшыць сваё становішча, а я гэтага не хачу, калі ісьці ў партыю, дык трэба працаваць“.*

Ясна, што калі ісьці ў партыю, дык трэба працаваць па яе заданьнях. Інакш і быць ня можа. Калі ты прызнаеш статут і програму партыі, калі ты зьяўляешся актыўным удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва, калі ты ўцяміў, што толькі, будучы ў шэрагах партыі, станеш перадавым барацьбітом за справу рабочае клясы, дык табе зусім няцяжка будзе выконваць даручэньні партыі. Карысьці для справы ўсяе клясы можна прыносіць больш імення ў шэрагах комуністычнае партыі. Чаму гэта так? Таму, што партыя яднае больш сьвядомых прадстаўнікоў усяе клясы пролетараў, якія і ідуць у партыю дзеля таго, каб быць больш карыснымі для справы зьнішчэньня капіталізму і ўстанаўленьня соцыялістычнага вобчаства. Толькі буржуазіі карысна распаўсюджваць ідэю беспартыйнасьці, бо яна ведае, што чым менш будзе організованым і згуртаваным пролетарыят у асобе сваёй партыі, тым лягчэй ёй будзе перамагчы выступленьні пролетарыяту. І таму глыбока памыляецца той, хто кажа, што можна быць больш карысным, не знаходзячыся ў шэрагах партыі.

Цяпер адносна тых, хто ідзе ў партыю з асабістых разрахункаў, з мэтай кар‘ерызму. І тут мы павінны адказаць, што абавязак кожнага беспартыйнага і партыйнага рабочага выкрываць усіх тых, якія выкарыстоўваюць сваю партыйную прыналежнасьць у асабістых, шкурных і кар‘ерысцкіх мэтах. Нельга, каб асобныя выпадкі „пролезания“ ў партыю шкурных элемэнтаў былі перашкодай да ўступленьня ў яе шэрагі сумленных лепшых элемэнтаў рабочае клясы. І таму рабочы, зацікаўлены ў узмацненьні сваёй партыі, ніколі так разважаць ня будзе.

Некаторыя другія рабочыя кажуць, што

„мы-б даўно ўступілі ў партыю, але жонкі ў нас вельмі рэлігійныя і іх цяжка перавыхаваць. Мы асабіста сувязі з рэлігіяй ня маем, але з рэлігійнымі жонкамі справіцца ня можам“.

Таму, робяць яны вынікі, „трэба раней жонак перавыхаваць, а потым уступаць у партыю, бо ў праціўным выпадку можна скампрометаваць партыю“.

Клопаты гэтых таварышоў аб чыстаце партыйных шэрагаў трэба вітаць. Але тут-жа трэба запытаць іх: а чаму нельга займацца перавыхаваньнем сваёй жонкі, калі ты будзеш сябрам партыі? Нам здаецца, што гэта можна зрабіць і яшчэ з большым посьпехам, бо, будучы ў шэрагах партыі, кожны комуністы атрымоўвае веды, якія значна павялічваюць кругагляд і палягчаюць магчымасьці ўплыву на акаляючае асяродзішча. Але да гэтага пытаньня мы жадаем падыйсьці з другога канца. Не выпадкова рабочы скардзіцца на рэлігійнасьць жонкі. Адсюль мы можам зрабіць такі вынік: відавочна, наша антырэлігійная работа на прадпрыемствах і асабліва сярод сем‘яў рабочых стаіць да гэтага часу на нявысокім узроўні. Мы ня зьбіраемся абагульваць асобныя факты, аднак шэраг іншых паказчыкаў дае магчымасьць менавіта так ацэньваць становішча антырэлігійнай работы і культурна-масавай работы з сем‘ямі рабочых.

## Погляды Леніна на ідэю беспартыйнасьці.

Ленін на працягу ўсяго часу змагаўся з буржуазнай ідэяй беспартыйнасьці, заклікаючы перадавых рабочых у шэрагі партыі бальшавікоў дзеля кіраваньня рэволюцыйным рухам пролетарыяту і барацьбы за соцыялізм. Тут-жа неабходна падкрэсьліць, што кожны беспартыйны рабочы павінен дапамагаць партыі выкрываць і зьнішчаць усе недахопы. Тут-жа неабходна падкрэсьліць, што і будучы беспартыйным можна з посьпехам працаваць на карысьць усяе рабочае клясы. Мы ўжо адзначылі пра думку Леніна аб тым, што будаваць соцыялізм рукамі адных толькі партыйцаў немагчыма, што ў справу соцыялістычнага будаўніцтва трэба ўцягваць усю масу працоўных. Аднак больш ясна і выразна трэба сказаць аб тым, што рабочы, які ідзе ў шэрагі комуністычнае партыі, узмацняе гэтым самым авангард сваёй клясы, ён становіцца ў шэрагі організаваных і дысцыплінаваных барацьбітоў за перамогу соцыялізму. Аб гэтым у нас не заўсёды тлумачыцца ў шырокіх колах беспартыйных рабочых. Справу росту партыі можна было-б прасунуць значна скарэй і лепш, калі-б нашыя агітатары і прапагандыстыя, парколектывы і парторганізатары растлумачвалі значэньне партыі бальшавікоў у клясавай барацьбе пролетарыяту, значэньне барацьбы з буржуазнай ідэяй беспартыйнасьці, за пролетарскую, соцыялістычную ідэю партыйнасьці.

Усім вядома, што наша краіна зараз перажывае пэрыяд шпаркай соцыялістычнай рэконструкцыі, што лёзунг партыі аб ліквідацыі кулацтва як клясы становіцца галоўным лёзунгам нашае політыкі ў адносінах да вясковага кулацтва і што, на аснове гэтага, клясавая барацьба ў краіне прыймае асабліва жорсткія формы, бо рашучае соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты падрыхтоўвае, расчышчае *глебу* для соцыялізму. Разьюшанае кулацтва ўжо зараз дзені-дзе выкідвае лёзунгі накшталт таго, што *„Далоў камуністых, няхай жыве савецкая ўлада“*. Аб чым гэта сьведчыць? Аб тым, што буржуазія наогул і „наша“ кулацтва ў прыватнасьці выкарыстоўвае партыйнасьць у сваіх клясавых мэтах. Гэта сьведчыць аб тым, што буржуазія хоча паслабіць партыю пролетарыяту і навязвае рабочай клясе ідэю беспартыйнасьці, добра ведаючы, што без баявой рэвалюцыйнай партыі, якая пасьлядоўна змагаецца з капіталізмам, можна разбурыць цесныя рады пролетарыяту і атрымаць перамогу над ім. Буржуазіі карысна выкарыстоўваць ідэю партыйнасьці ў сваіх мэтах. Зноў такія прыклады з жыцьця Савецкага Саюзу гавораць аб гэтым (ня кажучы ўжо аб Заходняй Эўропе). Вядома, што кулацтва ў свой час высоўвала і распаўсюджвала сярод сялян ідэю стварэньня „сялянскага саюзу“, у якім кулацтва ўзяло-б верх і наладжвала-б організаваную барацьбу супроць комуністычнае партыі, савецкае ўлады, у якім падрыхтоўваліся-б выбухі супроць савецкае ўлады і дыктатуры пролетарыяту. Мэты сельскае буржуазіі былі ясныя: падрыхтаваць разрыў саюзу рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства і адцягнуць у свой бок беднату і, такім чынам, дасягнуць краху дыктатуры пролетарыяту. Гэта наглядны прыклад таго, як ідэя партыйнасьці выкарыстоўваецца ў клясавых мэтах буржуазіі. Гэта трэба памятаць кожнаму рабочаму, бо ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту значна ўзрастае роля партыі, як кіраўніка ў сыстэме дыктатуры пролетарыяту. Ленін падкрэсьлівае, што ў гэтых умовах адвярожэньне партыйнасьці і партыйнай дысцыпліны *„равносильно полному разоружению пролетариата в пользу буржуазии“*. „Ленін кажа, што

> *„беспартийность всегда и везде служила лозунгом буржуазии“, што „в интересах открытой и широкой классовой борьбы необходимо развитие строгой партийности“, бо, па думцы Леніна, „кто сознательно или бессознательно стоит на стороне буржуазного порядка, тот не может не чувствовать влечения к идее беспартийности“. І далей „строгую партийность всегда отстаивала и отстаивает только... партия сознательного пролетариата“, бо „строгая партийность есть одно из условий, делающих классовую борьбу сознательной, ясной, определенной, принципиальной“. (Ленин, том VII 1 стр. 41—47 „Соцыялістычная партыя і беспартыйная рэвалюцыйнасьць“).*

Лепш за ўсё Ленінскую думку аб тым, што „беспартийность всегда и везде слу-

жила лозунгом буржуазии" пацьвярджае кранштадзкі мяцеж. Там буржуазія, арганізуючы паўстаньне супроць дыктатуры пролетарыяту, высунула лёзунг беспартыйнасьці: „за саветы, супроць комуністаў". Буржуазія добра ведала, што, змагаючыся супроць партыйнага кіраўніцтва, супроць бальшавіцкай партыі, яна можа скінуць дыктатуру пролетарыяту. Буржуазія добра ведала пра ролю партыі ў барацьбе рабочае клясы, калі яна выкідвала лёзунг „за саветы, супроць комуністых".

Гісторыя нашае партыі зьмяшчае шмат прыкладаў барацьбы Леніна за непрымірымую бальшавіцкую партыйнасьць. Возьмем такія прыклады, як змаганьне з экономістымі, якія ня бачылі патрэбы ў політычнай партыі і прапанавалі рабочай клясе весьці эканомічную барацьбу, барацьбу за свае матэр'яльныя інтарэсы. Экономістым Ленін адказваў так, што „трэба, каб рабочая кляса організоўвалася ў політычную партыю, бо без політычнай партыі рабочая кляса ня здолее ўзьняцца да сьвядомай клясавай барацьбы, бяз гэтай організацыі рабочы рух асуджаны на бясьсільле". Ленін лічыў, што толькі пры наліччы сваёй партыі пролетарыят здолее перамагчы царызм, буржуазію і ўстанавіць дыктатуру пролетарыяту. У сучасных умовах, пры дыктатуры пролетарыяту, значэньне партыі яшчэ больш узрастае. Ленін аб гэтым пісаў, што

> *„без партии, железной и закаленной в борьбе, без партии, которая пользуется доверием всего честного в данном классе, без партии, которая может следить за настроением масс и влиять на массы, проводить успешно эту борьбу невозможно".*

Зразумела, што рабочы, зацікаўлены ва ўмацаваньні і ў разьвіцьці сваёй партыі і той, хто несьвядома абараняе сваю беспартыйнасьць, зьбіваецца на шлях нявыгадны партыі, пролетарыяту.

Чаму мы так падрабязна спыніліся на ідэі беспартыйнасьці? Таму, што, дзякуючы недахопам нашае масавай работы, некаторыя беспартыйныя актывісты-рабочыя ганарацца сваёй беспартыйнасьцю, ня ўлічваюць вялікага значэньня партыі і партыйнасьці ў клясавай барацьбе ўсяе рабочае клясы. Пасіліць вярбоўку ў партыю перадавых рабочых можна яшчэ больш, калі мы растлумачым погляды Леніна на партыю, партыйнасьць і на ідэю беспартыйнасьці.

Кожны член партыі павінен працаваць над пасіленьнем росту партыі, зрабіўшы справу росту штодзеннай справай, справай кожнага сябра партыі, мы зможам дасягнуць значных вынікаў у вярбовачнай рабоце партыі.

Зараз шырока разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва мас. Мы маем вялічэзныя зрухі ў тэмпах работы. Разьвіваецца ўдарніцтва, організуюцца ўсё новыя і новыя ўдарныя брыгады, куды ўцягваюцца лепшыя рабочыя, шчыра зацікаўленыя ва ўздыме соцыялістычнай прамысловасьці. Удзельнікі соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарных брыгад зьяўляюцца цэлым рэзэрвам для нашае вярбовачнае работы. Паварот парторганізацыі „тварам да вытворчасьці" павінен быць адзначаны і значным пасіленьнем вярбоўкі ў партыю перадавых лепшых рабочых, прыкладных да вытворчасьці і актыўных удзельнікаў грамадзкай работы.

Перабудаваўшыся на сыстэму сэктароў (гл. № 3—4 „Партыйнага Работніка"), утварыўшы сэктар па росту партыі і згуртаваўшы наўкола яго лепшых актывістых-партыйцаў, можна дасягнуць таго, што кожны рабочы будзе добра ведаць думкі Леніна аб ідэі беспартыйнасьці, аб ролі партыі ў клясавай барацьбе пролетарыяту. Апрача таго, работнікі сэктароў павінны будуць значна пасіліць вярбовачную работу.

Васьковіч.

# Партячэйка і масавая вайсковая прапаганда.

Гады „мірнай перадышкі“ для працоўных нашай краіны не прайшлі дарма. Ліквідуючы вынікі разбурэньня 2-х войн, мы прыступілі да новага, яшчэ нябачнага ў гісторыі, грандыёзнага соцыялістычнага будаўніцтва.

Але, займаючыся соцыялістычным будаўніцтвам, працоўныя нашай краіны вымушаны памятаць аб вайсковай небясьпецы і аб узмацненьні абараназдольнасьці пролетарскае дзяржавы. Адным з мэтадаў узмацненьня абароны нашага Саюзу зьяўляецца масавая вайсковая прапаганда сярод працоўных, якія знаходзяцца па-за шэрагамі арміі.

Масавая вайсковая прапаганда, закліканая да ўзмацненьня абараназдольнасьці нашае краіны, зьяўляецца важнейшай задачай савецкае грамадзкасьці і складае неадрыўную частку агульнай масавай агітацыйна-прапагандысцкай работы нашае партыі.

Задачы вайсковай прапаганды ў асноўным зводзяцца да сыстэматычнага азнаямленьня працоўных з міжнародным становішчам Савецкага Саюзу і выхаваньня сярод працоўных няўхільнай волі і імкненьня да актыўнай абароны Савецкага Саюзу, да элемэнтарнай баявой падрыхтоўкі працоўных і да стварэньня грамадзкае ўвагі да пытаньняў узмацненьня абараназдольнасьці Савецкага Саюзу, у прыватнасьці ў галіне разьвіцьця авіацыі і хэміі.

Гэтыя агульныя вайскова-прапагандысцкія задачы павінны знайсьці праламленьне ў штодзённай практычнай агітацыйнай рабоце нашых партыйных арганізацый. Шырачэзныя масы рабочае клясы і працоўных мобілізаваны нашай партыяй вакол пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва. Задача партыйнай ячэйкі зьяўляецца ў тым, каб зьвязаць пытаньні соцыялістычнага будаўніцтва з пытаньнямі абароны краіны. Патрэбна даказаць узаемазалежнасьць нашага соцыялістычнага будаўніцтва ад ступені абараназдольнасьці краіны, што пяцігодка соцыялістычнага будаўніцтва адначасова зьяўляецца „пяцігодкай абароны“ Савецкага Саюзу.

У вайскова-прапагандысцкай рабоце патрэбна ўдзяліць асаблівую ўвагу вывучэньню характару і форм будучай вайны. Нельга абмежавацца ўсваеньнем аднэй толькі ісьціны аб ролі фронту і тылу, аб ролі тэхнікі і інш., але патрэбна ацаніць соцыяльна-палітычныя фактары (міжнародны рэволюцыйны рух, клясавыя супярэчнасьці ў краінах імпэрыялістых і г. д.), якія будуць адыгрываць значную ролю ў будучай вайне.

Гэтыя задачы дасягаюцца двума мэтадамі: масавай вайсковай прапагандай у клюбах, нардамох, хатах-чытальнях і чырвоных кутках; спэцыяльнай вайсковай вучобай на курсах і ў гуртках вайсковых ведаў.

Вайсковая работа сярод працоўных нашай партыяй ускладзена на організацыі ОСО-авіяхіма. Але гэта яшчэ ня значыць, што адказнасьць за становішча гэтай работы здымаецца з партыйных, комсамольскіх, профэсыянальных і палітасьветных організацый. Наадварот, становішча гэтай работы, асабліва ва ўмовах усё абвастраючыхся міжнародных абставін і нарастаньня вайсковай небясьпекі для Савецкага Саюзу,

*патрабуе асабліва пільнае ўвагі да пытаньняў узмацненьня абароны Савецкага Саюзу з боку ўсіх нашых організацый і ў першую чаргу парторганізацый.*

Між тым, становішча вайсковай работы ў шэрагу організацый сыгналізуе аб тым, што патрэбнае ўвагі да гэтай работы ўсё яшчэ няма.

Мы ня дрэнна праводзім „вялікія кампаніі“—гадавіна Чырвонай арміі, „тыдзень абароны“, манэўры і інш. Вакол гэтых кампаній мы мабілізуем увагу працоўных мас да пытаньняў абароны і дасягнулі ня дрэнных вынікаў у справе ўзмацненьня нашага паветранага флёту і хэмізацыі краіны. А ад кампаніі да кампаніі ячэйкі і організацыі ОСО авіяхіму прадастаўлены самым сабе, няма кіраўніцтва практычнай работай організацый ОСО-авіяхіму, маючыяся кадры адрываюцца на іншую працу, няма ўстаноўленага часу для вайсковых заняткаў і інш.

Пачаўшыся агляд міжзборавай работы ў раёне камплектаваньня тэрчастак ужо паказаў, што гэтая праца пастаўлена надзвычайна слаба, галоўным чынам з-за адсутнічаньня кіраўніцтва і ўвагі ёй. Аб гэтым-жа кажуць вынікі вярбовачнай кампаніі ў вайсковыя школы мінулага году. Асноўная дырэктыва партыі аб палепшаньні соцыяльнага складу кандыдатаў у вайсковыя школы выканана няпоўнасьцю, бо партыйнага кіраўніцтва работай вярбовачных камісій ня было.

Слабасьць вайсковай работы ў асноўным тлумачыцца тым, што партыйныя ячэйкі кіравалі гэтай працай „наогул і цалкам“, але ня было асоб, адказных за гэтую справу, ня было выканаўцаў. Інстытут ваеноргаў па ячэйках, уведзены пастановай ЦК яшчэ ў сакавіку месяцы мінулага году, ніякіх палепшаньняў у справе пастаноўкі вайсковай працы ня даў, бо гэтыя ваеноргі часта вылучаны фармальна, ніхто іх не інструктаваў, а ў некаторых ячэйках ваеноргі зусім ня вылучаны. Перабудова форм і мэтадаў партыйнай работы павінна ўнесьці зьмены ў бок палепшаньня партыйнага кіраўніцтва вайсковай работай.

*Аргнарада пры ЦК КП(б)Б выказался за стварэньне пры Райкомах КП(б)Б спэцыяльных сэктараў па вайсковай рабоце, а ў ячэйках захаваць інстытут ваеноргаў. Было-б ня дрэнна, у найбольш буйных парколектывах, організаваць таксама спэцыяльныя сэктары па вайсковай рабоце, а работу ваенорга перанесьці ў цэхячэйку.*

Сэктары па вайсковай рабоце займаюцца наступнымі пытаньнямі:

а) Кіраўніцтва работай адпаведнай організацыі ОСО-авіяхіму, увязка пляну ваеннай работы ў раёне ці на прадпрыемстве з агульным плянам работы партыйных і грамадзкіх організацый, прыстасоўча да ўмоў данага раёну альбо прадпрыемства (работа ў калгасах, саўгасах, многазьменнасьць і пяцідзеўка на прадпрыемствах і г. д.) і ў сувязі з гэтым вызначае меры да аб'яднаньня часткі вайсковай работы вакол сталых пунктаў, вынесшы яе з межаў заводу альбо асобнай вёскі, напрыклад, вайсковая падрыхтоўка вайскова-няпісьменных комуністых і комсамольцаў, работа гурткоў 1 ступені і г. д.

б) Пэрыядычная праверка становішча вайсковага вучоту комуністых, вучот вайскова-няпісьменных членаў і кандыдатаў КП(б)Б і нагляд за ходам вайсковага навучаньня. Распрацоўка мерапрыемстваў па падвышэньні вайсковай падрыхтоўкі членаў партыі радавога на чальствуючага складу запасу.

в) Падрыхтоўка і правядзеньне кампаній, зьвязаных з міжнародным становішчам Савецкага Саюзу і па бягучых пытаньнях вайсковай работы—вярбоўка ў ваенныя навучальныя ўстановы, гадавіна Чырвонай арміі, чарговыя прызывы і г. д.

г) Падбор і падрыхтоўка кадраў на вайсковую работу, організатараў вайсковай работы ў партячэйках, кіраўнікоў ОСО-авіяхімскай работы і яго практычных організацый.

д) Кіраўніцтва шэфскай работай над часткамі Чырвонай арміі, адшуканьне новых мэтадаў шэфскай работы.

е) Правядзеньне міжзборавай работы ў раёнах камплектаваньня тэрчастак і організацыя дапамогі партыйцам-пераменьнікам у прапрацоўцы індывідуальных заданьняў.

ж) Кіраўніцтва вайсковымі аддзеламі і прапагандай абароны ў шматтыражных і насьценных газэтах.

Міжнародныя абставіны нашай краіны патрабуюць асаблівае ўвагі да пытаньняў узмацненьня абароны краіны. Адгаварвацца адсутнасьцю часу недапусьціма. Дзеля гэтае працы павінна быць адведзена адпаведнае месца, час і ўвага.

Пятушкоў.

# Аб недахопах партвучобы.

*(Фрунзаўскі раён).*

Пытаньням партыйнае асьветы, падрыхтоўцы кадраў партыя ўдзяляе вялізарную ўвагу. Усё-ж, ня гледзячы на гэта, у Фрунзаўскай раённай партыйнай арганізацыі партасьвета паляпшаецца з вялікім адставаньнем ад патрэбных тэмпаў. Аб гэтым гавораць вынікі 1-га навучальнага (1929-30) паўгодзьзя і недахопы, якія маюцца ў партасьвеце.

## Вынікі першага навучальнага паўгодзьдзя.

У 1928-29 навучальным годзе Адзінай партшколай было ахоплена па раёну ўсяго 451 чал., у 29-30 г.—892 чал., ня лічачы арганізаваных пры Адзінай райпартшколе ў 2-м паўгодзьдзі 32-х груп па ахопу партвучобай Ленінскага набору 1930 г. і беспартыйнага актыву ёю ахоплена каля 800 чал.

Вячэрняй Саўпартшколай было ахоплена 366 чал., у 29-30 г.—716 чал. Акрамя гэтага, сетка партыйных школ больш прыбліжана, чым у мінулым годзе, да прадпрыёмстваў. Усяго пры прадпрыёмствах (лічачы групы арганізаваныя ў 2 м паўгодзьдзі па ахопу вучобай Ленінскага набору і беспартыйнага актыву) арганізавана 52 групы. У прыгарадных савгасах сёлета арганізавана 4 групы адзінай партшколы, якія працуюць рэгулярна, імі ахоплена каля 100 чал. савгаскіх рабочых. Уся партыйная сетка раёну на 95% працуе на бел. мове.

Растлумачальная работа сярод рабочых аб партыйнай асьвеце на 1929-30 г. была пачата ў канцы жніўня, за месяц да пачатку партыйнай вучобы, аднак масавая растлумачальная работа, у сапраўднасьці, у абсалютнай большасьці ячэек ня была праведзена, а некаторыя ячэйкі дапусьцілі ў гэтай важнейшай справе казёншчыну, абмежаваўшыся расклейкай аб'яў і запісьсю ўсякага, хто толькі запісваўся (яч. Эльвода, Меншвэй і інш.). Такая падрыхтоўка прывяла да вялікага адсеву запісаных у пачатку работы школ. У пачатку навучальнага году ў ячэйках і ў Райкоме адсутнічала навучальная прыемственасьць (вучот, дзе хто вучыўся ў 1928 29 г. і хто куды павінен пайсьці вучыцца ў 1929-30 годзе), а гэта прывяло пры камплектаваньні партыйнай сеткі да таго, што тыя таварышы, якія вучыліся ў 1928-29 г. у адзінай райпартшколе, ішлі ў другі раз у Райпартшколу, а тыя, якія вучыліся у Вяч. Савпартшколе, ішлі ў адзіную райпартшколу, і зусім малапісьменныя, якім неабходна былоісьці на лікпункты, ішлі ў Вяч. Савпартшколу і гэтым утваралася блытаніна ў ходзе камплектаваньня. Апрача гэтага, шырокае праквітненьне саматужніцтва, якое выявілася ў тым, што, не правёўшы дастаткова растлумачальнай работы ў масах аб пабудове і значэньні ўсёй партыйнай, прафэсыйнай і асьветнай сеткі, вербавалі аднаго і таго-ж рабочага ў Вяч. Савпартшколу, Райпартшколу, Вяч. рабочыя школы, гурткі і г. д., гэта прывяло да таго, што таварышы, якія запісаліся, пачалі хадзіць у 3—4 месцы, дзе лепш вучыцца, і нарэшце частка з іх у 1-м паўгодзьдзі засталася зусім бяз вучобы.

## Кадры пропагандыстых і кіраўніцтва імі з боку агіт.-проп. габінэту.

Кадры пропагандыстых заўчасна ня былі падрыхтаваны, ня былі замацаваны

як Райкомам партыі, так і АПО Акругкому за сеткай партыйных школ, а набіраліся ў ходзе самага камплектаваньня партыйных школ і таму значная частка з іх у працэсе работы школ аказалася недастаткова падрыхтаванай ня толькі мэтадычна, але і палітычна. Акрамя гэтага, частая пасылка ў камандыроўку прапагандыстых, іх замена (зьмянілася ў некаторых групах за 1-е паўгодзьдзе па 3—4 прапагандысты), адсутнасьць у 1-м навучальным паўгодзьдзі мэтадычнага кіраўніцтва школамі і падрыхтоўкай кадраў прапагандыстых з боку агітпропгабінэту Дому Камасьветы (т. як у агітпропгабінэце ідзе беспрарыўная зьмена загадчыкаў—4 за 1-е паўгодзьдзе). Такое становішча з кадрамі прапагандыстых утварае вялізарныя цяжкасьці ў партыйнай асьвеце і зьяўляецца вядомай прычынай адсеву слухачоў партыйных школ, бо слухачы, сустракаючыся штомесячна з новымі прапагандыстымі, з новымі падыходамі, пачынаюць губляць жаданьне да вучобы—перастаюць вучыцца.

Пытаньне аб кадрах рабочых-прапагандыстых стаіць яшчэ горш. З 13-ці рабочых прапагандыстых у раёне, якія былі прапушчаны вясною 1929 г. праз месячныя акруговыя курсы прапагандыстых, засталося ў адзінай райпартшколе 2 чалавекі, з прычыны таго, што падбору прапагандыстых ня было дастатковае ўвагі з боку АПО РК і, асабліва, з боку партячэек, і вось таму па сканчэньні курсаў частка таварышоў разьехалася, частка аказалася няздольнай да занятказ, і яшчэ горш таго, што некаторыя ячэйкі высоўвалі матывіроўкі, што, яны сваіх рабочых-прапагандыстых у сябе на прадпрыёмствах не жадаюць мець, бо яны недастаткова аўтарытэтны сярод рабочых мас (Меншвэй).

## Тэорытычная падрыхтоўка партыйнага актыву.

З праведзенага АПО РК вучоту ў лютым м-цы па ахопу тэорытычнай вучобай партактыву раёну (работнікі Бюро РК, сакратары, апоргі ячэек, старшыні фабзаўмясцкомаў, дырэктары прадпрыёмстваў і іх намесьнікі, заг. установамі і іх намесьнікі, работнікі Акрвыканкомаў і інш. устаноў) аказалася, што 85% партактыву тэорытычнай вучобай не ахоплены і нідзе ня вучацца, высоўваючы заўсёды і ўсюды адны матывіроўкі:

> *вучыцца хочам, але неімаверна перагружаны сваімі службовымі—партыйнымі абавязкамі, і пагэтаму вучыцца ня маем магчымасьці.*

Мы навокал тэорытычнай падрыхтоўкі вучобы партактыву многа гаворым, але практычна мала робім і недастаткова сур'ёзна ўлічваем тыя абставіны, што частка партыйнага актыву недастаткова спраўляецца з стаячымі задачамі і не заўсёды гібка толькі таму, што слаба падрыхтавана, а адсюль нямінуча выцякае, што партактыў павінен сур'ёзна задумацца аб сваёй тэорэтычнай падрыхтоўцы—і адмовіцца ад „канька“ перагружанасьці, знайсьці час для падрыхтоўкі.

## Ахоп партвучобай ленінскага набору 1930 г. і беспартыйнага актыву.

Улічваючы шырокі прыток у партыю рабочых ад варштату за апошнія месяцы, асабліва ў Ленінскія дні, і тое, што частка рабочых, якія ўступаюць у партыю, не ахоплена партасьветаю, Раённы Камітэт партыі вынес рашэньне аб арганізацыі пры ўсіх прадпрыемствах асобных груп (уліць гэтыя групы ў сетку адзінай партшколы) па ахопу партвучобай Ленінскага набору і беспартыйнага актыву, вылучыўшы адначасова ў якасьці прапагандыстых лепшы партыйны актыў раёну і замацаваўшы яго за сеткай партыйных школ да канца навуковага году.

У выніку ў раёне арганізавана 32 групы, якімі будзе ахоплена каля 800 чал. І усё-ж, ня гледзячы на гэта, некаторыя ячэйкі гэтаму пытаньню аддаюць мала ўвагі, з-за чаго частка груп яшчэ не прыступіла да работы (Хлебазавод адна група, Торгстрой адна група, Меншвэй адна група, з-д „Камунар“ адна група). Акрамя гэтага, адзін з галоўных недахопаў, перашкаджаючы разгарнуць вучобу з Ленінскім наборам і беспартыйным актывам, гэта адсутнасьць падручнікаў на беларускай мове.

## Асноўныя недахопы ў партасьвеце.

Адным з галоўных недахопаў партыйнае асьветы зьяўляецца тое, што пытаньне партыйнае асьветы яшчэ не знайшло павіннага праламленьня ў нізавой партыйнай сетцы—ячэйках і ячэйкі яшчэ не ўясьнілі тэй адказнасьці, якая на іх ускладаецца за партыйную асьвету, і вось таму ўсю работу па партыйнай асьвеце ў ячэйках ускладаюць на апоргаў.

Адсутнічае цьвёрдае пляніраваньне ўсіх відаў масава-прафэсыйнай і партыйнай работы, адсюль, вылучаныя дні для партасьветы (9 дзён у месяц) часта займаюцца на прадпрыемствах і ўстановах іншымі відамі работы, зрываючы гэтым самым заняткі ў партыйных школах (ячэйкі „Дрэваапрацоўшчык“, 1-й друкарні, Меншвэй, Абойная ф-ка, Торгстрой, з-д „Камунар“). Дапушчаюцца выпадкі назначэньня ў дні вучобы нарад, сходаў актыву з боку Бюро РК і АК, акрамя гэтага, частая пасылка ў камандыроўку тых, хто вучацца ў Вячэрнім Камвузе і партыйных школах, прыводзяць да адсеву, які займае шырокае месца, асабліва ў апошнія месяцы, і пагражае зрывам заняткаў Вячэрняга Камвузу.

Адсутнічае, у значнай частцы ячэек, зацікаўленасьць у рабоце партыйных школ і таму наведваньне школ апоргамі ячэек, членамі Бюро ў парадку праверкі, як займаюцца ў партшколах і як іх наведваюць члены партыі, беспартыйныя рабочыя, рэдкае зьявішча.

Адсутнасьць падручнікаў („Азбука Ленінізму“ і інш.) у пачатку навучальнага году (кастрычнік-лістапад) прымусіла ламаць праграму—плянавыя і бягучыя, мясцовыя пытаньні замест таго, каб пры прапрацоўцы ўвязваць з пытаньнямі праграмы, прыходзілася прапрацоўваць паасобна, а гэта моцна адбілася на тэмпе заняткаў і паслужыла штурхачом да адсеву слухачоў школ.

## Вынікі.

Каб папярэдзіць далейшы адсеў слухачоў Вячэрняга Камвузу, партыйных школ і гурткоў, ячэйкам неабходна яшчэ раз прапрацаваць пытаньне аб партыйнай асьвеце на паседжаньнях Бюро, адчыненых сходах, падняць грамадзкую думку навокал партасьветы і намеціць канкрэтныя мерапрыёмствы па замацаваньню да канца навучальнага году слухачоў усёй партыйнай сеткі, удзяляючы асаблівую ўвагу замацаваньню за сеткай асобых груп адзінай райпартшколы Ленінскага набору і беспартыйнага актыву (уцягнутага ў сетку партыйнай школы ў 2-м паўгодзьдзі).

Улічваючы дапушчаныя прабелы ў падрыхтоўцы і камплектаваньні партыйнай сеткі на 1929-30 г., неабходна падрыхтоўчую работу па арганізацыі партсеткі і камплектаваньню на 1930-31 год пачаць у красавіку-маі мес. 1930 г. шляхам шырокага растлумачэньня, хто і куды павінен пайсьці вучыцца ў 1930-31 г., складаючы раённыя пляны і шырока абмяркоўваючы іх у ячэйках. Правесьці не пазьней чэрвеня месяца раённыя канфэрэнцыі (асобна) з тымі, хто запісаўся і жадае вучыцца ў адзінай райпартшколе, Вяч. Саўпартшколе, Вяч. Камвузу, гуртках самаадукацыі, завочнікамі і г. д.

Падрыхтаваць да верасьня дастатковую колькасьць падручнікаў, устанавіўшы вучэбную прэемственнасьць у ячэйках і Райкоме (завёўшы дасканалы вучот вучобы 1929-30 г.).

Унікнуць выпадкаў запісаў аднаго і таго-ж рабочага у 4—5 месц, а для гэтага неабходна ўстанавіць плянавасьць вядзеньня падрыхтоўчай работы па набору ў партыйную сетку, рабочыя вячэрнія школы, профшколы, гурткі і г. д. Зжыць саматужніцтва ў гэтай галіне (арганізацыя штомесячна новых гурткоў, курсаў і г. д.) і паставіць справу так, каб уся сетка парт-раб-праф-асьветы пачала працаваць ў пэрыяд з 1-га кастрычніка, тады зьнікнуць перабежкі і прабелы, якія мы мелі ў пачатку камплектаваньня 1929-30 г.

Вопыт даказаў, што ў нізавой партыйнай сетцы (гуртках, райпартшколе, вяч. савпартшколе) у мэтах яе бесьперапыннай работы трэба мець кадры рабочых прапагандыстых і падрыхтоўкай гэтых кадраў трэба неадкладна заняцца зараз; вылучыць лепшую частку партыйнага актыву, якая скончыла вячэрнюю савпартшколу, Вячэрні Камвуз, прымацаваць іх, для атрыманьня практычнага

вопыту, на 2 месяцы да партыйных школ (сакавік-красавік 1930 г.), прапусьціць вясной праз 2-х месячныя акруговыя курсы прапагандыстых, замацаваць пастановамі Райкомаў, АК на 1 год за партсеткай, і тады прабелы з кадрамі прапагандыстых, якія маюцца ў 1929-30 г., будуць ухілены.

Неабходна адмовіцца ад заняткаў у дні вучобы іншымі відамі работы, якія зрываюць вучобу, аслабаніць у дні вучобы ўсіх слухачоў ад усялякіх нагрузак на прадпрыемствах і ўстановах, сочачы аднача́сова, каб гэтыя дні кожным слухачом былі скарыстаны для вучобы.

Улічваючы, што Ленінскі набор у абсалютнай большасьці складаецца рабочымі з вялікім вытворчым стажам, якія ня маюць яшчэ дастатковых навыкаў у вучобе, трэба разгрузіць гэтых таварышоў ад грамадзкай работы, даць ім поўную магчымасьць (9 вечароў у месяц) скарыстаць выключна на вучобу, прычым самі вучэбныя дні павінны ўкладвацца ў 2 гадзіны (18 гадзін у месяц), бо перагружанасьць грамадзкай работай і заняткамі можа пашкодзіць вучобе.

Паставіць работу агітпропгабінэту, каб ён ахопліваў усе прадпрыемствы. Патрэбна арганізацыя агіт-проп. габінэтаў на ўсіх прадпрыемствах, арганізацыя кустоў кансультацый пры больш буйных прадпрыемствах па раду пытаньняў—складаньне плянаў работы агіт-пропгабінэту, увязваючы іх з плянамі агіт. проп. работы гарадзкіх райкомаў.



**Без работы, без барацьбы кніжныя веды комунізму з комуністычных брашур і твораў роўна нічога ня варты, бо яны працягвалі-б стары разрыў між тэорыяй і практыкай, той стары разрыў, які складаў самую адмоўную рысу старое буржуазнае грамады.**

**ЛЕНІН.**

# ВОПЫТ МЕСЦ.

М. Зярніцкі.

## З вурокаў гомельскіх спраў.

*(Да пытаньня аб узаемаадносінах АК і АКК).*

Абсьледваньне ЦКК, якое праводзілася нядаўна ў Гомелі, сустрэлася з некаторымі момантамі з нашай практыкі партработы, на якія неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу. Мы гаворым аб узаемаадносінах АК і АКК. Хаця прынцыповыя палажэньні ў гэтых адносінах дастаткова вядомы, але на практыцы яны часта скажаюцца. Нячоткасьць гэтых узаемаадносін ускладняе ажыцьцяўленьне правільнага партыйнага кіраўніцтва і досыць часта зьяўляецца аднэй з важных прычын палітычных памылак парткіраўніцтва.

Іменна з гэтага боку вельмі павучальны некаторыя моманты з практыкі ўзаемаадносін АК і АКК у Гомелі. Па нашай думцы, яны зьяўляюцца далёка не апошняй прычынай меўшых месца ў практыцы работы Гомельскага парткіраўніцтва палітычных памылак і прарываў.

Гэтыя памылкі зараз пасьля рашэньня ЦК і ЦКК ужо добра ўсім вядомы. Бюро ЦК, ухваляючы рашэньні ЦКК па Гомельскіх справах, канстатавала, што па шэрагу рабкораўскіх спраў

> АК і АКК прынялі палітычна няправільныя пастановы, якія па сутнасьці дапамагалі зацiску самакрытыкі ў радзе ячэек і раёнаў Гомельскае парторганізацыі; з боку АК мелі месца прымірэнчыя адносіны да праваапартуністычнай практыкі ў Нова-Беліцкай організацыі; сакратар АК беспадстаўна абвінавацiў ячэйку чыгуначнага палку ў „левым загібе“ за тое, што яна рэзка па-бальшавіцкі крытыкавала опортуністычныя памылкі Н. Беліцкага Райкому і патрабавала зьмены кіраўніцтва ў РК,—вось асноўныя памылкі, адзначаныя ў пастановах ЦК і ЦКК.

* *
*

Пры азнаямленьні з пытаньнямі АКК, якія праходзілі ў АК, высьветлілася, што найбольш складаныя пытаньні АКК—без афармленых рашэньняў свайго Прэзыдыуму, больш таго, бяз пэўнай якой-небудзь думкі АКК—унасіліся проста на аб‘яднаныя паседжаньні Бюро АК і Прэзыдыуму АКК. Раней, чым пайсьці на пасяджэньне АК, АКК дасканала не прафільтроўвала абсьледвацельскі матар‘ял, не абмяркоўвала грунтоўна справу, ня прымала чоткіх рашэньняў, таму і не адчувала неабходнай адказнасьці за прымаемыя потым рашэньні на аб‘яднаных паседжаньнях. Пры гэткім афармленьні спраў АКК, будучы не пераканана ў правільнасьці сваіх рашэньняў, рашуча не адстойвала іх у АК. Акругком-жа някрытычна, даверліва адносіўся да матар‘ялаў абсьледвацельскіх камісій АКК, якія і самым АКК грунтоўна не правяраліся.

І вось, на гэткім хісткім фундаманце будаваліся досыць часта вельмі адказныя рашэньні, меўшыя вялікае палітычнае значэньне.

Зразумела, што пералажыць галоўную адказнасьць на абсьледавацельскія камісіі ні ў якім разе нельга. Гэта ня толькі палітычна шкодна, але і па сутнасьці няправільна. Камісіям былі вядомы ўстаноўкі АК і АКК па рабкораўскіх справах, з пачатку працы ім даваліся гэткія ўстаноўкі: „выкрыць рабкора“, „пакончыць з імі раз на заўсёды“, і камісіі ў ходзе сваёй працы імкнуліся падшукваць компромэтуючы матар‘ял, які-б супадаў з вядомай устаноўкай парторганаў. Таму, камісіі тэндэнцыйна і аднабакова падыходзілі да расьсьледваньня спраў, ігнаруючы матар‘ял, які не супадаў з агульнай устаноўкай у Гомелі, а потым гэтыя „аб‘ектыўныя“ вынікі дакладваліся на аб‘яднаных паседжаньнях АК і АКК, ці

аб іх папярэдне дагаварваліся АК і АКК. Такім чынам, выносіліся політычна памылковыя рашэньні, якія былі ў пасьледку адменены ЦКК, як політычна шкодныя і не адпавядаючыя дырэктывам партыі аб самакрытыцы.

Але, калі нават згадзіцца з Гомельскімі таварышамі, што іх уводзілі ў заблуканьне абсьледвацельскія камісіі, дык і ў гэтым выпадку політычная адказнасьць АК і АКК ніяк не памяншаецца. Гэта сьведчыць аб тым, што парткіраўніцтва ня мела шчыльнай сувязі з партыйнымі і рабочымі масамі.

АК і АКК ня ведалі і не адчувалі сапраўднага біцьця пульсу ў масах, бо інакш яны не даверыліся-б сьлепа вынікам абсьледвацельскіх камісій, яны-б не змаглі прымаць політычна няправільныя рашэньні, якія аб'ектыўна садзейнічалі заціску самакрытыкі.

Прасочым, напрыклад, як праходзіла найбольш складаная справа рабкора Дубава. Ранейшае абсьледваньне гэтай справы далі ў сваіх выступленьнях Сакратар АК і Сакратар Горрайкому на зачыненым сходзе ячэйкі, які адбыўся напярэдадні агульнага сходу рабочых, дзе рабкора Дубава і інш. рабочых зволілі з заводу фактычна за крытыку. Але справа ў дадзеным выпадку ня ў гэтым. Замест таго, каб дасканала абмеркаваць вынікі камісіі на паседжаньні АКК, яны былі раней вырашаны ў аб'яднаным паседжаньні Бюро АК і Прэзыдыуме АКК, а потым былі аформлены рашэньнем Прэзыдыуму АКК і Калегіі РСІ ад 5-IV-29 г. Тут, такім чынам, памылковае рашэньне АК было аформлена праз рашэньне АКК. Гэта, наогул, невядомая яшчэ нам практыка партработы, калі для афармленьня рашэньняў АК патрабуецца такі орган, як АКК.

Пазьней, у зьвязку з працай камісіі ЦКК, Прэзыдыум Гомельскай АКК вынес рашэньне аб аднаўленьні Дубава на працы на заводзе, але АК з гэтым не згадзіўся. Тады Прэзыдыум АКК зараз-жа 18-XII-29 г. вынес новае рашэньне, адмяняючае рашэньне, вынесенае тры дні назад: „заслухаўшы інфармацыю тав. Зэмнека і прымаючы пад увагу нязгоду Бюро АК на аднаўленьне тав. Дубава на заводзе, Прэзыдыум АКК у адмену сваёй пастановы ад 15-XII лічыць немэтазгодным аднаўленьне тав. Дубава на скурзаводзе „Пролетарскі шлях“.

Чаму, запытаем мы, АКК не скарыстала сваё права перанясеньня гэтай справы, як спрэчнай, у Прэзыдыум ЦКК.

Зусім правільна па гэтаму поваду падкрэсьлена ў рэзалюцыі Лістападаўскага Пленуму ЦК КП(б)Б,

> што Акруговыя КК не паставілі належным чынам сваю работу па разгортваньню самакрытыкі і не скарыстоўваюць сваіх праў у адносінах інфармацыі аб скажэньнях і апратэставаньне няправільных рашэньняў у ЦКК.

Вось другі прыклад—добра вядомая зараз справа аб заціску самакрытыкі і іншых памылках парткіраўніцтва ў Рэчыцы. Для расьсьледваньня гэтай справы АКК вылучыла камісію ў складзе 3-х таварышоў (пр. № 79|41 ад 14-XI-29 г.). Трэба было як быццам па гэтай вялікай політычнай справе высьветліць думку і прыняць рашэньні Прэзыдыуму АКК раней чым унесьці гэтую справу ў АК. Між тым, калі камісія скончыла сваю працу, дык вынікі яе ня былі папярэдне абгавораны АКК, а былі ўнесены проста на аб'яднанае паседжаньне Бюро АК і Прэзыдыуму АКК.

Вось яшчэ адзін штрых. Калі ў час працы камісіі ЦКК было пастаўлена пытаньне аб перагля̈дзе рашэньня АКК па справе корэспандэнта „Полесской Правды“—Заікі—Сакратар АКК тав. Кліменко выказаў думку: „трэба раней заручыцца думкай Бюро АК“—гэта раней чым самастойна вырашыць справу ў АКК.

Такім-жа чынам узгаднялі АК і АКК рашэньні па справе рабкораў Сьпіртзаводу.

Некаторыя рашэньні АК па справах, унесеных АКК,—зьяўляюцца проста недапушчальнымі і затушоўваюць ролю АКК, як контрольнага органу.

Напрыклад, па справе Навіцкага, Сакратарыят АК (22-X-29 г. пр. № 12) вынес такую пастанову:

> „прасіць Прэзыдыум АКК апэляцыю па справе Навіцкага пераглядзець, папярэдня дэталёва азнаёміўшыся з усёй справай і з сутнасьцю тых заяў і паказаньняў, якія маюцца ў справе. Апроч гэтага, даручыць тав. Южнаму дэталёва праверыць, што з сябе прадстаўляюць тыя асобы, якія далі кампрамэтуючы матар'ял аб тав. Навіцкім“ (т. Южны—нам. Начальніка ДПУ—член АКК).

Прэзыдыум ЦКК адмяніў гэта рашэньне, як неадпавядаючае правільным узаемаадносінам АК і АКК. Прэзыдыум ЦКК таксама зьвярнуў увагу Гомельскага АК на недапушчальнасьць гэткіх рашэньняў у далейшым.

У гэтым-жа пратаколе па справе Махнача гаворыцца, што Бюро АК лічыць правільным не рашэньне АКК, якая аднавіла Махнача на працу, а наадварот рашэньне Рэчыцкага РК КП(б)Б аб зьняцьці Махнача з працы. АК па гэтаму вынес такую пастанову: „Прасіць Прэзыдыум АКК накіраваць справу Махнача ў ЦКК КП(б)Б на перагляд“. Гэта замест таго, каб у зьвязку з нязгодай АК з рашэньнем АКК склікаць аб'яднанае паседжаньне АК і АКК і пры немагчымасьці вырашыць справу на гэтым паседжаньні, перанесьці спрэчнае пытаньне ў Прэзыдыум ЦКК.

Яшчэ больш цікавым для характарыстыкі ўзаемаадносін АК і АКК зьяўляецца наступны прыклад:

Прэзыдыум АКК на сваім паседжаньні ад 13-XII-29 г. у прысутнасьці камісіі ЦКК і сакратара Нова-Беліцкага РК тав. Віханава прыняў рашэньне па справе Нова-Беліцкага Камбінату. А вось 22-XII-29 г. Бюро АК (прат. № 65) слухае пытаньне аб Нова-Беліцкім Камбінаце, дзе дакладчыкам выступае той-жа Віханаў, які прысутнічаў на вышэйпаказаным паседжаньні АКК. *Бюро АК прымае рашэньне, дзе няўлічваецца, правільней кажучы, проста абыходзіцца моўчкі рашэньне АКК па гэтаму-ж пытаньню,* якое было добра вядома тав. Віханаву. У рашэньні АК строгая вымова тав. Лісоўскаму замяняецца толькі вымовай; за грубыя адносіны да рабочых Трубіцкаму прапануецца аб'явіць вымову з пракідкай (праз Белдзяржбуд).

Гэтае рашэньне таксама адменена Прэзыдыумам ЦКК, „як прынятае АК бяз удзелу АКК“, ня гледзячы на тое, што па гэтай справе меліся вычарпальныя рашэньні Прэзыдыуму АКК.

Вось якая практыка існавала ў Гомелі ва ўзаемаадносінах АК і АКК КП(б)Б.

* * *

Аб чым сьведчаць гэтыя факты?

Яны сьведчаць аб тым, што неабходнай яскравасьці ва ўзаемаадносінах паміж АК і АКК у Гомелі ня было.

Няма, здаецца, патрэбы паўтараць тут, што адзіным кіруючым органам у Акруговай парторганізацыі зьяўляецца АК; што як у АК, гэтак і АКК ёсьць толькі адна партыйная лінія—гэта дабівацца пасьпяховага правядзеньня генэральнай лініі партыі; што задача АКК гэта дапамагаць АК у правядзеньні ў жыцьцё важнейшых партыйных дырэктыў шляхам прыцягненьня і організацыі шырокіх рабочых мас для праверкі дырэктыў партыі і ўраду.

Але, каб выканаць гэтыя свае задачы ў сыстэме парткіраўніцтва, неабходна вось што. Побач з агульным палепшаньнем якасьці сваёй працы, яшчэ ўстанаўленьне шчыльнай сувязі з масамі, чулага прыслухоўваньня да голасу мас, АКК павінна дабіцца неабходнай чоткасьці ўзаемаадносін з АК. АКК раней, чым уносіць свае рашэньні ў АК, павінна грунтоўна самастойна абмеркаваць іх у Прэзыдыуме АКК, высьветліць сваю думку, прыняць пэўныя рашэньні, як рашэньні партыйнага кантрольнага органа; дабівацца потым прыняцьця іх і правядзеньня ў жыцьцё.

Імкненьне-ж ня выносіць рашэньняў за сваёй адказнасьцю, ці вынясеньне рашэньняў і няўменьне (ці нежаданьне), потым упарта іх адстойваць і змагацца па прынцыповых пытаньнях (падкрэсьліваем не на дробязях), калі АКК перакanana ў правільнасьці сваіх рашэньняў; нежаданьне пераносіць найбольш спрэчныя пытаньні, ці апратэстоўваць рашэньні ў вышэйстаячыя парторганы—ЦК і ЦКК; факты недаацэнкі і вядомага ігнараваньня з боку АК некаторых рашэньняў КК—усё гэта, зразумела, трэба рашуча асудзіць, як не саадпавядаючае правільным узаемаадносінам АК і АКК, бо ў гэткіх выпадках затушоўваецца значэньне АКК, як партыйнага кантрольнага органа і прыводзіць да прыняцьця неабгрунтаваных палітычна-памылковых рашэньняў. Мы не гаворым ужо аб тым,

што гэта-ж ствapae спрыяючую глебу для ўзьнікненьня элемэнтаў сямейственнасьці і кругавой парукі: нежаданьне „портить мирные добрососедские отношения“, „нарушать покой“, „тоже выносить сор из избы“ і г. д., як гэта мела месца ў паасобных выпадках у Гомелі. (Справа сяброў Бюро АК Касавога, Херамінскага і іншых).

Рашэньні ЦКК па абсьледваньню Гомельскай АКК па гэтаму пытаньню гавораць наступнае:

„Прапанаваць АКК устанавіць больш правільныя ўзаемаадносіны з АК шляхам пастаноўкі дакладаў АКК аб выніках праверкі выкананьня дырэктыў сав. і гаспадарчымі органамі, унясеньня ў АК толькі абмеркаваных і прапрацованых пытаньняў на Прэзыдыуме КК і Калегіі РСІ, узгадненьне і ўвязкі свайго пляну працы з плянавымі мерапрыемствамі АК і Фракцыі АВК.

Прэзыдыум ЦКК лічыць няправільным з боку АКК, што найбольш складаныя пытаньні (справа аб скажэньнях у Рэчыцкай арганізацыі; справа ячэйкі Скурзаводу і інш.) АКК без афармленых прапаноў Прэзыдыуму ўносіла іх на разрашэньні аб'яднаных паседжаньняў Бюро АК і Прэзыдыуму АКК, такі парадак разрашэньня ў асобных справах прыводзіў да прыняцьця памылковых рашэньняў і да затушоўваньня ролі КК, як кантрольнага органа“.

Нам здаецца, што Гомельскія прыклады па гэтаму пытаньню надзвычайна навучальны і павінны быць бязумоўна ўлічаны нашымі кіруючымі органамі і ў іншых акруговых парторганізацыях.

◆

**Гомельская партыйная арганізацыя зможа хутка перабудаваць свае рады, ліквідаваць вынікі палітычных памылак, допушчаных ранейшым партыйным кіраўніцтвам. Цэнтральны Камітэт выказвае цьвёрдую ўпэўненасьць у тым, што Гомельская партыйная арганізацыя з посьпехам справіцца з усімі задачамі, якія стаяць перад ёй, і на чале з новым кіраўніцтвам, пад бальшавіцкім кіраўніцтвам і пры актыўнай дапамозе ЦК, зможа мабілізаваць усе свае сілы і ўжо ў бліжэйшыя месяцы даб'ецца рашучых посьпехаў ва ўсіх галінах партыйнай, савецкай і гаспадарчай работы.**

**(З адозвы ЦК КП(б)Б).**

**Л. Гурэвіч.**

# Як расьце Фрунзаўская партарганізацыя.

*(Менск).*

ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б вынесьлі пастанову аб давядзеньні да 50% склад рабочых у партыі да 13-га Зьезду КП(б)Б і XVI Зьезду ЎсеКП(б) замест раней намечанага тэрміну—да канца 1930 г. Той уздым, які мы маем у рабочай клясе, тое новае ў рабочай клясе, якое мы адзначаем за апошні пэрыяд, гарантуе нам выкананьне гэтай задачы.

Рабочая кляса з вялікім энтузіязмам узялася за выкананьне ў найкарацейшы тэрмін 5-цігодкі, і паказала надзвычайныя прыклады камуністычнай ударнай працы ў адказ на меншавіцкае ныцьцё правай апазыцыі супроць узятых тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, у адказ на шалёную падрыхтоўку імпэрыялістых нападу на СССР—пасылае ў шэрагі Ленінскай партыі лепшых прыкладных рабочых. Цэлыя цэхі ўсьлед за Каломенскімі заводамі і ў нас у Менску ўступаюць у шэрагі партыі.

Я пастараюся на прыкладах Фрунзаўск. партарганізацыі паказаць тэмп і якасьць росту за лік рабочых ад варштату. На 1-е красавіка 1929 г. за 6 м-цаў было прынята ў партыю па Фрунзаўскай арганізацыі 85 чал., з іх 83% рабочых з вытворчасьці, пры чым па вытворчаму стажу рабочых з дарэвалюцыйным вытворчым стажам—27%. Як відаць з гэтых лічбаў, рост быў зусім нязначны і пераважная большасьць прымаемых былі рабочыя з невялікім вытворчым стажам. Характэрна, што рост ішоў за лік 8—10 яч. Цэлы шэраг яч. зусім не расьлі на працягу некалькіх м-цаў. Перабудова і ўзмацненьне масавай працы, уздым усёй рабочай клясы, чыстка партыі далі нам значныя вынікі ў напрамку росту, прычым зьмяніўся ў лепшы бок склад уступаючых у партыю рабочых.

З 1-га красавіка па 1-е студзеня 1930 г. Фрунзаўская арганізацыя вырасла на 403 ч.—усе рабочыя з вытворчасьці, пры чым за 3 м-цы з 1-га кастрычніка 1929 г. па 1-ае студзеня 1930 г. рост вызначыўся ў 250 чал. Рост за гэты тэрмін ужо ахапіў ня 8 ячэек, а ўсе вытворчыя ячэйкі раёну.

Зусім зьмянілася якасьць прымаемых у партыю. Калі на 1-ае красавіка 1929 г. рабочых *з дарэвалюцыйным вытворчым стажам было прынята толькі 27%, дык на 1-е студзеня 1930 г. рабочых з дарэвалюцыйным вытворчым стажам было прынята 57%*. Усё гэта сьведчыць аб тым, што ў партыю пайшоў стары кадр рабочых. Для ўзмацненьня росту ў раёне прымяняўся шэраг новых мэтадаў масавай працы па росту, як, напрыклад: адчынены сход усёй партыйнай арганізацыі з беспартыйнымі рабочымі, які сабраў звыш 10 тыс. удзельнікаў, адчыненыя пасяджэньні Бюро РК на прадпрыемствах („Камунар“, Друкарня БДВ, Белдзяржбуд, Эльвод, Дрэваапрацовачнікі) з пастаноўкай пытаньня аб росьце. Па вытворчых ячэйках уся праца па падрыхтоўцы да чысткі ўвязвалася з ростам, праводзіліся вечары запытаньняў і адказаў, вечары за шклянкай гарбаты, гутаркі з беспартыйным актывам і цэлы шэраг іншых мерапрыемстваў, якія нам далі значныя вынікі.

У росьце мы маем і цэлы шэраг недахопаў. Рост за лік работніц ідзе вельмі марудна. Хаця ў абсалютных лічбах мы маем павялічэньне, але ў процантных адносінах рост за лік работніц зьнізіўся.

Калі на 1-е красавіка 1929 г. было прынята 15% работніц, то на 1-ае кастрычніка 1929 г. было прынята 11%—гэта ў тэй самы час, калі мы маем прадпрыемствы з пераважнай большасьцю жанчын („Акцябр“, „Беларуска“, „Камунарка“). Значна зьнізіўся про-

цант росту за лік камсамольцаў. На 1-е красавіка 1929 г. процант камсамольцаў да прынятых у партыю складаў 43%, дык на 1-ае кастрычніка 1929 г.—29%, а на 1-ае студзеня 1930 г.—16%. Мы яшчэ маем значны адсеў пры прыёме ў партыю за непадрыхтаванасьцю, што сьведчыць аб тым, што з прымаемымі ў партыю вядзецца вельмі слабая праца.

Прыведзеныя лічбы сьведчаць аб скачкаабразнасьці ў росьце, пры чым такое зьявішча мелася ў буйнейшых вытворчых калектывах („Камунар", „Дрэваапрацоўшчык", Эльвод і інш.). Гэта скачкаабразнасьць паказвае на адсутнасьць сыстэматычнай працы ў ячэйках па росту, кампанійскасьць і адсутнасьць сур'ёзнай працы з уступаючымі ў партыю.

Усе вышэйпаказаныя дасягненьні ў росьце далі магчымасьць зьмяніць сацыяльны склад арганізацыі. Калі на 1-ае красавіка 1929 г. мы мелі ў Фрунзаўскай арганізацыі 41% рабочых ад варштату, дык на 1-ае студзеня 1930 году мы маем у складзе Фрунзаўскай арганізацыі 50% рабочых з вытворчасьці. Мы яшчэ не падвялі па Фрунзаўскай арганізацыі вынікаў апошняга Ленінскага набору. На заводзе „Камунар", Друкарні БДВ, „Дрэваапрацоўшчык" цэлыя цэхі падалі заявы аб калектыўным уступленьні ў партыю. Папярэдняе азнаямленьне з якасным складам падаючых заяў аб уступленьні ў партыю паказвае, што і апошні Ленінскі набор захапіў, пераважна, старыя кадры рабочых. Для хутчэйшага афармленьня Ленінскага набору па буйнейшых парткалектывах вылучаны тройкі для афармленьня ўступаючых у партыю. З боку РК вылучаны тройкі, якія будуць працаваць на самых прадпрыемствах, непасрэдна прыцягваючы да абгаварэньня кандыдатур уступаючых у партыю шырокія партыйныя і беспартыйныя рабочыя масы. Раённым Камітэтам арганізаваны спэцыяльныя групы для ахопу партасьветнай сеткай уноў уступаючых у партыю, прыстасоўваючы праграмы груп да складу Ленінскага набору.

Перад усёй партыйнай арганізацыяй стаіць вялікая задача па партыйна-выхаваўчай працы з Ленінскім наборам. Нам трэба рашуча змагацца з перагрузкай таварышоў, рацыянальна разьмяркоўваючы іх нагрузкі, уцягваючы іх у практычную штодзенную працу на вытворчасьці, праводзячы сыстэматычнае кіраўніцтва іх працай.

Бюро АК КП(б)Б ня так даўно заслухала справаздачу Фрунзаўскага РК аб росьце і рэгуляваньні сацыяльнага складу арганізацыі. Бюро АК парашыла давесьці склад Фрунзаўскай партыйнай арганізацыі да канца 1930 году да 70% рабочых з вытворчасьці. Той уздым, які мы маем у рабочай клясе, гарантуе нам, што мы гэту задачу выканаем, пры чым можна спадзявацца, што задача будзе выканана не да канца 1930 году, а да XVI Зьезду УсеКП(б) і XIII Зьезду КП(б)Б.

У далейшым нам трэба дабіцца сыстэматычнага росту, не паслабляючы тэмпу росту апошняга часу. Трэба дабіцца рашучага пералому ў росьце за лік работніц, што ўскладае адказную задачу на ўсе ячэйкі, пры чым рэарганізацыя партыйнай працы ў ячэйках павінна быць падпарадкавана гэтым задачам. Па лініі камсамолу нам трэба таксама дабіцца рашучага пералому, пры чым неабходна зьнішчыць тую цеганіну, якая маецца пры прыёме камсамольцаў у партыю, якая часам зацягвае афармленьне на 3—4 месяцы. Трэба значна ўпрасьціць формы перадачы камсамольцаў у партыю.

Толькі пры напружанай сыстэматычнай працы ўсёй партыйнай арганізацыі, толькі пры належным кіраўніцтве і ўвазе з боку вытворых ячэек мы ўпэўнены, што Фрунзаўская арганізацыя будзе мець у сваім складзе 70% рабочых з вытворчасьці да XVI Зьезду УсеКП(б) і XIII Зьезду КП(б)Б.

К. Бойка.

# Рашуча выпраўляць памылкі і недахопы.

*(Аб рабоце Магілеўскай райпартарганізацыі).*

Праведзеная Акругкомам КП(б)Б абсьледваньне работы Магілеўскай райпартарганізацыі паказала, што арганізацыя з пастаўленымі задачамі партыяй па соцыялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі ў аснаўным спраўляецца. Ня гледзячы на няспрыяючыя ўмовы для калектывізацыі, хутарызацыя раёну, прыгараднасьць, вялікая праслойка кулакоў і заможнікаў (7—8 процантаў), усё-ж на 1 лютага 1930 году раён калектывізаваны на 76 процантаў. Таксама плюсам работы райпартарганізацыі неабходна аднесьці пасьпяховае правядзеньне падрыхтоўчай работы. Плян па хлебафуражным культурам выкананы на 120—125 процантаў. Апрача таго арганізацыя ў асноўным ня дрэнна правяла работу па раскулачваньню і ліквідацыі кулака як клясы. Праўда, у гэтай працы не абышлося без паасобных недахопаў. Напрыклад, батрацка-бядняцкія масы недастаткова былі арганізаваны вакол выкананьня гэтай задачы, у асобных вёсках не праводзіліся сходы беднаты, выпадкі раскулачваньня серадняка і г. д.

Поруч з гэтым у шэрагу іншых галін работы ў Магілеўскім раёне мы маем прарывы, грубейшыя скрыўленьні клясавай лініі, забыцьцё інтарэсаў беднаты і г. д. Партарганізацыя недастаткова мабілізавала рабочыя, батрацка-бядняцка-серадняцкія колы для больш рашучага выкананьня дырэктыў партыі. Хоць райпартарганізацыя і невялікая, але-ж, ня гледзячы на гэта, да апошняга часу лепшыя рабочыя, якія маюцца ў саўгасах (апошніх на тэрыторыі Магілеўскага раёну 25 процантаў усіх саўгасаў акругі) знаходзяцца па-за партыяй, арганізацыя зусім мала зварочвала ўвагу на рост. Так, *у цэлым шэрагу ячэек гэтае пытаньне за ўвесь 1929 год не стаяла ніводнага разу*. З боку райкому дырэктывы аб росьце хоць і даваліся, але-ж праверкі выкананьня іх не ўтваралася і як вынік мы маем прынятых у партыю за ўвесь 1929 год усяго 26 чалавек, прычым сельгасрабочых і батракоў толькі 4 чалавекі. Гэтыя лічбы гавораць аб тым, што сапраўдна важнейшаму пытаньню з боку райкома і ячэек не прыдавалася значэньня, бо калі ўзяць другія арганізацыі акругі, прыклад Клімавічы, якія прынялі за гэты пэрыяд 97 чалавек, Кармянская арганізацыя, дзе маецца адзін саўгас, значна менш батракоў, прыняла ў партыю 28 чалавек, дык па тэмпу росту Магілеўскую арганізацыю трэба аднесьці да самых адсталых арганізацый акругі. Таксама *зусім дрэнна расьце арганізацыя за лік жанчын*. Усяго прынята за 1929 год 3 чалавекі, а процант жанчын складае 7 з пал., і той час, калі ў акруговай арганізацыі іх 12 проц.

У чэрвені месяцы 1929 году АК даў спэцыяльную дырэктыву Магілеўскаму райкому дзеля пасіленьня росту арганізацыі за лік батракоў, у якасьці вопыту скласьці пры ячэйках батрацкія групы, з якімі весьці работу для падрыхтоўкі ў партыю, *але і гэта практычная дырэктыва ня была выканана.*

## Унутраное становішча арганізацыі.

Партыйная чыстка ў Магілеўскай партарганізацыі, як нідзе, мела аздаравіцельна-выхаваўчае значэньне. У выніку чысткі партарганізацыя ачысьцілася ад тых элемэнтаў, якія падрывалі яе аўтарытэт, якія скрыўлялі клясавую лінію і мелі сувязь з кулацтвам. Трэба сказаць, што ў адносінах партспагнаньняў Магілеў-

ская райпартарганізацыя ў выніку чысткі мабыць заняла адно з першых месц у акрузе. Дастаткова сказаць, што процант выключаных і атрымаўшых партспагнаньняў ад праверачнай камісіі даходзіць да 30 проц. У выніку чысткі мы маем значнае паляпшэньне, паднялася актыўнасьць партыйцаў, адчуваецца большая адказнасьць за даручаемую работу і г. д.

Але ўсё-ж пасьля чысткі мы мелі выпадкі п'янства асобных камуністаў, сувязь з кулацтвам, высакамерныя адносіны да рабочых, камуніста-адміністратара (Батунская ячэйка), нежаданьне ісьці ў калгас і абагуліць сваю маемасьць з боку асобных камуністаў, п'янства, хвасьцізм на Дашкаўскім лесапільным заводзе.

Гэты выпадак цікавы і аб ім коратка трэба сказаць. Дашкаўскі лесапільны завод падпарадкоўваецца Быхаўскай лесаапрацовачнай арцелі, на чале якой стаіць партыец Грамакоў, прыезд якога на завод у адзін добры дзень саправаджаўся агульнай п'янкай рабочых і служачых, сярод якіх, да рэчы, не бяз' удзелу Грамакова, акапалася значная праслойка заможнікаў, дзяцей духавенства і інш.

П'янка вялася на грошы, якія выдаў Грамакоў, невядома толькі якіх, ці сваіх, ці каапэрацыйных. Разам з гэтым мы маем у раёне цэлы шэраг хваробных зьявішч—гэта растрата ў савецка-каапэрацыйных установах, прычым значнае месца ў гэтым займаюць камуністы. У працы асобных ячэек мы маем праваапуртуністычныя настроі. Акрамя паказанага вышэй нежаданьня ўступаць у калгасы і абагуліць маемасьць, з боку комуністых наглядаюцца настроі, што ёсьць кулакі добрыя і дрэнныя.

Так, аднаго правільна індывідуальна абкладзенага ў Княжыцкім сельсавеце ячэйка і сельсавет хацелі аслабаніць ад гэтага абкладаньня і вылучыць старшынёй калгасу, бо, бачыце, ён вельмі актыўны, а другога няма.

Гэтая думка існавала доўгі час, аб ёй ведалі некаторыя таварышы з райкому і райвыканкому, але адпору падобнаму настрою не давалася. Нельга не адзначыць такога выпадку, калі пры правядзеньні работы па раскулачваньню, з боку асобных камуністаў былі такія заявы: *„прыяжджайце і раскулачвайце, у нас ня хопіць энэргіі, і інш.“*. Такія адносіны да клясавага ворага, эксплёататара, нічым іншым назваць нельга, як правым апартунізмам. Пагэтаму райкому яшчэ і яшчэ раз трэба завастрыць увагу партарганізацыі на барацьбу з правым уклонам, выхоўваць арганізацыю, таксама батрацка-бядняцкія масы, у непрымірымасьці да клясавага ворага з тым, каб канчаткова ліквідаваць кулака як клясу, на базе суцэльнай калектывізацыі.

Палітузровень арганізацыі зусім нізкі. Дастаткова сказаць, што таварышоў, скончыўшых партшколы, у арганізацыі налічваецца 1—2 чалавекі. Здавалася-б, што райком партыі павінен быў аднесьціся да партвучобы так, каб вучоба праводзілася ў арганізацыі не фармальна, а на справе. У сапраўднасьці ж камплектаваньню партыйных школ і гурткоў увагі ня было. Зусім безадказна аднёсься райком і Дашкаўская партячэйка да камплектаваньня школы-перасоўкі, на якую ўхлопалі звыш 1500 руб., дзе навучалася спачатку толькі 11 камуністаў, з 35 слухачоў скончылі 7 чалавек партыйцаў.

## Становішча працы з беднатой і батрацтвам.

Партыя сур'ёзна падкрэсьлівае значэньне работы з беднатой і батрацтвам, асабліва цяпер, у момант жорсткай клясавай барацьбы, але трэба сказаць, што гэтая дырэктыва ў раёне не атрымала належнага праламленьня. Былі выпадкі, калі праведзены сход беднаты, не падрыхтаваны раней, даваў адваротныя вынікі (Батунь, Дашкаўка). Былі выпадкі, калі са сходаў выганялі сераднякоў. Групы бедняты ўтвораны пры большасьці сельсаветаў, але яны не працуюць, у некаторых з іх за 1929 г. было ўсяго 1—2 пасяджэньні. Асобныя партячэйкі не разумеюць форм і значэньня гэтай работы. Ёсьць таварышы, якія лічаць групы беднаты ў кожнай вёсцы, так іх і склікаюць. У групах беднаты вельмі мала батракоў. Партячэйкі вельмі слаба кіруюць групамі беднаты. Райком партыі за ўвесь 1929 г. не займаўся пытаньнем, як праводзіцца гэта праца.

Вельмі кепска аднесьліся некаторыя каапэрацыйныя арганізацыі да скарыстаньня фондаў каапэраваньня беднаты, якія не скарыстаны ў суме да 1000 руб.

Таксама справа дрэнна абстаіць і па крэдыту. значныя крэдыты накіроўваліся кулакам. Так, па Дашкаўскаму крэдытнаму таварыству за 1929 г. кулакі атрымалі 1014 р. Па Магілеўскаму, Княжыцкаму і Хонаўскаму факты выдачы крэдыту кулакам таксама былі.

У галіне збору сродкаў па каапэрацыйнай сыстэме былі вялікія пратэрміноўкі па крэдыту, якія складалі на 1 сьнежня 29 г. 17.000 з лішкам рублёў. Да канца 1929 г. у раёне было так званае сельгаставарыства Прэсьнякоўскае, якое складалася выключна з кулакоў і заможнікаў. Сярод пайнікаў каапэрацыйных сыстэм да гэтага часу маюцца кулакі, якія ня вычышчаны Яны таксама і да гэтага часу маюцца ў калгасах. Апарат каапэрацыйных сыстэм засьмечан лішэнцамі і антысавецкім элемэнтам, якія, зразумела, зьвязаны з кулацтвам. Прыклад: загатавіцель Княжыцкага сельгаставарыства, лішэнец, выдаў даведку кулаку Цалябенкову аб тым, што ён здаў хлеб спаўна і сваячасова. Гэта даведка была напісана заднім лікам. Зразумела, што кулаку яна патрабавалася для таго, каб апраўдацца перад савецкімі органамі і пазбавіцца штрафу. Кіраўніцтва з боку партарганізацый крэдытнай каапэрацыяй было зусім нездавальняючае. Райком і ячэйкі за ўвесь год зусім мала праверылі гэтую работу, асабліва кепска аднесьліся некаторыя ячэйкі да працы мабілізацыі сродкаў. Былі выпадкі, калі прадстаўніку крэдытнага таварыства (камуністу) адмаўлялі ў пастаноўцы гэтага дакладу на партсходзе. Па спажывецкай каапэрацыі трэба адзначыць наяўнасьць растрат і слабую барацьбу з імі.

У галіне нарыхтовак меліся выпадкі, калі кулак несваячасова здаваў прылічваючыйся з яго хлеб, выпадкі адсрочкі з боку сельскіх саветаў, а Пашкаўскі сельскі савет зрабіў яшчэ лепш:—выдаў кулаку даведку на права нарыхтоўкі ільну і просіць адпаведныя органы не перашкаджаць яму ў гэтым.

У галіне сельгаспалітыкі, акрамя нядавучоту кулацкіх гаспадарак для індывідуальнага абкладваньня (зараз абкладзена да 40 новых кулацкіх гаспадарак), наглядалася скрыўленьне клясавае лініі пры вылічваньні сельска-гаспадарчага падатку: кулак, заможнік абкладаўся менш, а бядняк, серадняк—больш (Гарадзішчанскі, Белевіцкі і інш. сельскія саветы). Кепска прайшло самаабкладаньне. Нездавальняюча працуюць большасьць сельсаветаў: за 1929 г. зьмянілася 11 старшынь і сакратароў сельскіх саветаў, кіраўніцтва з боку РВК сельсаветамі недастатковае, галоўным чынам, у галіне практычнай дапамогі. У ліпені месяцы, на прэзыдыуме РВК, які адбыўся ў Дашкаўцы, быў заслухан даклад Дашкаўскага сельсавету, але пастанова па дакладу да гэтага часу прапрацоўваецца.

У складзе работнікаў сельсавету маюцца людзі, якія зьвязаны з кулацкімі і інш. антысавецкімі элемэнтамі: так, сакратар Княжыцкага сельсавету піша былой абшарніцы *Кудрэвіч наступную запіску:* „даведка павінна быць зроблена старшынёй сельсавету, але я ёй гаварыў, каб яна даведалася ў вопытнага юрыста, як абстаіць справа з перадачай маемасьці, а таксама з арэндай, так як з нашым старшынёй гаварыць нельга, а павінна патрабаваць“.

Справа ідзе аб хаце. Абшарніца судзілася, каб яна засталася ёй, а сакратар сельсавету абшарніцы ў гэтым дапамагаў.

## Падрыхтоўка да пасеўкампаніі і становішча савгасаў.

Пасеўная кампанія бягучага году, асабліва для нашай акругі суцэльнай калектывізацыі, мае асаблівае значэньне, таму сконцэнтраваньне ўсіх сіл на яе правядзеньні зьяўляецца важнейшай задачай усіх арганізацый раёну. На самай-жа справе да гэтага часу абагульненьне і ачыстка насеньня ідзе нездавальняюча, таксама кепска ідзе абагуленьне рабочай і прадукцыйнай жывёлы. Як правіла, адсутнічаюць вытворчыя пляны ў калгасах, да складаньня якіх яшчэ ня прыступілі. Зусім кепска абстаіць справа з арганізацыйнай сыстэмай калгасаў: разьбіўка на аддзяленьні, вывазка лесаматар'ялу, намячэньне месц для ўсадзеб, расстаноўка рабочае сілы і г. д., на ўсё гэта павінна быць зьвернута сур'ёзная

ўвага, бо без выкананьня гэтых асноўных мерапрыемстваў немагчыма пасьпяхова працаваць.

У Магілеўскім раёне маюцца чатыры савгасы, якія павінны былі прыкаваць адпаведную ўвагу партыйнай арганізацыі. На самай-жа справе, належнай увагі савгасам ня было. Так, на чале Дашкаўскага савгасу да гэтага часу стаяў былы поп. У складзе рабочых некаторых савгасаў (Батунь) маюцца заможныя, пралетарскія элемэнты недастаткова актыўны.

Усё гэта прывяло да таго, што вытворчасьць працы ў савгасах вельмі нізкая, сабекаштоўнасьць культур у савгасе Дашкаўка павялічылася па жыту на 42 проц., па аўсу на 271 проц. Ураджайнасьць зьмешылася па жыту на 19 проц., па бульбе на 6 проц.

Ня лепш, а яшчэ горш, абстаіць справа ў савгасе Батунь, дзе жыльлёвыя ўмовы рабочых савгасаў вельмі кепскія, не хапае 50% кватэр для рабочых. Сацспаборніцтва амаль што не праводзіцца. Такое становішча ні ў якім разе не павінна заставацца надалей. Партарганізацыя савгаснаму будаўніцтву павінна зьвярнуць больш увагі, з тым, каб у самы бліжэйшы час былі зьнішчаны маючыяся недахопы ў савгасным будаўніцтве.

Кіраўніцтва Райкому і партячэек усім гаспадарчым і палітычным жыцьцём раёну яўна нездавальняючае. Самакрытыка да гэтага часу не зьяўляецца мэтадам работы. У сыстэме работы Райкому маецца распыленасьць, няўменьне вылучыць важнейшыя пытаньні раёну, з тым, каб на іх канцэнтраваць увагу арганізацыі. Усё гэта патрабуе хуткага зьнішчэньня на аснове выкананьня дырэктыў партыі.



# У КАМСАМОЛЕ.

**Азаронак і Пешас.**

## За шпаркі тэмп работы Камсамолу ў сацыялістычнай перабудове вёскі.

Шпаркі тэмп сацыялістычнай перабудовы вёскі ставіць перад усёй камсамольскай організацыяй пытаньне аб актыўным удзеле і падняцьці клясавай баяздольнальсьці камсамольскай організацыі і прыстасаваньня ўсёй работы да задач гаспадарчага будаўніцтва. У справе ўдзелу ўсяго камсамолу ў вясеньняй с.-гасп. кампаніі камсамольская організацыя яшчэ да гэтага часу ня стала на чале руху па сацыялістычнай перабудове вёскі. Таварышы, якія рабілі агляд Мазырскай організацыі, пішуць:

> „Значнае павялічэньне колькасьці камсамольцаў у калгасах у параўнаньні з 29 г. не зьявілася вынікам таго, што камсамольская організацыя ўцяміла важнасьць і карысьць калектывізацыі с.-гаспадаркі, а гэта проста тлумачыцца тым, што іх уваход у калгасы зьявіўся вынікам таго, што яны былі ахоплены тым масавым калгасным рухам, які маецца зараз на вёсцы“.

Гэтую ацэнку павялічэньня ўдзелу камсамольцаў у калгасах можна аднесьці і да шэрагу раёнаў астатніх акруг.

Па цэламу шэрагу раёнаў мы маем факты праяў правага опортунізму на практыцы, як з боку асобных камсамольцаў, так і з боку цэлых ячэек. Станькоўскія (Бабруйскай акругі) камсамольцы казалі, што яны на сход сялян ня пойдуць таму, што іх возьмуць у калгасы. Мы маем факт, калі 50% камсамольцаў з аднэй ячэйкі вышлі з КСМ. З ячэйкі Гардуны, Церахаўскага раёну, Гомельскай акругі за адмаўленьне ісьці ў калгас выключана 50% камсамольцаў. Характэрна адзначыць, што вельмі распаўсюджаным формай увільваньня камсамольцаў ад удзелу ў калгасным будаўніцтве зьяўляецца ад'езд у горад па розных справах у той час, калі ўся ячэйка ўступае ў калгас. Гэта тым горш, што такія дыплёматычныя выезды часта ідуць за лік актывістаў ячэйкі. Шмат камсамольцаў запісваюцца ў калгасы, пабудуць пару дзён і выходзяць з іх. Бывае і так, што камсамолец запісваецца ў калгас, а калі справа даходзіць да абагульненьня маемасьці, ён б'е адбой, альбо калі ўжо ўваходзіць у калгас, то без сваёй гаспадаркі. Камсамолец Раманаўскай ячэйкі не хацеў уступіць у калгас нават і тады, калі яго матка ўступіла. Ён, бачыце, „хацеў“ паглядаць, як будзе працаваць калгас. Камсамолец Бабылаў, Бабінецкай яч. КСМ, кажа на сходзе яч.:

> „Каляктывізацыя добрае мерапрыемства, але няхай бедната ідзе ў калгас, яны добрыя лодыры. Зачым улада так гоніць сялян у калгас, гэта ня прыгон“.

У каляктыве „Лужазна“ камсамолец-аграном Мазаль адмовіўся пайсьці праводзіць сход па суцэльнай каляктывізацыі, кажучы, што ён ня хоча траціць аўтарытэт у тым месцы, дзе ён працуе, бо ня хоча з кулакамі і падкулачнікамі агрызацца.

Многія ячэйкі прымірэнча адносіліся да гэткіх фактаў. Трэба рашуча павесьці барацьбу з такімі зьявішчамі, правільна арыентыруючы організацыю, расцэньваючы гэткія факты, як правы ўхіл на практыцы. Такія дзеяньні не сумясьцімы з прабываньнем гэтых людзей у шэрагах камсамолу.

Мы зараз ужо павінны былі канстатаваць 100% ахоп камсамольцаў калгасамі ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, але на справе ў большасьці раёнаў мы яшчэ далёка адстаем ад гэтай лічбы.

Выяжджаўшыя ад ЦК ЛКСМБ брыгады адзначаюць, што многімі камсамольцамі

ня ўцямлена палітычнае значэньне ўдзелу камсамолу ў вясновай с.-г. кампаніі. Аб гэтым у першую чаргу сьведчыць і тое, што ў працы па калектывізацыі, па раскулачваньню і інш. ня ўцягваліся шырокія масы батрацка-бядняцкай моладзі. Камсамольцы часта ня толькі не зьяўляліся організатарамі сходаў батрацкай і бядняцкай моладзі, але нават у скліканых сходах беднаты прымалі вельмі слабы ўдзел. Напрыклад, у час правядзеньня сходаў беднаты па каляктывізацыі камсамольцы Дроздаўскай яч. на сход не зьявіліся, а разам з моладзьдзю гулялі на вячорках. У Дзюдзічах, Мазырскай акругі, сакратар, ячэйкі заяўляе: „Для чаго нам праводзіць асобныя сходы моладзі па пытаньням калектывізацыі, калі гэтыя пытаньні абмяркоўваюць на сходах сялян“. У Камарынскім раёне, Гомельскай акругі, мелі месца такія разважаньні адносна працы з батрацка-бядняцкай моладзьдзю: „У нас кожны вечар сялянскія сходы, там бывае і моладзь, з яе і хопіць“.

У Жыткавіцкім раёне, Мазырскай акругі, сябры партыі Васілеўскі і Трафімовіч выгналі беспартыйную батрацка-бядняцкую моладзь і ў тым ліку прысутных камсамольцаў з сходу калгасьнікаў з-за адсутнічаньня быццам месц у памяшканьні.

Матар‘ялы асобных раёнаў кажуць аб тым, што ў справе мабілізацыі батрацкабядняцкіх мас у нас маецца вельмі значны прарыў.

Патрэбна раз назаўсёды запомніць, што калі мы ня будзем мабілізаваць батрацка-бядняцкія масы ў справу каляктывізацыі, раскулачваньня і інш., дык перад організацыяй стане простая пагроза скаціцца ў лягер апартунізму. Нельга разумець працэс сац. перабудовы с.-гасп. без уцягненьня батрацкабядняцкіх мас у калгасы, бяз удзелу ўсіх батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх колаў у справе ліквідацыі кулацтва, як клясы.

У справе калектывізацыі мы маем яшчэ вельмі вялікі недахоп, які трэба папярэдзіць і на якім трэба завастрыць увагу ўсёй камсамольскай організацыі— гэта тое, што зусім нязначнае месца займае пытаньне ўнутры калгаснага будаўніцтва. Зусім упускаецца многімі організацыямі пытаньне складаньня вытворчых плянаў, пытаньне агра-адукацыі моладзі, пытаньне забесьпячэньня эканамічных інтарэсаў моладзі і інш.

Нам прыходзіцца часта сустракацца з простым шкодніцтвам з боку камсамольцаў у камунах і калгасах. Напрыклад, камсамолец Сяргучкін вёз у камуну вапну, гнаў каня, пакуль не зламаў сані, кінуў вапну на дарозе, а сам паехаў дадому. Вапну ўкралі. Другі камсамолец Гаруноў (камуна Сталіна, Сіроцінскі раён), распрагаючы каня, каб не турбавацца адсьцяганьнем папругі, перарэзваў яе нажом і потым апраўдваўся тым, што ў яго памерзьлі рукі. Мы маем шмат прыкладаў, калі распаліся цэлыя калгасы ў выніку незамацаваньня іх, у выніку спыненьня працы камсамольскімі і партыйнымі організацыямі пасьля праведзенай організацыі калгасу. Часта прыходзіцца пачынаць з пачатку працу па калектывізацыі і таму, што ў калгасы пралезьлі кулакі, якія ўнутры разлагалі калгасы.

Калі задаць зараз пытаньне, што зроблена камсамольскай організацыяй у адносінах ачысткі калгасаў ад клясава-варожых элемэнтаў, дык прыдзецца адказаць, што ў большасьці раёнаў нічога ня зроблена. У матар‘ялах Бабруйскага АК пішацца, што ў справе ачысткі калгасаў ад кулацтва мы толькі пачынаем працу, і таму ніякіх вынікаў прывесьці ня можам. Па гэтаму пытаньню бюро ЦК у сваёй пастанове ацэньвае адсутнасьць у пастановах Бабруйскага АК арыентыроўкі аб ачышчэньні калгасаў ад кулацтва, як памылку права-ўхілісцкага напрамку. У Сіроцінскім раёне, Віцебскай акругі, камсамолец Віслаў абараняў на сходзе кулака і патрабаваў, каб кулака прынялі ў калгас. У Віцебскім раёне сябра Бюро РК КСМ, сакратар Слабоцкай яч., меў сувязь з былым афіцэрам абшарнікам Шветам, які фіктыўна залез у калгас „Асінаўка“, зрабіўся кіраўніком гэтага калгасу. Бедната была ў загоне. Калі бедната выступала на сходзе калектывістаў супроць Швета, абвінавачваючы яго ў эксплёатацыі, дык апошні заяўляў: „У мяне ёсьць зашчытнік—сакратар яч. КСМ, ён мяне абароніць, вам мяне выжыць з калгасу ня ўдасца“. У вёсцы Усая, Вульскага раёну, прымаюць у калгас кулака, а камсамольцы, прысутнічаючыя на сходзе, згаджаюцца, што „ён кулак добры“. Трэба зараз-жа рашуча ўдарыць (тым больш, што шмат такіх

фактаў) па тэорыі дзяленьня кулака на добрага і нядобрага. Трэба расцаніць такую ўстаноўку, як кулацкую, клясава-варожую, права-ўхілісцкую.

У справе ліквідацыі кулацтва як клясы з боку шэрагу АК ня было дадзена дырэктыў. У той-жа пастанове ЦК указваецца, што,

> „кіраўніцтва шмат якіх акругкомаў адстала ад жыцьця, у выніку такая задача, як ліквідацыя кулацтва як клясы, прайшла міма Акругкомаў“.

Амаль што ўсе РК ЛКСМБ пішуць, што і зараз праца па раскулачваньню праводзіцца камсамольцамі часта без разуменьня сутнасьці гэтай справы. Камсамольцы выконвалі гэтую працу мэханічна і таму ў практыцы мы мелі шмат прыкладаў, калі праца па раскулачваньню не выцякала вынікам стварэньня калгасаў. Напрыклад, у Веткаўскім раёне, Гомельскай акругі, ячэйкі праводзілі працу па калектывізацыі і толькі зараз спахваціліся, што ўпусьцілі працу па ліквідацыі кулацтва.

Яшчэ да гэтага часу недастаткова ўдарылі па настроям жаласьлівасьці да кулацтва. У Нараўлянскім раёне некаторыя камсамольцы адмаўляліся весьці працу па раскулачваньню таму, што „шкода чалавека“. У Прапойску, Шклове і інш. раёнах Магілеўскай акругі вядуцца „дыскусіі“ аб тым: „што будзе рабіць кулак, калі мы яго раскулачым“. Мы мелі факты абароны кулакоў у Журавічах. У Віцебскай акрузе сакратар Мішнявіцкага с.-с. камсамолец Чарнышоў выдаваў кулаком даведкі на права выезда і продажы маемасьці да іх раскулачваньня.

У пытаньні ачысткі і абагульненьня насеньня маецца вялікі недахоп, які заключаецца ў тым, што, вядучы працу па ачыстцы насеньня, камсамольская організацыя недадасткова праводзіць працу па абагульненьню насеньня. З усіх лічбаў, якія прыводзяцца ў матар'ялах асобных акруговых камітэтаў, а асабліва па матар'ялах асобных райкомаў, мы бачым вялікую разьбежку паміж колькасьцю ачышчанага насеньня і колькасьцю абагуленага. Справа з абагульненьнем дрэнна абстаіць ня толькі па лініі насеньня, але і па лініі абагульненьня жывёлы.

З колькасьцю ўлічанай жывёлы ў калгасах мы маем на 20/II такія лічбы: у Магілеўскай акрузе — акрузе суцэльнай калектывізацыі—кароў абагулена толькі 24,1%, рабочай скаціны абагулена толькі на 28,5%. Лепшай-жа акругай у гэтых адносінах зьяўляецца Аршанская, але і там кароў абагулена толькі 53,1% і рабочай скаціны 35%. Зусім дрэнна абстаіць справа з кантрактацыяй. На 20/II па Беларусі плян кантрактацыі па зерняных культурах выкананы толькі на 12,2%, па бульбе—на 19,3%, па ільна-насеньню—на 7,5% і г. д.

Можна прывесьці яшчэ адзін паказальнік недастатковай падрыхтоўкі да вясеньняй сяўбы, гэта, напрыклад, організацыя машынна-конных станцый. Мы маем толькі 26,8% выкананьня пляну організацыі машынна-конных станцый.

З усяго сказанага раней мы павінны зрабіць адпаведныя вынікі. Нельга зараз гаварыць аб дастатковым удзеле камсамольскай організацыі ў с.-г. кампаніі, нельга гаварыць цяпер аб тым, што організацыя поўнасьцю стала на чале руху па соц. перабудове вёскі. Каб дасягнуць гэтага — організацыя зараз-жа павінна перабудаваць сваю працу.

Па матар'ялах у некаторых РК як быццам пачалася перабудова вясковых ячэек, але гэтая перабудова ў многіх раёнах лічыцца недастатковай, бо ячэйка зьмяніла толькі сваю назву з вясковай у калгасную. Зразумела, што ад такой перабудовы карысьці няма ніякай. Трэба зараз-жа рашуча паставіць пытаньне аб перабудове ячэек не па назьве, а на справе. Калгасныя ячэйкі павінны будавацца па прынцыпу вытворчых ячэек, а гэта азначае, што зусім інакш, як раней, стаіць пытаньне і адносна абароны батрацтва, і адносна організацыі соц. спаборніцтва і ўсёй культурна-масавай працы. Камсамольская ячэйка павінна павярнуцца на справе тварам да вытворчасьці, рашуча змагаючыся са шкодніцтвам і з безгаспадарнасьцю ў калгасах, выступаючы ініцыятарам у справе організацыі ўдарных брыгад і соц. спаборніцтва сярод усіх калгасьнікаў, організуючы ў калгасах вопытныя маладзёжныя вучасткі, рацыяналізатарскія ядра, вынаходніцкія групы, гурткі вопытнікаў і прымаючы ак-

тыўны ўдзел у складаньні рабочых плянаў. Камсамольская організацыя павінна добра зразумець, што з яе боку зараз асабліва патрабуецца дапамога ў організацыі працы ў калгасах. Таму на камсамольскую організацыю ўскладваецца вялікая задача быць організатарам працы ў калгасах па разьбіўцы зямлі на палі, намеціўшы тэрмін пасеву тых ці іншых культур, своячасова падрыхтаваць цяглавую сілу, вырашыўшы пытаньні адносна парадку працы на тых ці іншых вучастках і інш.

Патрэбна шырока выкарыстоўваць мэтад мабілізацыі ўсіх батрацкіх і бядняцкіх мас разам з серадняцтвам, якія выканалі свае абавязкі па вясеньняй с.-г. кампаніі дзеля ўзьдзейнічаньня на тых, якія ня выканалі сваіх абавязкаў. Добра зрабілі камсамольцы Гацкай яч., Глускага раёну, Бабруйскай акругі, калі яны організавалі мітынг-дэманстрацыю, прыцягнуўшы калгасьнікаў і батрацкабядняцкую частку вёскі ў колькасьці 1000 чалавек, дзеля ўцягненьня аднэй вёскі, якая не жадала ісьці ў калгас. У выніку такога паходу вёска, у якую яны ішлі, цалкам увайшла ў калгас.

Асабліва значнай часткай работы калгаснай ячэйкі зьяўляецца праца з батрацтвам і абарона яго эканамічных інтарэсаў унутры калгасаў, у першую чаргу. Факты гавораць аб тым, што калі батрак ці бядняк, увоходзячы ў калгас, нічога ня ўнес, дык яму даюць найбольш цяжкую працу, працягваючы эксплёатацыю батрака ўнутры калгасу. Трэба, каб ячэйка зьнішчала ў корані такія тэндэнцыі і рашуча вяла працу па вылучэньню бядняцка-батрацкай моладзі на кіруючую работу ў праўленьнях калгасаў, сельсаветаў і інш.

Першыя дадзеныя перавыбараў саветаў па 5 с.-саветах і 134 выбарчых вучастках, перададзеныя па тэлеграфу на 27/II 1930 г., гавораць аб слабым уцягненьні батракоў на кіруючую працу. З абраных 534 чал. група с.-гасп. і лес. рабочых і батракоў складае толькі 31 чал., альбо 5,8%, камсамольцаў абрана толькі 6,4%. Такое становішча нельга дапусьціць. Трэба зараз-жа мабілізаваць на гэта ўвагу камсамольскай організацыі.

Дзеля правільнай арыентацыі організацыі па ўсім пытаньням пабудовы працы камсамолу ў сучасны момант неабходна давесьці да кожнага камсамольца пастановы сьнежаньскага пленуму ЦК УсеЛКСМ і студзеньскага пленуму ЦК ЛКСМБ.

Кожны камсамолец, кожная камсамольская організацыя павінны добра ўясьніць сабе задачы партыі і камсамолу, каб правільна праводзіць іх у жыцьцё.

# ХРОНІКА ПАРТРАБОТЫ.

## Работа ЛКСМБ.

*(Аршанская акруга).*

Пленум АК канстатаваў, што праца акруговай арганізацыі КСМ была цалкам накіравана на правядзеньне ў жыцьцё генэральнай лініі партыі.

Значна згрупавана ўвага арганізацыі вакол пытаньняў удзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, у асноўнай сваёй масе прыймае а.тыўны ўдзел у сацбудаўніцтве, індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі с. г. Праведзены арганізацыяй паход за ўраджай і калектывізацыю с.-гаспадаркі, а таксама прамысловы паход, які пераключаўся ў агульна-рабочае спаборніцтва,—далі значныя практычныя вынікі.

Значна мабілізавана ўвага арганізацыі на барацьбу з правым ухілам і прымірэнцтвам да яго, астаткамі трацкізму і „левымі" загібамі. Разгортваньне самакрытыкі ў арганізацыі дало магчымасьць выкрыць шэраг праяў правага ўхілу, як у асобных зьвеньнях арганізацыі (Копысь, Расна), гэтак і ў асобных камсамольцаў.

У асноўным здавальняючы тэмп росту камсамольскай арганізацыі, пры значным палепшаньні сацыялістычнага складу прымаемых у апошні час, у асаблівасьці за лік батрацка-бядняцкай моладзі; вынікам больш асьцярожнага адбору ў КСМ—зьмяншэньне ў росьце серадняцкай праслойкі і скарачэньне да мінімуму прыёму служачых і іншых. Праведзена значная праца па самаачышчэньню камсамолам сваіх шэрагаў ад чуждых кулацкіх і разлажыўшыхся і не жадаючых праводзіць у жыцьцё лінію партыі—элемэнтаў, твар якіх выяўляўся ў час правядзеньня гаспадарча-палітычных кампаній як у горадзе, гэтак і на вёсцы.

Палепшана кіраўніцтва піянэрскай арганізацыяй. Піянэрская арганізацыя паступова, шляхам палепшаньня грамадзкай і ўзмацненьня выхаваўчай работы, прыстасаваньня яе да ўзрослых груп піянэраў, павялічэньнем уплыву на неарганізаваных дзяцей,—выходзіць з крызісу.

З боку АК КСМ і Райкомаў значна палепшылася жывое кіраўніцтва арганізацыяй.

Адначасова з гэтым Пленум АК адзначыў шэраг буйнейшых недахопаў у рабоце камсамолу.

Наліччa ящчэ значнай засьмечанасьці камсамольскай арганізацыі чуждым элемэнтам, які пасыўна, а падчас і актыўна працівадзейнічае праводзімай партыяй лініі (нежаданьне ісьці ў калгасы, выступленьне супроць хлебанарыхтовак, выступленьне супроць партыі ў час перавыбараў саветаў). Наліччa фактаў сувязі з чуждым элемэнтам, недастаткова рашучы адпор з боку асобных камсамольцаў, і нават ячэек, клясаваму ворагу, пасаваньне перад ім асобных камсамольцаў, слабая дысцыпліна ў некаторай часткі арганізацыі, наліччa фактаў п'янства і разлажэньня.

У рабоце паасобных ячэек і нават арганізацый (Копысь, Крупкі) да гэтага часу ящчэ не стаіць асяродкам увагі і работы сацыялістычная рэканструкцыя прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, слабы ўдзел КСМ у калектывізацыі, невыкананьне дырэктывы аб абавязковым уваходжаньні камсамольцаў—самастойных гаспадароў—у калгасы, нездавальняючы тэмп перабудовы сыстэмы кіраўніцтва і зьместу работы КСМ да сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі, да ка-

лектывізуючайся шпаркім тэмпам сел.-гаспадаркі.

Ня гледзячы на ўзмацненьне ўвагі арганізацыі да пытаньняў паліт-адукацыі, кіраўніцтва ёю, у асаблівасьці мэтадычнае, зьяўляецца нездавальняючым. Зусім слаба пастаўлена сыстэматычная антырэлігійная прапаганда і праца, а таксама і інтэрнацыянальнае выхаваньне. Да гэтага часу зусім слабыя вынікі беларусізацыі ў гарадзкіх і вытворчых ячэйках. Наліччa шэрагу момантаў нацыянальнай абмежаванасьці, у асаблівасьці беларускага і яўрэйскага шовінізму, антысэмітызму і нерэагаваньня на праявы беларускага нацыянал-дэмакратызму.

Пры некаторым павялічэньні ў складзе актыву батрацкай праслойкі маецца яшчэ засьмечанасьць чужым і заможным элемэнтам нізавога камсамольскага актыву. Вялікая праслойка ў нізавым актыве серадпякоў (17,3 проц.) і інш. (4,8 проц.), тэндэнцыя да павялічэньня серадняцкай праслойкі, у складзе сакратароў ячэек і памяншэньне рабочай батрацкай праслойкі ў параўнаньні з агульным складам комсамольскага актыву. Недастатковая тэорытычная падрыхтаванасьць і нізкі палітычны ўзровень КСМ актыву, асабліва вясковага.

Ня выканан лёзунг аб 100-проц. уцягненьні рабочай моладзі ў камсамол і ўсё яшчэ недастатковы рост КСМ арганізацыі за кошт батрацтва.

Адзначыўшы працоўную дапамогу камсамольскіх арганізацый, аказваемую беднаце, і правядзеньне работы сярод батрацка-бядняцкай моладзі, Пленум АК лічыць удзел КСМ у арганізацыйнай працы сярод беднаты (сходы, групы беднаты) недастатковым, у асаблівасьці слабы быў удзел КСМ у апошняй кампаніі па правядзеньню раённых і акруговай канфэрэнцыі груп беднаты.

Недастатковы ўдзел моладзі ў прафжыцьці і працы вытворчых камісій і нарад.

Пры палепшаньні партыйнага кіраўніцтва з боку партарганізацыі, яго канкрэтызацыі з боку АК і РК КП(б)Б, АК адзначыў, што значная частка РК і ячэек КП(б)Б зусім слаба кіруе камсамольскімі ячэйкамі, зусім нездавальняючая работа большасьці партпрымацаваных, наліччa момантаў фармальнага падыходу да кіраўніцтва камсамолам з боку некаторых РК КП(б)Б (Расна, Копысь, Горкі). Партасяродак у камсамоле (6,5 проц.) і тэмп росту яго (216 чал. прынята ў партыю за год) недастатковы. Здавальняючы соц. склад перадаваемых у партыю камсамольцаў. Недастаткова ўцягнуты партыйцы-камсамольцы ў камсамольскую працу (усяго 27 проц. партыйцаў-камсамольцаў працуе на актыўнай ячэйковай рабоце).

*Віцебская акруга.*

АК канстатаваў, што вакол пытаньня камсамольскай вучобы на 29-30 г. і паходу за марксысцка-ленінскую тэорыю была мабілізавана некаторая грамадзкая думка. Але ў частцы практычнага выкананьня маецца шэраг выпадкаў несваячасовага скарыстаньня ініцыятывы моладзі, у выніку чаго маецца некаторы адсеў ад школ, ненармальнасьць у занятках (вялікі процант пропуску заняткаў слухачамі. Падручнікі былі дасланы несваячасова, недастаткова добраякасны падбор прапагандыстых, меліся выпадкі адмаўленьня прапагандыстых ад працы ў камсамольскай сетцы. Пагоршаньне пасьпяховасьці і пастаноўкі камсамольскай вучобы, мае таксама адбітак недастатковае кіраўніцтва).

## Работа с.-г. крэдытнай сеткі.

Полацкі АК адзначыў агульны ўзрост крэдытаваньня с. г. (на 42,2%) і асноўнае прахаджэньне яго па лініі індустрыялізацыі і фінансаваньня вытворчых працэсаў с. г., прызнаў, што сельбанк і ўся сыстэма с.-г. крэдыту не перабудавалі сваёй работы ў адпаведнасьці з намеціўшымся масавым калгасным рухам. Прапорцыі крэдытаваньня асобных сэктараў ня вытраманы: калгасы атрымалі 22,6% (замест 24,5%), розныя каапэрацыйныя арганізацыі замест 25,5% атрымалі 19,7%, а індывідуальныя гаспадаркі 57,7% (замест вызначаных 50%).

Па шэрагу с.-г. крэдытных т-ваў маецца скажэньне клясавай лініі.

## Пытаньні культработы.

*(Аршанская акруга).*

Аб распаўсюджаньні літаратуры на вёсцы АК адзначыў:

а) малы ахоп глыбінных пунктаў у працы з кнігай;

б) нездавальняючая кваліфікацыя кніга-працаўнікоў;

в) слабае пашырэньне нацменаўскае літаратуры;

г) слабае прасоўваньне кнігі па калектывізацыі, антырэлігійнай і дзіцячай на бел. мове.

д) няпоўнае ахапленьне ўсёй сеткі кадрамі кніганош.

Для зьнішчэньня гэтых недахопаў АК даў шэраг парад: на працягу 2-х месяцаў арганізаваць ва ўсіх агранамічных пунктах, у школах, хатах-чытальнях, нардамах палічкі, а таксама даручана фракцыі Днепрасаюзу і Райкомам партыі пераглядзець якасны склад загадчыкаў кнігарань. Прызнана неабходным прыступіць да пабудовы ў раённых цэнтрах адумысловых кніжных крам, увёўшы гэтую працу ў 5-цігадовы плян капітальнага будаўніцтва сеткі.

У калгасах і раёнах суцэльнай калектывізацыі арганізаваць кіёскі.

## Партасьвета.

*(Аршанская акруга).*

АК адзначае станоўчыя моманты ў арганізацыі партасьветы.

Колькасьць слухачоў павялічылася на 34,3% больш чым у мінулы год.

Аднак-жа АК прызнаў вынікі камплектаваньня сеткі нездавальняючымі па наступных прычынах: несваячасовасьць камплектаваньня ў некаторых раёнах, пры стабільнасьці абсалютнай колькасьці, ахопленых вучобай партыйцаў, % ахопу запартарганізацыі зьменьшыўся (61% замест 63%) у м. г. па шэрагу раёнаў, зусім слабы ахоп с. г. і батракоў (Багушэўскі, Дрыбінскі, Копыскі, Чарэйскі, Талачынскі, Крупскі), пагоршыўся склад прапагандыстых, адсутнасьць падручнікаў на бел. мове для гарадзкіх АПШ, і спазьненьне падручнікаў для вясковай сеткі.

Таксама АК адзначыў недаацэнку з боку РК КП(б)Б важнасьці ахопу партасьветай нацменшасьцяй на роднай мове.

У раёнах АПА ня былі арганізаваны габінэты.

АК прапанавана ўсім РК правесьці дакамплектаваньне сеткі, ахапіўшы 100% кандыдатаў партыі і 20% калгасьнікаў па акрузе.

## Шэфпраца.

*(Аршанская акруга).*

Сетка нізавых арганізацый т-ва „Культзмычкі“ па акрузе пашырылася па гораду ад 5 да 12 і павялічыўся лік членаў па гораду з 772 да 1120 і на чыгунцы з 334 да 536. Некалькі налепшылася фінансавая база, шляхам прыцягненьня сродкаў прафсаюзаў, правядзеньня васкрэсьнікаў. адлічэньняў. Пачалося ўжываньне мэтадаў брыгад у шэфпрацы. Таксама АК адзначыў некаторае палепшаньне кіраўніцтва з боку парт. ячэек і павялічылася дапамога з боку прафсаюзаў. Павялічылася работа па вытворча-матар'яльнай дапамозе. Але, ня гледзячы на гэта, АК адзначыў нерагулярнасьць работы шэфкомаў і недастатковае інструктаваньне шэфтаварыстваў, паралелізм у рабоце (з профсаюзамі). слабую пастаноўку выхаваўчай работы сярод членаў, пераважна кампанейскі характар. У некаторых мясцох маецца памяншаньне ліку членаў. Шэфкамісіі да апошняга часу работалі слаба, зараз маецца ажыўленьне.

Але асаблівa АК падкрэсьліў, што да гэтага часу шэфпраца недастаткова накіравана на садзейнічаньне калектывізацыі с. г.

Як АК лічыць. адмоўна адбіваецца на якасьць шэфработы адсутнасьць акруговага цэнтру шэфтазарыстваў.

# БІБЛІЯГРАФІЯ.

**ЕМ. ЯРОСЛАВСКИЙ. За последней чертой.** Троцкистская оппозиция после XV с'езда. Сборник статей. Государственное Издательство 1930 г. Тираж 25.000. 196 стр. Цена 70 коп.

Разглядаемы зборнік т. Яраслаўскага зьмяшчае артыкулы, якія ў свой час друкаваліся ў газэце „Правда“ і ў часопісу „Большевик“. Сабраныя ў адным месцы гэтыя артыкулы дапамагаюць пасьлядоўна разглядзець шляхі ператварэньня троцкісцкай опозыцыі ў контр-рэвалюцыйную плынь. Да чаго дакаціўся Троцкі пасьля высылкі яго за межы СССР, расказвае амэрыканская буржуазная газэта „Нью-Иорк Амэрыкэн“, якая абвясьціла сваіх чытачоў аб тым, што „Троцкий рассказывает секреты своей жизни в мемуарах, которые начнутся печатаньем в воскресенье 30-го июня, в „Нью-Иорк-Амэрикэн“. Як відаць, Троцкі рашыў расказаць „сакрэты свайго жыцьця“ на старонках буржуазнай газэты. Каб больш захапіць буржуа і мешчаніна, „Нью-Иорк-Амэрыкэн“ дае „соблазнительные“ аншлагі аб будучых артыкулах Троцкага. З гэтых аншлагоў мы, напрыклад, будзем ведаць, што Троцкі напіша пра „всю правду о кровавом воскресеньи“?. „Хотите-ли вы узнать всю правду о кровавом воскресеньи?. „Падении царского режима?“, „Почему Лев Троцкий находится сейчас в изгнании в Турции?“, „Что он думает об Америке?“.

„Чтобы получить ответ на все эти и многие другие важные вопросы—читайте „Нью-Иорк-Амэрыкэн“—абвяшчае газэта сваіх чытачоў. Заплаціўшы за мэмуары Троцкага тысячы доляраў, буржуазная газэта атрымала новага супрацоўніка, які, па думцы рэдакцыі, павінен расказаць аб „кровавом воскресеньи“ і іншых жудасных рэчах.

> *„Из Турции, своего места изгнания—піша газэта,— Лев Троцкий посылает в Америку свои мемуары—страницы, которые станут историческими, и в которых мастерски передаются „кровавые события“ в жизни его народа. Эта хроника интересная и сильная, что у вас вскипит кровь от ужасов, описанных в ней. Вы впервые прочтете н а с т о я щ у ю п р а в д у об исстрадавшейся России! Мемуары Троцкого, написанные им самим начнутся печатанием в воскресенье 30-го июня в „Нью-Йорк-Америкен“. Закажите номера газеты теперь-же. Не пропустите ни единой главы из этого потрясающего и пламенного повествования.*
>
> *Попросите вашего газетчика оставить для вас воскресный номер „Амэрикэн“, „Сондэй-Амэрикэн“.*

Чытач бачыць, што буржуазная газэта, дзякуючы артыкулам новага супрацоўніка, мае магчымасьць даводзіць амэрыканскага буржуа і мешчаніна „до вскипения крови от ужасов“. Чытач бачыць, што Троцкі надрукуе „потрясающее и пламенное повествование“, у якім будзе апавядацца „настоящая правда об исстрадавшейся России“!

Вось да чаго дакаціўся былы правадыр аб'яднанай апазыцыі. Друкаваньне артыкулаў Троцкага ў буржуазным друку выклікала абурэньне нават сярод яго былых больш сумленных аднадумцаў і прадрашыла іх скарэйшы адыход ад Троцкага. У шмат якіх артыкулах т. Яраслаўскага маюцца адпаведныя вытрымкі з артыкулаў Троцкага, у якіх апошні наводзіць паклёп на бацькаўшчыну міжнароднага пролетарыяту—СССР, у якіх ён абражае УсеКП(б), называючы яе „паслушнай авечкай“ у „кіпцюрох“ бюрократычнага (??) кіраўніцтва партыі.

З кім ідзе Троцкі супроць УсеКП(б)? Яго колегі па апазыцыйных справах красамоўна расказваюць аб арганізацыйнай практыцы Троцкага, які цягнуў у свой лягер усіх прыхільнікаў „справа и слева“. Самыя розныя політычныя элемэнты вербаваліся Троцкім пад сьцягам апазыцыі. Тут мы знойдзем радыкальных інтэлігентаў, бесхрыбетных „соцыялістых“, якія зьвязаны з амэрыканскімі крамнікамі, уласьнікамі булачных і калбасных, левых и правых і г. д. Троцкі кажа, што

> *„мы идем на встречу столь трудным временам, что каждый единомышленник, даже каждый возможный единомышленник должен быть нам дорог. Было бы непростительной ошибкой оттолкнуть единомышленника, тем более группу единомышленников, неосторожной оценкой, пристрастной критикой или преувеличением разногласий“.*

Такім чынам, пад стрэху апазыцыі Троцкі зьбірае ўсіх і ўсялякіх аднадумцаў, не разьбіраючы іх політычнага твару, бо, па яго думцы, „мы идем на встречу столь трудным временам, что каждый единомышленник, даже каждый возможный единомышленник должен быть нам дорог“.

Як вядома, партыя дала рашучы адпор трацкізму, разьбіўшы яго ў працэсе барацьбы. Лепшыя элемэнты з трацкісцкага лягеру ізноў вярнуліся ў партыю, прызнаўшы да канца шкоднасьць сваіх апазыцыйных поглядаў і даўшы абяцаньне выконваць усе дырэктывы партыі. Але ёсьць яшчэ „непоколебимо верные платформе“ трацкізму, якія і да гэтага часу працягваюць заставацца ў радох апазыцыі. Што сталася з „непоколебимо верными?“ Па прызнаньнях саміх апазыцыянэраў у іх шэрагах пануе „паника и растерянность“, „поўная ідэёвая і маральнае разлажэньне“. „Ніхто больш нікому і ў нівошта ня верыць“. Вось да чаго дакаціліся „непоколебимо-верные“ трацкістыя. Іх рэшткі гніюць і разлагаюцца.

Цяпер кожны бачыць, што „непоколебимо-верные платформе троцкизма“ выкрылі свой твар як ворагі дыктатуры пролетарыяту, ворагі соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

Тав. Яраслаўскі дае ў сваёй брашуры шмат вельмі цікавых матар'ялаў, напісаных самімі троцкістымі аб уласным маральным і ідэёвым разлажэньні.

Тав. Яраслаўскі кажа, што трацкістыя былі ня супроць „заключить блок с правыми, если-бы такой блок был возможен“, бо ў 1925 г. Троцкі зусім не разыходзіўся з т. Бухарыным па пытаньню аб „урастаньні кулака ў соцыялізм“. Так, напрыклад, Троцкі даводзіў, што „кулак, багаты селянін, каторы прадае хлеб праз пасрэдніцтва дзяржавы, дазваляе дзяржаве атрымоўваць замежную валюту, за якую мы можам увозіць машыны для нашых заводаў, гэта—плюс, гэта—садзейнічаньне набліжэньню да соцыялізму“.

На наш погляд, ня можа быць ніякай розьніцы паміж кулакамі левых і правых. Кулак у сьвятле правых „урастае ў соцыялізм“, а ў троцкістых „садзейнічае набліжэньню да соцыялізму“. Адзін сьпеў і аднымі словамі.

Па цэламу шэрагу іншых пытаньняў таксама ня было разыходжаньняў паміж правымі і троцкістымі (аб тэмпу будаўніцтва саўгасаў і калгасаў, аб палітыцы ЦК партыі, які быццам вядзе краіну да пагібелі і г. д.). Таму трацкістыя ня супроць зблакіравацца з правымі. Троцкі проста сказаў, што на вядомых умовах „мы былі-б згодны нават з правымі дагаварыцца“. Якія-ж гэта ўмовы?—пытае т. Яраслаўскі.—Троцкі іх точна пералічвае: 1) скарачэньне каштарысу выдаткаў на партыйны апарат, 2) вызначаная падрыхтоўка партзьезду (з дыскусіяй па ўсіх плятформах, усіх „плыняў“), 3) папярэдняя адпраўка „сьвістуноў, грамілаў, фашыстых з агульнай згоды на работу ў новыя саўгасы без прымяненьня да іх 58-га артыкулу, 4) патаемнае галасаваньне“.

Ад такой прапановы правадыра апазыцыі стала моташна многім аднадумцам Троцкага і вось ён піша новы твор, дзе займаецца „казуистикой и вывертами“, дзе ён стараецца давесьці, што „ўсялякія думкі аб блёку з правымі“ сушчая пусьцяковіна. Аднак яго-ж прыхільнікі выкрываюць сапраўдную лінію правадыра, калі яны пішуць аб дырэктывах Троцкага блёкіравацца з правымі.

Трацкістыя, такім чынам, апынуліся за апошняй граньню, ператварыўшыся з аб'яднанай апазыцыі ў контр-рэвалюцыйную групоўку.

Наша партыя будуючы соцыялізм разграміла трацкісцкую апазыцыю і дае рашучы адпор найбольш небясьпечнаму, у даных умовах, праваму ўхілу, рэцыдывам трацкізму і прымірэнцтву да гэтых ухілаў. Ніхто ня спыніць партыю ў яе барацьбе за перабудову нашага грамадзтва на соцыялістычных пачатках. Усякі, хто стане папярок творчай работы партыі, будзе адкінуты жалезным поступам батальёнаў пролетарыяту.

Мы раім кожнаму партыйцу і камсамольцу азнаёміцца з брашурай т. Яраслаўскага, дзе чытач знойдзе вычарпальныя матар'ялы аб шляхах разьвіцьця трацкізму пасьля XV зьезду УсеКП(б).

**Партыяц.**

---

**Л. М. КАГАНОВИЧ. Очередные задачи партработы и реорганизация партийного аппарата.** ГИЗ, 1930 г., тираж 300.000 экз. 59 стр., цена 10 к.

X зьезд УсеКП(б) у рэзолюцыі па пытаньнях арганізацыйнага будаўніцтва сказаў наступнае „Партыя рэвалюцыйнага марксызму ў корані адмаўляе шуканьне абсолютна правільнай, годнай для ўсіх ступеняў рэволюцыйнага процэсу, формы партыйнай організацыі, а, значыць, і мэтадаў яе работы. Наадварот, форма організацыі і мэтадаў работы цалкам вызначаецца асаблівасьцямі даных канкрэтных гістарычных абставін і тымі задачамі, якія з гэтых абставін непасрэдна выцякаюць“. Далей у рэзалюцыі зазначаецца, што з пункту погляду рэволюцыйнага марксызму зразумела, што ўсялякая організацыйная форма і адпаведныя мэтады работы могуць са зьменаю аб'ектыўных умоў разьвіцьця рэволюцыі ператварыцца з форм разьвіцьця партыйнай організацыі ў путы гэтага разьвіцьця; і наадварот, зрабіўшыся нягоднай організацыя формы можа ізноў стаць неабходнай і адзіна мэтазгоднай пры адраджэньні аб'ектыўных умоў.

Ва ўмовах рэконструкцыйнага пэрыяду і шпаркіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва нельга абмежавацца захаваньнем старых форм партыйнай організацыі і мэтадаў яе работы. Тут трэба сур'ёзна абмеркаваць пытаньне аб тым, якія з старых форм організацыі і мэтадаў работы павінны быць адкінуты і якія ўведзены ўноў, бо, як правільна кажа тав. КАГАНОВІЧ: „апарат нашае партыі ніколі ня быў аддзелены ад самае партыі. Палітычныя задачы заўсёды вызначалі задачы партыйнага апарату, зьмяняючы яго формы прымяніцельна да кожнага пэрыяду“. Цяпер, у пэрыяд соцыялістычнай рэконструкцыі, калі партыя непасрэдна падышла да зьнішчэньня клясаў у нашым грамадзтве, да карэннае ломкі і ператварэньня грамадзкіх адносін, ад нас патрабуецца ў галіне організацыі, агітацыі, прапаганды, організацыі гаспадаркі, кіраўніцтва культурнай падрыхтоўкай кадраў значна больш глыбокі і сталы падыход, чым гэта было ў іншыя пэрыяды“—кажа т. Кагановіч у сваёй брашуры. Для нас, для партыі рэволюцыйнага марксызму-ленінізму, зусім ясна, што форма партыйнай організацыі, мэтады яе работы зьяўляюцца службовым сродкам, які падпарадкаваны адзіна неабходнай мэце—перабудове старога вобчаства ў новае, соцыялістычнае вобчаства. А паколькі сучасныя ўмовы высоўваюць новыя запатрабаваньні ў рабоце, пастолькі наша партыя сьмела ідзе на зьмену і ўдасканаленьне форм пабудовы свайго апарату.

т. Кагановіч падрабязна і цікава абгрунтоўвае неабходнасьць реорганізацыі партыйнага апарату на прыкладах з сучаснай практыкі работы нашае партыі. Адсылаючы чытача для падрабязнага азнаямленьня з гэтымі пытаньнямі да брашуры т. Кагановіча, мы ў той-жа час ставім пытаньне аб тым, у чым канкрэтна павінна адбыцца рэорганізацыя партыйнага апарату? Перад гэтым трэба прывесьці вельмі каштоўную аргумэнтацыю т. Кагановіча—

> *„И если мы сейчас ставим вопрос о реорганизации партаппарата, то не потому, что партаппарат оказался негодным, что хоть в какой-либо мере оправдалась критика троцкистов, полутроцкистов и правоуклонистов. Мы реорганизуем партаппарат потому, что потребности жизни выросли, и эта реорганизация не есть ломка партаппарата, а приспособление его к выполнению основных задач партии, в том числе и остающейся в полной силе задачи борьбы с оппортунизмом в наших собственных рядах“.*

На аснове сур'ёзнага аналізу стаячых перад партыяй задач у бягучы пэрыяд соцыялістычнай рэконструкцыі, т. Кагановіч абгрунтоўвае неабходнасьць рэорганізацыі партыйнага апарату. Гэта рэорганізацыя ў асноўным заключаецца ў тым, што падзел работы партыйнага камітэту праводзіцца па функцыянальных прызнаках. Пасьля рэорганізацыі ў партыйным камітэце застаюцца наступныя аддзелы: 1. Арганізацыйна-інструктарскі. 2. Культуры і прапаганды. 3. Аддзел разьмеркаваньня адміністрацыйна-гаспадарчых і профсаюзных кадраў. 4. Аддзел агітацыі і масавых кампаній. 5. Кіраўніцтва справамі. Пры чым разьмеркаваньне кадраў па адпаведных галінах перадаецца належным аддзелам, так, напрыклад, разьмеркаваньне партработнікаў ляжыць на арганізацыйна-інструктарскім аддзеле, разьмеркаваньне кадраў культурных, прапагандыцкіх работнікаў і работнікаў друку ляжыць на аддзеле Культуры і прапаганды. У цяперашні этап разьвіцьця асабліва важна выяўляць жывых людзей на рабоце, на справе і пры разьмеркаваньні работнікаў умець наставіць кожнага работніка на той вучастак, дзе ён лепш за ўсё выканае дырэктывы партыі і штурхне ўперад справу соцыялістычнага будаўніцтва. Паказаная рэорганізацыя прывяла да ліквідацыі, як самастойных, наступных аддзелаў. 1) Жанаддзелу і 2) Аддзелу па рабоце на вёсцы. Але гэта ніколькі не абазначае, што павінна „заціхнуць" работа партыі сярод жанчын, альбо ў вёсцы. Наадварот, тыя задачы, якія былі ўскладзены на вясковы і жанаддзел, гэтыя аддзелы сваю задачу выканалі і цяпер справа ўсіх аддзелаў займацца работай у вёсцы і сярод жанчын. Для таго, каб і надалей працягваць работу сярод жанчын у аддзеле Агітацыі і масавых кампаній, захоўваецца сэктар па рабоце сярод жанчын. Тав. Кагановіч дакладна растлумачвае, чаму арганізуюцца сэктары па рабоце сярод жанчын.

Праведзеная рэорганізацыя партыйнага апарату павінна палепшыць і ўдасканаліць работу партыйнага камітэту. Але; „адной рэорганізацыі канешна мала, неабходна палепшыць работу па сутнасьці, неабходна рашуча змагацца супроць апаратнага самазадаволеньня, неабходна ўзьняць якасьць работы, неабходна прывесьці тэмп работы партыйнага апарату ў суадпаведнасьць з тэмпам соцыялістычнае перабудовы краіны. Неабходна, каб навокал заўсёды дзейнічаючага партапарату складаўся ўсё большы і большы актыў так званых добраахвотных работнікаў, прыцягваемых да работы ў партыйным апараце",—кажа т. Кагановіч у заключэньні сваёй брашуры.

Кніжка т. Кагановіча ня толькі і ня гэтулькі мае „апаратнае" значэньне (як аб гэтым можна падумаць па яе назьве), але яна дае вельмі цікавы матар'ял кожнаму партыйнаму актывісту, яна зьмяшчае вельмі цікавыя думкі аб характары і напрамку работы ўсёй партыі і асабліва партыйнага апарату ў пэрыяд соцыялістычнае рэконструкцыі.

Усякаму партыйнаму актывісту работа тав. КАГАНОВІЧА будзе вельмі карыснай.

А. Г.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ.

## Аб кан'юктуры Народнай Гаспадаркі БССР за першы квартал 1929-30 г.

*(Пастанова бюро ЦК КП(б)Б ад 15/II 30 г.).*

1. Вынікі работы рэспубліканскай прамысловасьці за першую квадру характарызуюцца вельмі нездавальняючымі вынікамі, асабліва ў галіне якасных паказчыкаў. Прадукцыя прамысловасьці, даўшы рост, параўнальна з першай квадрай мінулага году на 63,7%, аднак, склала толькі 20% гадавога пляну. Прадукцыйнасьць працы ўзрасла на 28,3% супроць першай квадры 1928-29 году і толькі на 5,8% супроць IV квадры мінулага году. Зьніжэньне сабекошту дала прыблізна 5% супроць 11% па пляну, што зьніжае прамысловасьць каля 4 млн. руб. і ставіць пад пагрозу выкананьне пляну капітальных работ.

Таксама першая квадра 1929 30 году дала пагоршаньне якасьці прадукцыі па шэрагу галін вытворчасьці. Ацэнка дасягнутых вынікаў работы прамысловасьці сьведчыць аб тым, што прамысловасьць разгортвала сваю дзейнасьць у парадку самацёку і не прыняла яшчэ належных мерапрыемстваў для забесьпячэньня выкананьня пляну на 1929-30 год. Не праведзена фактычна ў жыцьцё дырэктыва ЦК УсеКП(б) аб адзінаначальлі, не скарыстаны ўздым рабочае клясы, ня створана належная працоўная абстаноўка на прадпрыемствах.

2. Побач з інтэнсыўным разгортваньнем калгаснага руху першая квадра адзначыла адмоўнае зьявішча штучнага скарачэньня сваёй маемасьці часткай сялянскіх гаспадарак, што знайшло свой адбітак у масавым зьнішчэньні жывёлы. Гэта адмоўнае зьявішча выклікана новым манэўрам з боку кулацкіх слаёў вёскі, які накіраваны на зрыў працэсаў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. З боку адпаведных гаспадарчых устаноў і мясцовых савецкіх органаў ня быў своечасова дадзен рашучы адпор шкодніцкім дзеяньням кулацкіх слаёў вёскі, ня была праяўлена адпаведная ўвага да спыненьня фактаў разбазарваньня і зьнішчэньня жывёлы.

3. Ня была выканана ў першай квадры адна з важнейшых частак гаспадарчага пляну на 1929 30 год—зьніжэньне бюджэтнага індэксу, які нават даў павышэньне супроць 1928-1929 году, што ўскладняе праблему падвышэньня рэальнай заработнай платы на час, які яшчэ застаўся. Спажывецкая коопэрацыя не праявіла належнай увагі да гэтага важнейшага заданьня, паказаўшы пасыўнасьць у выкананьні дырэктывы аб зьніжэньні бюджэтнага індэксу. Узровень цэн абагуленага сэктару даў некаторае павышэньне за першую квадру, а ахоп рабочага бюджэту каапэрацыяй да гэтага часу знаходзіцца на вельмі недастатковай ступені.

4. З іншых галін народнай гаспадаркі зварочвае на сябе ўвагу марудны тэмп выкананьня экспартнага пляну (13,3% гадавой праграмы за першую квадру), што зьвязана з паслабленьнем увагі і актыўнасьці адпаведных гаспадарчых органаў да пытаньняў разгортваньня экспартных апэрацый як па лініі сельска-гаспадарчых тавараў, так і па лініі прамысловага экспарту.

5. Агульная ацэнка вынікаў першай квадры 1929-30 году паказвае поўную рэальнасьць і магчымасьць выкананьня ўсіх, без выключэньня, гадавых заданьняў кантрольных лічбаў. Недавыкананьне па паасобных вучастках тлумачыцца зусім не аб'ектыўнымі фактарамі, а, наадварот, недастатковай работай гаспадарчых, профсаюзных, партый-

ных і іншых арганізацый, ня прыняўшых неабходных мер, забясьпечваючых выкананьне пляну на 1929-30 год. Вялізарны ўздым актыўнасьці рабочае клясы ня быў скарыстаны для большага прыцягненьня шырачэзных працоўных мас да поўнага выкананьня пляну на другі год пяцігодкі. Пасьпяховае выкананьне плянавых заданьняў немагчыма бяз шырокай папулярызацыі гэтых заданьняў сярод мас рабочых і працоўных, без уцягненьня іх у актыўны ўдзел па ажыцьцяўленьню гаспадарчых плянаў і без мобілізацыі ўвагі ўсіх партыйных, профэсыйных, савецкіх і гаспадарчых арганізацый.

6. Выходзячы з гэтага, бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

а) Прапанаваць фракцыі ЦСПСБ і ВСНГ, не здавальняючыся вынікамі кампаніі па растлумачэньню пляну сярод рабочых мас, распрацаваць шэраг мерапрыемстваў па папулярызацыі прамфінпляну, даводзячы іх да асобнага цэху і скарыстаўшы гэтую кампанію ў мэтах узмацненьня соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, забясьпечыўшы кіраўніцтва гэтым рухам з боку профэсыянальных організацый.

б) Кіраўніцтва работай па папулярызацыі плянавых заданьняў у вёсцы ўсклясьці на спэцыяльныя віды с.-г. коопэрацыі, Калгасцэнтр і НКЗ з тым, каб было забясьпечана шырокае абгаварэньне пляну ў кожным калгасе ў паасобку.

в) Паставіць перад прамысловасьцю БССР задачу перакрыць у бліжэйшыя месяцы недабор першай квадры як у адносіне колькасных, так і асабліва якасных паказальнікаў з тым, каб поўнасьцю забясьпечыць выкананьне гадавога пляну на 1929-30 год. Даручыць Прэзыдыуму ВСНГ на працягу лютага, самым актыўнейшым чынам, праверыць работу паасобных прадпрыемстваў, не застанаўліваючыся перад зьняцьцем з кіруючых пасад тых асоб, якія вінаваты ў зрыве выкананьня пляну.

Даручыць фракцыі Прэзыдыуму ЦСПСБ прыняць усе захады да таго, каб сапраўды пераключыць работу профэсыянальных органаў „тварам да вытворчасьці“, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на падвышэньне працоўнай дысцыпліны, на праверку складу рабочае масы, асабліва ў тых прадпрыемствах, якія даюць пагражаючыя паказальнікі ў галіне працоўнай дысцыпліны, продукцыйнасьці працы і якасьці прадукцыі.

г) Даручыць НКГандлю, Белкоопсаюзу, НКПрацы і ЦСПСБ распрацаваць і ў бліжэйшы час ажыцьцявіць канкрэтны плян мерапрыемстваў па поўнаму забесьпячэньню падвышэньня рэальнай заработнай платы, згодна плянаў. Даручыць НКГандлю, Белкоопсаюзу і ЦСПСБ шырока інформаваць шырокую рабочую масу аб тым, што робіцца ў галіне зьніжэньня бюджэтнага індэксу на 3%. Паставіць перад друкам задачу шырока высьвятляць пытаньні, зьвязаныя з праводзімымі мерапрыемствамі па падвышэньню рэальнай заработнай платы.

д) Даручыць СНК паставіць, як баявую задачу, шырокае ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў па падвышэньню і палепшаньню кармавой базы БССР у мэтах стварэньня ўмоў для падвышэньня колькасьці жывёлы.

Прасіць ЦКК да 1-га красавіка праверыць выкананьне маючыхся дырэктыў у галіне жывёлагадоўлі.

е) Даручыць НКПрацы, разам з Калгассаюзам, распрацаваць канкрэтны плян мерапрыемстваў па рэгуляваньню адходніцтва з калгасаў на працягу 1930 г. і ўнесьці на працягу дэкады ў Бюро ЦК асноўныя прынцыпы, выходзячы з якіх павінны ажыцьцяўляцца мерапрыемствы па рэгуляваньню сэзоннага адходніцтва.

ж) Даручыць усім арганізацыям зьвязацца з друкам для таго, каб перыядычна высьвятляць усе пытаньні, зьвязаныя з ходам выкананьня пляну, паставіўшы пад асобны абстрэл канкрэтных віноўнікаў невыкананьня пляну ў той ці іншай галіне.

з) Лічыць неабходным заслухаць у пачатку красавіка вынікі выкананьня пляну за першае паўгодзьдзе, а таксама асноўныя дырэктывы па складаньню кантрольных лічбаў на 1930-31 год. Адначасова заслухаць ход выкананьня вызначаных мерапрыемстваў па кан'юктуры за першую квадру.

# Аб капітальным будаўніцтве за 1928-29 г. і падрыхтоўцы на 1929-30 год.

*(Пастанова бюро ЦК КП(б)Б ад 15/II 30 г.).*

1. Бюро ЦК КП(б)Б канстатуе, што побач з не-з каторымі дасягненьнямі ў капітальным будаўніцтве 1928-29 г. (узьвядзеньне будаўніцтва без надворных рыштаваньняў, выкананьне некаторых аб'ектаў будаўніцтва на працягу аднаго сэзону, агульнае паскарэньне будаўніцтва і г. д.) адначасова наглядаецца цэлы шэраг недахопаў, галоўнейшымі з іх зьяўляюцца: 1) Невыкананьне дырэктывы па ўтаненьню будаўніцтва; 2) несваячасовая падрыхтоўка праектаў; 3) у шэрагу выпадкаў дрэнная якасьць будаўніцтва (утварэньне трэшчын, асадка) і недастатковае разгортваньне вытворчасьці будаўнічых матар'ялаў, асабліва тых, якія могуць вытварацца на мясцовай сыравіне; 4) недастатковая падрыхтоўка рабочае сілы; 5) зусім недастатковыя посьпехі ў галіне мэханізацыі будаўніцтва.

Акрамя гэтага, Бюро ЦК КП(б)Б адзначае слабае разгортваньне рабочае грамадзкасьці ў пытаньнях будаўніцтва, як-та: разгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва, ударніцтва, павялічэньне вытворчасьці працы, палепшаньне якасьці і г. д.

2. Адзначаючы вышэй паказаныя недахопы і прымаючы пад увагу, што рост капітальнага будаўніцтва ў 1929-30 г. дасягае па рэспубліканскай прамысловасьці падвоенай сумы супроць мінулага году, г. зн. 52 млн. руб., і што выкананьне гэтага пляну будаўніцтва патрабуе вялізарнай напружанасьці сіл, сродкаў і ўвагі партыйных, профэсыянальных, гаспадарчых і савецкіх арганізацый, Бюро ЦК КП(б)Б прапануе гаспадарчым арганізацыям прыняць рашучыя меры да ўхіленьня меўшых месца недахопаў у будаўніцтве мінулага году і максымальна разгарнуць работу па мэханізацыі і стандартызацыі працэсаў будаўніцтва.

Надаючы выключна важнае значэньне справе мэханізацыі і стандартызацыі працэсаў будаўніцтва,— даручыць ЭКАНА намеціць шэраг мер па пашырэньню прамысловасьці, выпрацоўваючай прылады мэханізацыі працэсаў будаўніцтва, у прыватнасьці паставіць пытаньне перад суадпаведнымі саюзнымі органамі аб большым снабжэньні сродкамі вытворчасьці прадпрыемстваў БССР будаўнічнымі прыладамі і мэханізмамі.

3. Усім будуючым і будаўнічым арганізацыям неадкладна выканаць заданьне ЭКАНА аб сваячасовай падрыхтоўцы праектаў і рабочых чарцяжоў ва ўстаноўленыя тэрміны, асабліва падкрэсьліць важнасьць работы гаспадарчых арганізацый па выпрацоўцы будаўнічых матар'ялаў.

Таму, побач з прыняцьцем сваячасовых мер да забесьпячэньня завозу дэфіцытных будаўнічых матар'ялаў у БССР, асаблівую ўвагу згрупаваць на разьвіцьці прамысловасьці па выпрацоўцы будматар'ялаў, працуючай на мясцовай сыравіне, як та: пашырэньне цаглянай вытворчасьці, вапны, дахавых матар'ялаў і інш., дзеля чаго ВСНГ, Сампрамсаюзу і Акруговым Выканаўчым Камітэтам прыступіць да неакладнага разгортваньня будаўніцтва новых прадпрыемстваў па выпрацоўцы будаўнічых матар'ялаў і пашырэньня аб'ёму існуючых з такім разьлікам, каб у гэтым сэзоне можна было-б скарыстаць продукцыю, якая выпушчаецца ўноў будуючыміся прадпрыемствамі.

4. Даручыць Наркампрацы прыняць рашучыя меры да падрыхтоўкі і забесьпячэньня рабочай сілай будаўніцтва, дзеля чаго сваячасова організаваць вярбовачна-карэспандэнцкія пункты, прыняць меры да скарыстаньня рабочай сілы з вёскі. У гэтай частцы даручыць Наркампрацы, Калгасцэнтру і Саюзу Працзямлес неадкладна намеціць мерапрыемствы па рэгуляваньню адходу рабочых з калгасаў у час будаўнічага сэзону, удзяліўшы асаблівую ўвагу вярбоўцы батрацтва для будаўнічых работ. Акрамя таго, Наркампрацы пашырыць курсы па падрыхтоўцы і па перападрыхтоўцы рабочае сілы.

5. Адзначаючы недастатковае разьвіцьцё ў мінулым годзе пролетарскай грамадзкасьці на будаўнічых работах,- Бюро ЦК КП(б)Б прапануе гаспадарчым і прафсаюзным организацыям прыняць рашучыя меры да сваячасовай падрыхтоўкі шырокіх рабочых мас да будаўнічага сэзону, удзяліўшы асаблівую ўвагу разьвіцьцю соцыялістычнага спаборніцтва, організацыі ўдарных брыгад, пераводу работы на бесьперапынны рабочы тыдзень, устанавіўшы шырокі кантроль рабочых мас над выкананьнем будаўнічых плянаў, асабліва па палепшаньню якасьці і ўтаненьню будаўніцтва.

Улічваючы, што ў бягучым годзе ў сувязі з пашырэньнем аб'ёму будаўнічай праграмы і недахопам кваліфікаванай рабочай сілы, патрабуецца ўцягненьне значнай часткі рабочых у будаўніцтва з вёскі (калгасы, батрацтва), даручыць Акруговым Камітэтам партыі, фракцыі праўленьня Саюзу будаўнікоў пасіліць работу па культурнаму, палітычнаму і бытавому абслугоўваньню будаўнічых рабочых, асабліва ўдзяліўшы ўвагу выпрацоўцы адпаведных мэтадаў і ўмоў абслугоўваньня ўноў уцягваемых кадраў рабочых.

Гаспадарчым організацыям, з свайго боку, прыняць усе неабходныя меры да забесьпячэньня ўмоў разгортваньня культурна-асьветнай работы.

Наркампрацы, Наркам. Аховы Здароўя і Цэрабсэкцыі забясьпечыць мэдычнае і бытавое абслугоўваньне рабочых на будаўніцтве.

6. Улічваючы вялікую патрэбу ў інжынэрна-тэхнічным пэрсанале для будаўнічных работ і недахоп апошняга, — даручаецца Наркампрацы, ВСНГ і Наркамасьветы прыняць усе залежачыя ад іх меры да прыцягненьня з боку, у прыватнасьці з аканчваючых ВТНУ і тэхнікумы, а таксама падрыхтоўцы і перакваліфікацыі інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу на месцы.

У справе ўпарадкаваньня капітальнага будаўніцтва, яго патаненьня і палепшаньня якасьці вялізарную ролю адыгрывае рацыяналізатарская работа, пагэтаму даручыць ВСНГ і іншым будуючым організацыям разам з НК РСІ, як правіла, у абавязковым парадку, арганізаваць сталыя ячэйкі, сыстэматычна працуючы над пытаньнямі рацыяналізацыі будаўніцтва, вылучыўшы для гэтай мэты як асабліва

адданых спэцыялістых, так і выдаючыхся рабочых, асабліва з ударных брыгад.

7. Бюро ЦК КП(б)Б з асаблівай сілай яшчэ раз падкрэсьлівае ўвагу ўсіх будуючых і будаўнічых організацый на своечасовую падрыхтоўку да будаўнічага сэзону з мэтай папярэджаньня спазьненьня пачатку работы ў 1930 г., асабліва па важнейшым буйнейшым аб'ектам прамысловага будаўніцтва, як та: цэмэнтны завод, шкляны завод, завод сярэдняга машына-будаўніцтва, дрэваапрацоўваючы камбінат, ільнопрадзільны камбінат, мясны камбінат у Віцебску, Бабруйску цэлюлёзны камбінат, фабрыка штучнага валакна і г. д.

8. Даручыць Разьмяркаддзелу ЦК у бліжэйшыя тэрміны правесьці ў жыцьцё рашэньне Сакратарыяту аб мобілізацыі 100 чал. камуністых і комсамольцаў для ўзмацненьня будаўнічых організацый.

9. Даручыць Наркампрацы праверыць цэнтральныя і акруговыя апараты з мэтай пасылкі занятых у гэтых апаратах інжынэрных і тэхнічных сіл на выкананьне будаўнічых работ.

## Усім Акругкомам КП(б)Б.

ЦК КП(б)Б накіроўвае рашэньні нарады загадчыкаў Аргаддзеламі АК КП(б)Б па пытаньнях рэорганізацыі парт'апарату АК, РК і вытворчых ячэек, а таксама рашэньні аб перабудове работы сельскіх ячэек у сувязі з масавай колектывізацыяй.

У гарадзкіх райкомах (Кастрычнікаўскі, Фрунзаўскі, Нова-Барысаўскі, Менская акруга, Гарадзкі, Залінейны, Рэчыцкі—Гомельская акруга, 1-ы і 2-гі горрайён Віцебскай акругі), ЦК рэкамэндуе рэорганізаваць аддзелы ў наступныя сэктары: 1) Організацыйна-Інструктарскі і кадраў, 2) Культуры і Прапаганды, 3) Масавай работы. Ва ўсіх пералічаных райкомах на чале кожнага сэктару ставіцца асноўны работнік. Што-ж датычыцца ўсіх другіх райкомаў, дык там загадваньне організацыйна-інструктарскімі сэктарамі павінна быць ускладзена на сэкратароў райкомаў. Пралетарска-Слабодскаму райкому прапануецца стварыць два сэктары: 1. Організацыйна-Інструктарскі і кадраў, 2) Прапаганды і масавай работы з ускладаньнем кіраўніцтва оргінструктарскім сэктарам на сакратара райкому.

Да работы ў сэктарах прыцягнуць шырокія колы раённага партыйнага актыву, організаваўшы пазаштатны інструктаж. Таварышоў, якія зьяўляюцца пазаштатнымі інструктарамі і ўдзельнікамі ў рабоце сэктараў, неабходна аслабаніць ад усялякай партыйнай нагрузкі, лічачы работу ў сэктарах іх асноўным партыйным абавязкам.

Прызнаваючы мэтазгодным у вытворчых ячэйках пераход на сыстэму сэктараў, ЦК прапануе ў час перавыбараў бюро партыйных органаў абгаварыць пытаньне аб пераходзе на сыстэму сэктароў ужо зараз на шэрагу больш буйных прадпрыемстваў з тым, каб у бліжэйшыя два-тры месяцы вывучыць станоўчы вопыт гэтага пераходу і распаўсюдзіць яго на ўсе організацыі.

Рашэньні нарады аб перабудове работы сельскіх ячэек у сувязі з масавай колектывізацыяй дасылаюцца як матар'ял усім акругкомам і сельскім райкомам для абгаварэньня на мясцох.

Заг. Оргінструк. Аддз.
ЦК КП(б)Б *Гантман.*

## Пастанова нарады загадчыкаў аргаддзелаў АК КП(б)Б па пытаньню аб рэарганізацыі партапарату.

1. Складаныя задачы, якія стаяць перад партыяй у пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі і сацыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі, ажыцьцяўленьне палітыкі па ліквідацыі кулацтва як клясы, цэлы шэраг актуальнейшых задач, якія ў бягучы пэрыяд паўсталі перад партыяй з асобай вострасьцю (падрыхтоўка кіруючых пралетарскіх кадраў, неабходнасьць забясьпечаньня парткіраўніцтва надзвычайна ўзросшай актыўнасьцю рабочае клясы, батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас на вёсцы), высоўвае пытаньне аб перабудове партапарату, аб далейшым яго якасным умацаваньні, спрашчэньні і дыфэрэнцыяцыі работы ў розных галінах па функцыянальных прызнаках.

2. Нарада цалкам адабрае рашэньне ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб рэарганізацыі партапарату і даручае Акруговым Камітэтам партыі ў тыднёвы тэрмін рэарганізаваць апараты АК у суадпаведнасьці з рэарганізацыяй апарату ЦК КП(б)Б.

Арганізаваць у АК наступныя аддзелы:

а) Арганізацыйна-інструктарскі аддзел, на які ўскладаюцца задачы: праверка работы мясцовых арганізацый па выкананьню імі асноўных дырэктыў ЦК, абсьледваньне мясцовых арганізацый, кіраваньне работай інструктароў, бягучая сувязь з мясцовымі арганізацыямі і разьвязваньне бягучых арганізацыйных пытаньняў, прапрацоўка пытаньняў партыйна-масавай работы ў горадзе і ў вёсцы (унутры-партыйная дэмократыя, самакрытыка, вылучэньне, вярбоўка і рэгуляваньне росту партыі і інш. пытаньняў партбудаўніцтва), парткіраўніцтва комсамолам, парткіраўніцтва савецкімі, профсаюзнымі і інш. масавымі арганізацыямі, рацыяналізацыя партапарату, перападрыхтоўка і разьмеркаваньне партыйных кадраў, прасачэньне за работай мясцовых арганізацый і рэагаваньне па асобных пытаньнях па інфармацыйных матар'ялах, вывучэньне асабовага складу партыі, вучот і вывучэньне складу кіруючых органаў.

б) Аддзел разьмеркаваньня, на які ўскладаюцца задачы: вучоту і разьмеркаваньня работнікаў савецкіх і гаспадарчых органаў, разьмеркаваньне профсаюзных кадраў, праверка працы асобных ведамств па падрыхтоўцы кадраў і праверцы работы асобных ведамств па арабачэньню сваіх апаратаў.

в) Аддзел Культуры і Прапаганды, на які ўскладаюцца задачы: кіраўніцтва і праверкі работы па лініі народнае асьветы, клюбнай і палітасьветнай працы, тэарэтычная падрыхтоўка і выхаваньне членаў партыі, кіраўніцтва прапагандай марксызму-ленінізму, кіраўніцтва друкам і living рознымі літаратурнымі аб'яднаньнямі, кіраўніцтва і праверка працы ў галіне мастацтва, кіно і радыё, разьмеркаваньне і падрыхтоўка кадраў па лініі асьветы, друку і прапаганды.

г) Аддзел агітацыі і масавых кампаній, які ажыцьцяўляе кіраўніцтва масавай агітацыяй, арганізацыяй розных масавых кампаній і штодзеннае кіраўніцтва іх правядзеньнем праз адпаведныя арганізацыі, кіраўніцтва і назіраньне за дзейнасьцю рознага роду добраахвотных таварыстваў, кіраўніцтва масавай агітацыйнай работай сярод работніц і сялянак, падбор і разьмеркаваньне кадраў для дабраахвотных таварыстваў.

3. Нацсэкцыі пры АК ліквідаваць, усклаўшы працу сярод нацменшасьцяў на адпаведныя аддзелы ЦК. Нарада даручае Аргінструктарскаму Аддзелу ЦК распрацаваць пытаньне аб узмацненьні работнікамі нац. камісій па савецкай лініі і інспэктуры Нарасьветы па абслугоўваньню нацменшасьцяў.

4. Працу сярод работніц і сялянак ускласьці на адпаведныя аддзелы АК, якія нясуць поўную адказнасьць за становішча гэтай працы. Нарада лічыць неабходным забясьпечыць узмацненьне ўсёй працы сярод работніц і сялянак, ні ў якім разе не дапушчаючы аслабленьня гэтай работы. Для гэтай мэты неабходна на Сакратарыятах і Бюро АК ставіць асобныя пытаньні і даклады адпаведных аддзелаў АК па абслугоўваньню работніц і сялянак. Нарада лічыць неабходным скарыстаць жанработнікаў, якія маюць дастатковы вопыт па лініі партыйнай, савецкай і гаспадарчай працы.

5. У гарадзкіх раённых камітэтах партыі (Кастрычнікавы, Фрунзаўскі і Нова-Барысаўскі—Менскай акругі, Гарадзкі, Залінейны і Рэчыцкі—Гомельскай акругі, 1-ы і 2-гі Горраёны—Віцебскай акругі) рэорганізаваць аддзелы ў наступныя сэктары: 1. Організацыйна-Інструктарскі і кадраў. 2. Культуры і Прапаганды. 3. Масавай работы. У пералічаных райкомах намячаюцца асноўныя работнікі на загадваньне сэктарамі, у астатніх-жа гарадзкіх райкомах загадваньне Організацыйна-Інструктарскімі сэктарамі неабходна ўскласьці на сакратароў райкомаў.

Што датычыцца Пралетарска-Слабодзкага раёну Віцебскай акругі, дык там неабходна ўтварыць два сэктары: 1. Організацыйна - Інструктарскі і кадраў. 2. Прапаганды і масавай работы, пры чым загадваньне організацыйна-інструктарскім сэктарам павінна быць ускладзена на сакратара райкому.

Для работы ў сэктарах прыцягнуць шырокія колы партыйнага актыву, арганізаваўшы пазаштатны інструктаж. Таварышоў, якія зяўляюцца пазаштатнымі інструктарамі і ўдзельнікамі ў рабоце сэктараў, неабходна аслабаніць ад усялякай партыйнай нагрузкі, лічачы работу сэктараў іх асноўным партыйным абавязкам.

6. Пры Сельрайкомах асобныя сэктары не ствараюцца, а кожны райком прыцягвае групу таварышоў са складу партактыву раёну да ўдзелу ў рабоце Райкому, даручае гэтым таварышам абсьледваньне розных арганізацый, прапрацоўку розных пытаньняў партыйнай, гаспадарчай і савецкай работы. У выглядзе вопыту лічыць магчымым пры 2—3 найбольш буйных сельрайкомах арганізаваць некаторыя сэктары, прыкладна: сэктар аргінструктарскі, культурна-масавай работы, тэарэтычнай падрыхтоўкі камуністых, савецкай работы, сэктар па калектывізацыі і інш. Даручыць Аргінструктарскаму Аддзелу вызначыць гэтыя Сельрайкомы.

7. Тэхнічны апарат Акругкомаў павінен быць цэнтралізаваны. Адзіны тэхнічны апарат абслугоўвае ўсе аддзелы АК. Сэктар інфармацыі і статыстыкі пры аргінструктарскім аддзеле абслугоўвае ўсе аддзелы АК. Вучот членаў партыі знаходзіцца пры аддзеле разьмеркаваньня АК.

8. Абсьледваньне мясцовых арганізацый праводзіцца аргінструктарскім аддзелам пры ўдзеле АКК.

9. За лік скарачэньня апарату ЦК і АК узмацніць Сельрайкомы і вытворчыя ячэйкі. Нарада лічыць неабходным дадаткова ўстанавіць штатную адзінку (АПА) для ўсіх Сельрайкомаў (дзе такіх няма), дадаткова ўстанавіць адзінкі тэх. сакратароў для сельрайкомаў (дзе такіх няма), а таксама даручае ЦК перагледзець штаты вытворчых ячэек на прадмет іх некаторага ўзмацненьня.

10. Пры правядзеньні рэарганізацыі партапарату неабходна паставіць сваёй асноўнай задачай узмацненьне і падбор лепшых працаўнікоў, ні ў якім разе не дапускаючы мэханічнага падыходу да яго рэарганізацыі.

---

# Пастанова нарады загадчыкаў аргаддзелаў АК КП(б)Б аб перабудове партыйнай і масавай работы на прадпрыемствах.

1. Умовы рэканструкцыйнага пэрыяду, нябывалы ўздым палітычнай і творчай актыўнасьці рабочае клясы, неабходнасьць рашучага змаганьня за пасіленыя тэмпы социялістычнага будаўніцтва і выкананьне пяцёхгодкі ў чатыры гады, абвастрэньне клясавае барацьбы ў сувязі з рашучым наступленьнем социялізму на капіталістычныя элемэнты і задачай зьнішчэньня кулацтва як клясы, якая ўжо вырашаецца на справе ў раёнах суцэльнай колектывізацыі, рашучае змаганьне з праявамі правай ідэалёгіі і практыкі і рэцыдывамі, трацкізму—усё гэта выклікае неабходнасьць хутчэйшай перабудовы партыйнай і масавай работы на прадпрыемствах. Перабудова партыйнай і масавай работы на прадпрыемствах выклікаецца неабходнасьцю ліквідаваць несуадпаведнасьць паміж формамі і мэтадамі партыйнае работы і новымі тэмпамі социялістычнага будаўніцтва. У новых умовах пры шпаркіх тэмпах социялістычнага будаўніцтва трэба зьмяніць старыя мэтады работы. Перабудова партыйнай і масавай работы павінна забясьпечыць:

а) мобілізацыю актыўнасьці рабочае клясы навокал выкананьня важнейшых задач социялістычнага будаўніцтва.

б) сапраўдна кіруючую ролю партыйнага колектыву на прадпрыемстве, які арганізуе і накіроўвае ўзросшую актыўнасьць рабочае клясы ў рэчышча социялістычнага будаўніцтва і барацьбы з адсталымі настроямі сярод асобных груп рабочых;

в) згуртаваньне шырокіх колаў рабочых навакол удзелу ў социялістычным

спаборніцтве і разгортваньне ўдарніцтва брыгад, цэхаў і заводаў;

г) паварот усёй партыйнай арганізацыі „тварам да вытворчасьці“, шляхам сталага ўдзелу ў выкананьні асноўных гаспадарчых дырэктыў партыі, промфінпляну і правядзеньня адзінаначальля;

д) высоўваньне і выхаваньне новых шырокіх кадраў партыйнага актыву на практычнай рабоце.

2. Рашучае соцыялістычнае наступленьне, пасьпяховае выкарчоўваньне карэньняў капіталізму ў краіне патрабуе больш высокіх і інтэнсыўных тэмпаў работы. У сучасных умовах асабліва важна змагацца за чоткасьць, рухавістасьць у рабоце за канкрэтную справу, за вызначаныя даручэньні вызначаным людзям, за праверку выкананьня гэтымі людзьмі і г. д. Таму нарада выказваецца за пераход да сыстэмы сэктараў па паасобных найбольш важных галінах работы ў партыйных ячэйках і калектывах прадпрыемств.

Ужо цяпер трэба пачаць перабудову партыйнай і масавай работы, ахапіўшы ў першую чаргу больш буйныя прадпрыемствы. Канкрэтна неабходна правесьці ў галіне арганізацыі работы наступныя мерапрыемствы:

а) працягнуць работу па афармленьню цэхавых ячэек на прадпрыемствах, якія пашыраюцца, і пашырыць сетку цэхавых ячэек на прадпрыемствах са значнай колькасьцю асобных аддзяленьняў, паверхаў, цэхаў і г. д., арыентуючыся на ўтварэньне цэхавай ячэйкі ў мясцох з адпаведным лікам рабочых і камуністых;

б) пашырыць сетку групавых партыйных арганізатараў з такім разьлікам, каб групparторг аб'яднаў ня больш 4—5 камуністых і 15—20 беспартыйных рабочых: партарганізатары павінны вылучацца ў брыгадзе, арцелі і інш. першапачатковых вытворчых адзінках з такім разьлікам, каб скласьці там нізавы трохкутнік з групparторга, брыгадзіра і профдэлегата; пры чым у брыгадзе, як правіла, павінен вылучацца парторг брыгады, які непасрэдна падпарадкуецца бюро ячэйкі;

в) замест камісій утварыць сэктары па адпаведных галінах работы пры бюро калектываў і ячэек, пры чым у больш буйных калектывах і ячэйках намеціць арганізацыю прыблізна наступных сэктараў: 1. гаспадарча-вытворчы, 2. культурна-масавы, 3. вучобы, 4. агітацыі і друку, 5. росту партыі і работу з кандыдатамі, 6. партнагрузкі (вучот і разьмеркаваньне), 7. работы сярод моладзі, 8. работы сярод жанчын, 9. падрыхтоўкі і вылучэньня кадраў, 10. садзейнічаньня калектывізацыі.

Нарада лічыць, што сэктары па рабоце сярод жанчын трэба ўтвараць толькі ў тых прадпрыемствах, дзе жанчыны складаюць меншую частку рабочых. На іншых-жа прадпрыемствах асобных сэктараў работы сярод жанчын не ўтвараць.

У залежнасьці ад велічыні прадпрыемства і парткалектыву можна ўтварыць інфармацыйна-статыстычны сэктар, на які ўскласьці абавязкі ўлічваць настроі рабочых і сваячасова даводзіць да ведама аб іх бюро партыйнага калектыву (ці цэх. ячэйкі), праз сувязь з адпаведнымі сэктарамі налажваць растлумачальную работу на падставе інфармацыйнага матар'ялу і г. д.

г) у цэхавых ячэйках утварыць наступныя сэктары: 1. гаспадарча-вытворчы, 2. вучобы, 3. агітацыі, 4. росту і работы з кандыдатамі, 5. работы сярод моладзі альбо жанчын (у залежнасьці ад колькасьці тэй ці іншай групы ў цэху).

Утварэньне сэктараў можа цалкам апраўдаць сябе толькі ў тым выпадку, калі ўсе партыйныя арганізацыі сур'ёзна аднясуцца да гэтае работы і вылучаць лепшыя сілы партыйцаў актывістых у якасьці арганізатараў сэктараў і іх намесьнікаў, калі бюро ячэек будуць пільна сачыць за іх работай і аказваць ім штодзенную дапамогу. Адначасова нарада лічыць неабходным пасіліць работу вайсковых арганізатараў, якіх трэба вылучаць пры ўсіх калектывах і буйных цэхах прадпрыемстваў.

Для кіраўніцтва работай сэктараў парткалектывы павінны пэрыядычна склікаць кіраўнікоў—сэктараў, інструктаваць і дапамагаць у іх практычнай рабоце, прыцягваць да ўдзелу ў рабоце сэктараў лепшых беспартыйных рабочых, блізка стаячых да партыі. Аднак, утварэньне сэктараў ні ў якім разе не павінна па-

весьці за сабой павялічэньне пасяджэньняў. Уся работа сэктараў павінна праходзіць у асноўным у апэратыўным парадку.

Гэтыя агульныя паказаньні аб мэтадах падыходу да перабудовы партыйнай і масавай работы павінны прыстасоўвацца да канкрэтных умоў кожнага прадпрыемства ў залежнасьці ад яго сваясаблівасьцяў.

3. Аднэй з галоўнейшых задач перабудовы работы на прадпрыемствах зьяўляецца задача павароту „тварам да вытворчасьці“ партыйных, профсаюзных і комсамольскіх арганізацый, выкананьне якой павінна забясьпечыць поўнае ажыцьцяўленьне вытворчай праграмы прадпрыемства, шляхам пільнай прапрацоўкі пяцёхгодкі сярод рабочых і давядзеньне яе да цэха, да брыгады і варштату, шляхам разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва, разьвіцьця ўдарніцтва і г. д. Пры гэтым задача партыйнай арганізанізацыі заключаецца ў тым, каб знаходзіць „рашаючыя зьвеньні“ вытворчасьці на даным этапе работы і перайсьці ад дэкляратыўных агульных дырэктыў па гаспадарчых пытаньнях да канкрэтнай прапрацоўкі іх, да вынясеньня чоткіх, ясных дырэктыў, грунтучыхся на сур'ёзным аналізе становішча вытворчасьці. Партыйныя арганізацыі павінны таксама адмовіцца ад простага „штампаваньня“ дырэктыў гаспадарчых органаў.

Пасьпяховы паварот тварам да вытворчасьці трэба ажыцьцяўляць і шляхам правільнай расстаноукі партыйных сіл на прадпрыемстве, шляхам пасіленьня вярбоўкі ў партыю лепшай часткі рабочых па асноўных цэхах, прадпрыемства, павялічэньне партпраслойкі па гэтых цэхах, увядзеньне ў практыку партыйнае нагрузкі—удзелу камуністых у вытворчых камісіях, нарадах, у рацыяналізатарскіх камісіях і пагалоўнага ўцягненьня камуністых і комсамольцаў у соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарныя брыгады.

4. Сыстэма работы па сэктарах павінна зрабіць структуру партыйнага кіраўніцтва канкрэтнай, прыстасаванай да сапраўдных галін работы ячэйкі на прадпрыемствах, яна павінна ажыцьцявіць пэрсанальную адказнасьць за выкананьне партыйных дырэктыў на даным вучастку работы, утварыць калектыўнасьць ва ўсёй рабоце ячэйкі, забясьпечыць выхаваньне партыйных, гаспадарчых, прафэсыянальных і грамадзкіх кадраў на практычнай рабоце, на падставе ўцягненьня ў работу партыйнай ячэйкі ўсіх камуністых. Мэтад работы па сэктарах павінен унесьці ў сыстэму самой работы праверку выкананьня партыйных дырэктыў і плянаў, павінен замяніць шматлікія паседжаньні, садзейнічаць пераходу ад унівэрсальнасьці, якая была патрэбна ад сяброў камісіі, да канкрэтнага партыйнага абавязку з дасканала вызначаным сэктарам работы і адказнасьцю за выкананьне пляну работы данага сэктару. Сыстэма работы па сэктарах павінна садзейнічаць выхаваньню партыйнага і беспартыйнага рабочага актыву і яго плянаваму высоўваньню.

Нарада лічыць, што сыстэма падзелу работы па сэктары павінна аслабаніць асноўных работнікаў калетываў і ячэек ад практычных дробязяў і накіраваць іх увагу на разьвязваньне асноўных пытаньняў работы; яна павінна паставіць на належную вышыню кантроль за выкананьнем даручанай справы. Сыстэма сэктараў дазваляе дыфэрэнцыраваць работу і спэцыялізавацца работнікам, працуючым па данаму сэктару. Новая сыстэма работы дазваляе цэнтр цяжкасьці перанесьці ў цэх, у нізавое зьвяно, згуртаваць навокал асноўных мерапрыемстваў партыі шырокія масы партыйцаў і беспартыйных рабочых.

5. Нарада лічыць, што неадкладна трэба распачаць рэарганізацыю работы комсамольскіх і профсаюзных органаў на прадпрыемствах. Дадатковыя вынікі сыстэма сэктароў можа даць толькі тады, калі будзе перабудована па-новаму работа профсаюзаў і комсамолу, якія павінны сваю арганізацыйную сетку будаваць прыблізна таксама, як і партыйныя органы (профсаюзы—сэктары пры фабзаўкомах і цэхпрофбюро, профдэлегаты; комсамол—сэктары пры калектыве КСМ і пры цэхавых ячэйках, групавыя арганізатары). Аднатыпавасьць структуры і арганізацыі работы профсаюзаў, комсамолу і партыі дазволіць шпаркім тэмпам працаваць над выкананьнем вытвор-

чых плянаў прадпрыемства, узьнімаць узровень клясавай і палітычнай сьвядомасьці шырокіх колаў рабочых і ўтварыць новыя кадры партыйнага, комсамольскага і профсаюзнага актыву.

6. У галіне практычных мерапрыемств з боку Аргінстаддзелу ЦК па замацаваньню і разьвіцьцю перабудовы партыйнае работы нарада лічыць неабходным правесьці наступнае:

а) распрацаваць канкрэтныя палажэньні аб задачах сэктараў, выкарыстоўваючы вопыт перадавых прадпрыемстваў Саюзу;

б) распрацаваць прыкладныя пляны работы па частцы сэктараў, грунтуючыся на вопыце электразаводу і заводу „АМА“;

в) у бліжэйшы час правесьці абсьледваньне вопыту нізавога партыйнага будаўніцтва, у зьвязку з задачамі рэконструкцыйнага пэрыяду, прыцягнуўшы да гэтай справы мясцовыя парт. арганізацыі і партыйны друк. Абсьледваньне правесьці на аснове соцыялістычнага спаборніцтва і ўзаемнага абсьледваньня парткалектываў прадпрыемстваў. Нарада лічыць мэтазгодным вылучыць некалькі брыгад ЦК і накіраваць іх на больш буйныя прадпрыемствы БССР для вывучэньня вопыту перабудовы партработы і распаўсюджваньня лепшых прыкладаў на ўсе арганізацыі БССР;

г) пасіліць асьвятленьне на старонках „Партыйнага Работніка“ і газ. „Зьвязда“ вопыту перабудовы партыйнай, профсаюзнай і комсамольскай работы на прадпрыемствах, абавязаўшы парткалектывы пісаць аб гэтым вопыце ў партыйны друк.

У адносінах абслугоўваньня культурна-масавай работай рабочых прадпрыемстваў, якія перайшлі на бесьперапынны тыдзень і працуюць па зьменах, неабходна ўжыць усе захады да прыстасаваньня культурна-асьветных установаў (клюбаў, бытавых установаў, дзіцячыя сады, яслі) і інш. відаў масавай работы да ўмоў бесьперапынкі і зьменнасьці.

8. Нарада даручае Акругкомам КП(б)Б на працягу двух месяцаў правесьці вывучэньне вопыту работы зьменных ячэек, абгаварыўшы мэтазгоднасьць далейшага існаваньня сеткі зьменных ячэек і даслаць гэты матар‘ял ў ЦК КПБ.

9. Нарада выказваецца за больш рашучае шуканьне новых форм партыйнай і масавай работы на прадпрыемствах. Райкомы і Акругкомы павінны садзейнічаць разгортваньню ініцыятывы ячэек па прымяненьню новых форм работы, па вывучэньню іх дадатнага вопыту на прыкладзе прадпрыемстваў і г. д.

## Пастанова нарады загадчыкаў аргаддзелаў АК КП(б)Б аб перабудове і палепшаньні сыстэмы вылучэньня і падрыхтоўкі вылучэнцаў.

### I.

Задачы ў галіне сацыялістычнай перабудовы краіны, выкарчоўваньня карэньняў капіталізму і ліквідацыі кулацтва як клясы патрабуюць энэргічнай і настойлівай работы па барацьбе з бюракратызмам, па карэннай перабудове, чыстцы, арабачэньню і палепшаньню дзярж. апарату і апарату каапэрацыйных, прафэсыянальных і іншых арганізацый.

Выкананьне дырэктывы Студзеньскага Пленуму ЦК аб узмацненьні пралетарскага ядра кіруючых органаў і палепшаньня яго якасьці, шляхам рашучага вылучэньня на кіруючую работу новых тысяч камуністаў, рабочых, батракоў, беднякоў, забясьпечыць ажыцьцяўленьне задач па палепшаньню работы усіх нашых арганізацый.

### II.

Адзначаючы, што за апошні год партарганізацыяй Беларусі дасягнуты посьпехі ў галіне вылучэньня рабочых на кіруючую работу ў дзярж., проф., кооп. апараты, — нарада падкрэсьлівае, што тэмп вылучэньня зусім недастатковы і яўна адстае, як ад патрэбнасьці ў рабочых—кіраўнікоў соцыялістычнага будаўніцтва, так і ад маючыхся фактычных магчымасьцяў па вылучэнню.

Нарада канстатуе налічча супраціўленьня ў некаторай частцы апаратаў вылучэньню сьвежых пралетарскіх сіл у гэтыя апараты. Такое супраціўленьне павінна быць расцэнена, як дзейнічаньне клясава-варожых бюракратычных элемэнтаў, якія яшчэ знаходзяцца ў нашых апаратах.

Нарада прапануе весьці самую рашучую барацьбу з усімі праявамі яўнага і скрытага супраціўленьня вылучэньню сьвежых пралетарскіх сіл. Завастрыць барацьбу з недастаткова-актыўнай работай камуністых, у галіне сваячасовага палепшаньня сваіх апаратаў за кошт вылучэнцаў, кваліфікуючы дзейнічаньні такіх камуністых—кіраўнікоў, як праяўленьне правага ўхілу на практыцы.

Нарада падкрэсьлівае зусім недапушчальнаестановішча з вылучэньнем работніц, батрачак, беднячак, у прыватнасьці с.-гаспадарчых работніц і рабоча-батрацкай моладзі. Таксама зусім недастатковым зьяўляецца процант вылучэньня беспартыйных рабочых на адказную працу. Неабходна весьці рашучую барацьбу за ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі аб рэзкім павялічэньні жанчын і моладзі—беспартыйных на кіруючую працу.

III.

Асноўнымі задачамі ў галіне перабудовы сыстэмы вылучэньня і падрыхтоўкі вылучэнцаў павінна быць:

1. Перадача непасрэднага ажыцьцяўленьня задач у галіне вылучэньня ў першую чаргу прафсаюзам, а таксама камсамольскім, савецкім, каапэрацыйным і гаспадарчым арганізацыям, усклаўшы на гэтыя арганізацыі цалкам і іх кіраўнікоў, у прыватнасьці, адказнасьць за сваячасовае і поўнае ўзмацненьне сваіх апаратаў за кошт вылучэнцаў і падрыхтоўку вылучэнцаў для патрэб сацыялістычнага будаўніцтва цалкам.

2. Падкрэсьліваючы в я л і к у ю ролю прафсаюзаў, як школы камунізму ў галіне падрыхтоўкі кадраў для ўсіх галін сацыялістычнага будаўніцтва, прапанаваць прафсаюзам шляхам рашучага палепшаньня сваёй работы з актывам дабіцца рашучага пералому ў галіне вылучэньня рабочых у дзярж. і інш. апараты. Саветы па лініі актыву гарадзкіх і сельскіх саветаў, коопэрацыі і асабліва калгаснае, па лініі коопэрацыйнага актыву і г. д., павінны дабіцца такой пастаноўкі работы з актывам, каб ажыцьцявіць сыстэматычную падрыхтоўку з гэтага актыву вылучэнцаў.

3. На пытаньні якасьці вылучэнцаў з пункту гледжаньня іх ідэёвай вытрыманасьці, здольнасьці аўладаць новай работай і іх аўтарытэту ў масах,—павінна быць зьвернута самая сур'ёзная ўвага пры пастаноўцы работы па вылучэньню. Вылучаць трэба людзей праверaных, даказаўшых сваю адданасьць соцыялістычнаму будаўніцтву, карыстаючыхся аўтарытэтам у масах і маючых неабходны мінімум арганізацыйных навыкаў і ведаў для выкананьня імі новай работы. Вылучыць трэба ў першую чаргу рабочых з вялікім вытворчым стажам, батракоў. Пры падборы і падрыхтоўцы вылучэнцаў трэба зьвярнуць вялікую ўвагу на падбор жанчын-вылучэнак.

4. Адным з асноўных недахопаў усёй сыстэмы вылучэньня было адсутнасьць плянавасьці, кампанейшчына пры вырашэньні пытаньня вылучэньня—неабходна ўсім арганізацыям весьці сыстэматычны вучот тых работ, на якіх трэба скарыстаць вылучэнцаў. Кожная арганізацыя павінна мець плян, для якой работы якіх трэба мець работнікаў-вылучэнцаў. Практыкаваць сыстэму заданьняў асобным арганізацыям аб колькасьці вылучэнцаў, якія яны павінны ўзяць у апарат, а таксама практыкаваць у асобных выпадках колькасныя заданьні па вылучэньню ячэйкам.

5. У мэтах палепшаньня падбору і падрыхтоўкі вылучэнцаў лічыць неабходным стварэньні рэзэрваў вылучэнцаў *для адпаведнай работы.* У мэтах палепшаньня складу рэзэрву вылучэнцаў, неабходна вылучаць у першую чаргу на кіруючую работу ў той ці іншай галіне тых, якія ўжо праявілі актыўнасьць у адпаведнай галіне работы, па якой яны працавалі і здабылі адпаведныя навыкі і агульнае знаёмства.

6. Рашуча адхіляючы ўсялякія настроі за аслабаненьне ад агульнай партыйнай і грамадзкай нагрузкі, неабходна, каб характар нагрузкі садзейнічаў лепшай падрыхтоўцы вылучэнцаў, дзеля чаго

неабходна даць такую нагрузку, якая зьвязана з работай вылучэнцаў, а пры вызначэньні разьмеру нагрузкі ўлічваць нагрузку вылучэнцаў у галіне палепшаньня сваёй кваліфікацыі. Неабходна спыніць частыя перакідкі вылучэнцаў, замацоўваючы іх на тую работу, на якую яны былі вылучаны,—прыблізна на 2-3 гады.

7. Рашуча спыніць няправільнае скарыстаньне вылучэнцаў, у корані прасякаць малейшыя праявы варожых, няўважлівых адносін да вылучэнцаў. Адказнасьць за стварэньне спрыяючых умоў для вылучэнцаў ускласьці на кіраўнікоў арганізацый і ўстаноў.

8. Энэргічнае разгортваньне ўсімі арганізацыямі масавай работы, прыцягненьне рабочых батрацка-бядняцкіх і калгасных мас для актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве, энэргічнае разгортваньне рабочых брыгад, рабочае шэфства над установамі, саўгасамі і калгасамі, зьяўляецца асноўнай формай масавай падрыхтоўкі вылучэнцаў, неабходнага актыву для кіруючай работы. *Уся падрыхтоўка вылучэнцаў павінна будавацца выходзячы не з падрыхтоўкі вылучэнцаў, наогул, а з падрыхтоўкі вылучэнцаў для адпаведнае работы.*

9. У мэтах палепшаньня падрыхтоўкі вылучэнцаў, неабходна залічаных у рэзэрв сыстэматычна знаёміць з характарам работы тых арганізацый, дзе яны павінны будуць працаваць, шляхам прыцягненьня іх да практычнага ўдзелу ў пасяджэньнях і канфэрэнцыях гэтых арганізацый, сыстэматычна забясьпечваючы іх усёй ведамственнай літаратурай. Кожны вылучэнец абавязан падрабязна ведаць лінію партыі ў той галіне працы, на якую ён накірован.

10. Дзеля арганізацыі мэтавай вучобы, як вылучэнцаў, так і тых, што знаходзяцца ў рэзэрве для вылучэньня,—скарыстаць наступныя формы мэтавай вучобы:

а) прымацаваньне вылучэнцаў і рэзэрвістых да вопытных работнікаў тых устаноў, дзе працуе вылучэнец або будзе працаваць; арганізаваць іх навучаньне на самаадукацыйнай аснове, прымацоўваючы іх да спэцыялістых-кансультантаў;

б) арганізаваць групавое навучаньне праз спэцыяльныя курсы, гурткі, забясьпечыўшы гэтыя курсы кваліфікаванымі сіламі і неабходнымі падручнікамі, практыкуючы арганізацыю сталых курсаў з поўным або частковым утрыманьнем вылучэнцаў за кошт адпаведных арганізацый;

в) арганізаваць камандыроўкі і экскурсіі падвышаючых узровень ведаў вылучэнцаў на данай галіне работы.

11. У мэтах забясьпечаньня ўдзелу мас у рабоце па вылучэньню і сыстэматычнай сувязі рабочых, батракоў і бядняцкіх мас з вылучэнцамі, устанавіць, што ўсе вылучэнцы павінны зацьвярджацца агульнымі і цэхавымі сходамі рабочых.

12. У мэтах замацаваньня сувязі вылучэнцаў са сваімі прадпрыемствамі неабходна, каб вылучэнцы сыстэматычна інфармавалі рабочых аб сваёй працы і ўмовах яе. Інфармацыя павінна рабіцца на агульных сходах, спэцыяльных сходах, нарадах і праз насьценгазэту. Арганізаваць кантроль над скарыстаньнем вылучэнцаў і адносіны да вылучэнцаў тых пралетарскіх, батрацкіх, бядняцкіх і калгасных калектываў, якія вылучылі вылучэнцаў, арганізуючы сыстэматычныя агляды рабочымі брыгадамі становішча на месцы, а таксама практыкаваць інфармацыі вылучэнцаў аб сваёй працы тэй арганізацыі, якая яго паслала.

13. Адзначаючы нездавальняючае становішча ўдзелу ячэек савецкіх, гаспадарчых, коопэрацыйных і прафэсыянальных арганізацый у рабоце па ўзмацненьню апарату гэтых устаноў і іх узмацненьню за кошт вылучэнцаў—прапанаваць усім ячэйкам максымальна ўзмацніць апарат сваіх устаноў за кошт вылучэнцаў. Ячэйкі павінны праяўляць ініцыятыву ў галіне шуканьня ўсялякіх магчымасьцяў, узмацненьня апарату за кошт вылучэнцаў, яны павінны кіраваць падрыхтоўкай вылучэнцаў, актыўна ўдзельнічаючы ў падборы кандыдатур і прыняцьця неабходных мер дзеля таго, каб забясьпечыць вылучэнцам найбольш спрыяючыя ўмовы для работы і падвышэньня іх кваліфікацыі.

14. У мэтах забесьпячэньня неабходнага пералому ў гэтай рабоце і рашучай перабудовы ўсёй сыстэмы вылучэньня і падрыхтоўкі вылучэнцаў і мабілізацыі вакол пытаньняў вылучэньня рабочых

мас, арганізаваць абгляд становішча вылучэньня.

15. Улічваючы вялікае палітычнае значэньне вылучэньня, партарганізацыі павінны ўзмацніць сталае і сыстэматычнае кіраўніцтва вылучэньнем, у прыватнасьці неабходна сыстэматычна заслухоўваць даклады асобных установаў, у першую чаргу прафсаюзаў у справе вылучэньня, скликаць як агульныя, так і спэцыяльныя нарады вылучэнцаў. Нарада абавязвае рашуча выкрываць выпадкі адчыненага і скрытага парушэньня дырэктыў партыі аб вылучэньні рабочых на кіруючую працу, асабліва дырэктыў аб вылучэньні жанчын—работніц, батрачак, бяднячак і калгасьніц.

---

## Пастанова нарады загадчыкаў Аргаддзелаў АК КП(б)Б аб чарговых задачах партработы на вёсцы.

I.

Пэрыяд соцыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, нябывала шпаркі тэмп колектывізацыі, які перайшоў у суцэльную колектывізацыю ня толькі раёнаў, але і акруг, рашучае наступленьне па ўсяму фронту соцыялістычнага будаўніцтва на капіталістычныя элемэнты і практычнае ажыцьцяўленьне політыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, з усёй катэгорычнасьцю і рашучасьцю патрабуе безадкладнае перабудовы форм і мэтадаў работы партыйных організацый на вёсцы, ажыцьцяўленьня і палепшаньня іх працы.

Работу партыйных організацый неабходна організаваць і пабудаваць так, каб поўнасьцю забясьпечыць кіраўніцтва соцыялістычнай рэканструкцыяй сельскае гаспадаркі і па сапраўднаму організаваць батрацтва і беднату на барацьбу, у саюзе з серадняком, супроць кулака і ліквідацыю яго як клясы.

II.

Становішча партыйнай работы на вёсцы надзвычайна адстае ад запатрабаваньняў сучаснага пэрыяду, якія вынікаюць з шпаркага тэмпу колектывізацыі і політыкі ліквідацыі кулацтва як клясы. Адным з галоўнейшых недахопаў і слабых месц у працы партыйных організацый зьяўляецца зусім нездавальняючая ў большасьці работа па організацыі батрацтва і беднаты, па пастаноўцы працы батрацка-бядняцкіх груп.

Шэраг партыйных ячэек вёскі не ўяўляюць таго, што бяз сталай і сыстэматычнай працы па організацыі беднаты і батрацтва, як адзінай асноўнай апоры партыі на вёсцы, немагчыма пасьпяховае выкананьне пастаўленых партыяй задач.

Ня толькі асобныя сябры партыі, а і рад вясковых партыйных ячэек не дацэньваюць значэньня самастойнай організацыі і працы сярод беднаты. Сходы беднаты праводзяцца ўсё яшчэ кампанейскім парадкам, а ў шэрагу месц выпадкова. Батрацка-бядняцкія групы, як правіла, існуюць фармальна. Нездавальняючае кіраўніцтва з боку ячэек і райкомаў працай батрацка-бядняцкіх груп. Недаацэнка значэньня работы сярод батрацтва і беднаты зьяўляецца па сутнасьці аднэй з самых шкодных праяў права-апартуністычнага ўхілу на практыцы, асабліва небясьпечнага ў даных умовах. Нарада з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае, што... „толькі чуждыя УсеКП(б)Б і УсеЛКСМ элемэнты могуць ігнараваць гэту каранную задачу партыі—задачу самастойнай організацыі беднаты і батрацтва на вёсцы.

III.

Работа сярод жанчын-бяднячак і серадначак, клясавае выхаваньне іх і організацыя батрацка-бядняцкіх жаночых мас ва ўмовах клясавай барацьбы, якая ўсё болей абвастраецца на вёсцы, набывае выключна важнае значэньне. Між тым, гэты адказьнейшы вучастак працы ня быў і зараз яшчэ не зьяўляецца ў асяродку ўвагі партыйных організацый. Амаль адсутнічае правядзеньне масавай работы сярод батрацка-бядняцка-серадняцкіх

жаночых мас. Дэлегацкія сходы не зьяўляюцца яшчэ праваднікамі пралетарскага ўплыву на асноўную масу працоўных сялянак.

Слабасьць работы сярод жанчын выкарыстоўваецца кулацтвам у барацьбе іх супроць палітыкі партыі на вёсцы.

IV.

Камсамольскія ячэйкі ў сваёй большасьці прымаюць зусім недастатковы ўдзел у разгортваньні работы сярод батрацтва і беднаты і ў калгасным будаўніцтве, асабліва недастаткова праводзіцца праца па арганізацыі батрацка-бядняцкай моладзі на выкананьне гэтых задач.

Камсамольскія арганізацыі не мобілізованы ў належнай меры на ажыцьцяўленьне асноўных задач партыі, на ўдзел у социялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы.

Прычынай гэтаму зьяўляецца тое, што камсамольскія арганізацыі і іх кіруючыя органы не перабудавалі сваёй працы ў суадпаведнасьці з сучаснымі задачамі, а таксама і тое, што партыйныя арганізацыі да апошняга часу яўна не дастаткова кіруюць працай камсамольскіх ячэек.

V.

Улічваючы, што шпаркі тэмп колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы яшчэ больш абвострыць клясавую барацьбу на вёсцы, кулацтва ўсімі мерамі будзе адстайваць свае пазыцыі і аказваць супраціўленьне, якое ў бліжэйшы пэрыяд будзе прымаць самыя рэзкія і адкрытыя формы (тэрор, падпалы і г. д.), таму сельскія саветы, як органы пролетарскай дыктатуры, асабліва павінны быць узмоцнены.

Між тым да апошняга часу і сельскія саветы не перабудавалі сваёй працы ў суадпаведнасьці з стаячымі перад імі задачамі. Многія сельскія саветы стаяць у баку ад калгаснага руху, не становяцца на чале гэтага руху, а месцамі нават працівадзейнічаюць і выступаюць супроць калгаснага будаўніцтва.

Партыйная арганізацыя надта слаба выконвае дырэктывы ЦК аб ажыўленьні дзейнасьці і працы с.-с. З боку некаторых таварышоў мае месца недаацэнка ролі і значэньня саветаў, прапановы аб ліквідацыі сельсаветаў, перадачы функцыі с-с. калгасам, узбуйненьні с-с. і г. д., што фактычна зьяўляецца права-опортуністычнай установкай.

Нарада лічыць, што асноўнымі чарговымі задачамі партыйнай работы на вёсцы павінна быць:

I.

Галоўнейшай задачай партыйных арганізацый на вёсцы зьяўляецца сапраўды стаць на чале социялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, арганізаваць батрацка-бядняцкія масы на выкананьне гістарычнай задачы ліквідацыі кулацтва як клясы. Забясьпечыць ажыцьцяўленьне рашэньняў Студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б аб правядзеньні суцэльнай колектывізацыі ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак Беларусі і дабіцца ўзьняцьця якасных паказчыкаў усяго калгаснага і саўгаснага будаўніцтва, у прыватнасьці:

а) Узмацняючы тэмп колектывізацыі, неабходна ставіць практычнай задачай колектывізаваць бядняцка-серадняцкія гаспадаркі на аснове больш высокай формы калгасаў (арцель—камуна), паступова пераводзячы калгасы з ніжэйшых форм у вышэйшыя; адначасова організоўваючы масы калгасьнікаў на ўсямернае гаспадарчае ўзмацненьне калгасаў, на правільную організацыю вытворчасьці ў іх.

б) Забясьпечваючы поўнае ўцягненьне ўсіх сродкаў вытворчасьці, уваходзячых у калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, вядучы рашучую барацьбу з разбазарваньнем маемасьці,—адначасова кожная раённая організацыя, кожная ячэйка павінна выконваць заданьні па стварэньню насенных фондаў, па абагульненьню сродкаў вытворчасьці, па нарыхтоўках другараднай сыравіны, па мобілізацыі грашовых сродкаў насельніцтва на набыцьцё сельска-гаспадарчых машын, па забясьпечаньню поўнай і своечасовай кантрактацыі і г. д.

в) Падрыхтоўка і правядзеньне пасеўнай кампаніі павінна быць у асяродку ўвагі кожнай парторганізацыі, сыстэматычна праводзячы праверку па падрых-

тоўцы да вясновага севу, заслухоўваючы даклады на сходах парт‘ячэек, калгасьнікаў, неабходна забясьпечыць поўнае выкананьне ўсіх вызначаных мерапрыемстваў і заданьняў.

Работу кожнай партячэйкі, кожнай раённай арганізацыі трэба ацэньваць, выходзячы з таго, наколькі выкананы заданьні па арганізацыі і правядзеньні пасеўнай кампаніі і вызначаныя ліміты.

г) Уся праца, зьвязаная з падрыхтоўкай і правядзеньнем пасеўкампаніі, далейшае разгортваньне колектывізацыі, арганізацыя вытворчасьці працы ў калгасах і гаспадарчае ўзмацненьне іх павінны праводзіцца мэтадам соцыялістычнага спаборніцтва, якое павінна ахапіць усе саўгасы, калгасы, сельсаветы і раёны.

РК і ячэйкі ў бліжэйшы час павінны праверыць, што практычна зроблена па разгортваньню соцыялістычнага спаборніцтва.

д) Парт. арганізацыі (РК, ячэйкі) у значна большай меры павінны разгортваць культ.-асьветную і масавую працу сярод насельніцтва калгасаў.

У бліжэйшы час праверыць выкананьне пастаноў ЦК аб пастаноўцы культмасавай работы ў калгасах.

е) АК, РК і ячэйкі КП(б)Б павінны прыняць усе захады да забясьпечаньня парт. кіраўніцтвам работы па перавыбарах кіруючых органаў калгасаў і ачысткі ад кулацкіх, нэпманскіх элемэнтаў.

II.

Неабходна як мага хутчэй узмацніць колькасна і якасна партыйныя арганізацыі вёскі, каб забясьпечыць сталым штодзенным кіраўніцтвам усё сацыялістычнае будаўніцтва на вёсцы.

Працягваючы і ў далейшым узмацненьне партыйных арганізацый шляхам пасылкі працаўнікоў з гораду, разам з гэтым у некалькі разоў, неабходна ўзмацніць тэмп па ўцягненьню ў партыю сельгасрабочых і батракоў, асабліва зараз, калі разгортваецца праца па ўцягненьню ў калгасы 60.000 батракоў, да пачатку веснавой пасеўнай кампаніі. Выяўленьне, апрацоўка і ўцягненьне ў партыю беднякоў-актывістаў, калгасьнікаў трэба таксама ўзмацніць.

III.

Пасылка 600 чалавек рабочых пераважна камуністаў на працу ў калгас і 100 чалавек адказных цэнтральных і акруговых працаўнікоў павінна быць у поўнай меры скарыстана для ўзмацненьня партыйных арганізацый галоўным чынам ячэек, для паскарэньня тэмпу прыёму ў партыю сельгасрабочых, батракоў і актывістых калгасьнікаў.

IV.

Сетка партыйных ячэек у найбольш кароткі час павінна быць рэарганізавана па вытворчаму прынцыпу і пашырана, дзеля чаго:

а) у месячны тэрмін перагледзець існуючую сетку ячэек на вёсцы, арганізоўваючы ячэйкі ў саўгасах і калгасах.

Пры немагчымасьці ўтварэньня ячэйкі, арганізаваць кандыдацкія групы;

б) у буйных калгасах, якія аб‘ядноўваюць па некалькі вёсак, неабходна арганізаваць партыйныя ячэйкі ці кандыдацкія групы па асобным вёскам (аддзяленьням) калгасу, арганізоўваючы ў такіх выпадках парт. бюро ў цэнтры калгасу, дзе знаходзіцца праўленьне ўсяго калгасу;

в) у тых саўгасах і калгасах і аддзяленьнях калгасаў (вёсак), дзе немагчыма ўтварыць ячэйку, ці кандыдацкую групу, а маюцца асобныя камуністы, трэба вылучыць калгасных парторганізатараў. Вылучыць таксама парторганізатараў у калгасах і саўгасах для правядзеньня працы сярод рабочых і калгасьнікаў па асобных галінах гаспадаркі (паляводзтва, жывёлагадоўля, прадпрыемствы і г. д.);

г) пры ўтварэньні машына-трактарных станцый комплектаваньне рабочай сілы праводзіць з такім разьлікам, каб была магчымасьць арганізаваць парт. ячэйкі пры машына-трактарных станцыях;

д) сетка ячэек у раёнах, дзе будуюцца аграіндустрыяльныя комбінаты, павінна будавацца таксама па вытворчаму прынцыпу, г. зн. у калгасах і аддзяленьнях калгасу;

е) АК і РК КП(б)Б павінны прыняць усе меры па ўзмацненьню кіраўніцтва і аказаньню практычнай дапамогі ў працы ячэек, шляхам рэгулярнага і сыстэматыч-

нага інструктаваньня, правядзеньня нарад сакратароў ячэек, парт. організатараў, шляхам наладжваньня абмену вопытам працы праз даручэньні сакратаром ячэек праводзіць агляд працы суседніх ячэяк, наладжваючы экскурсіі і г. д.

Заслухоўваньне дакладаў аб працы ячэек у АК КП(б)Б трэба ўвесьці ў сыстэму працы;

ж) выкананьне задач, якія стаяць перад партыйнымі організацыямі, можа быць забясьпечана толькі тады, калі будзе праводзіцца самая жорсткая барацьба з усялякімі ўхіламі ад бальшавіцкай лініі партыі, барацьба з правым ухілам, асабліва небясьпечным на даным этапе, і „левымі“ загібамі, калі ва ўсіх парт. організацыях будзе па сапраўднаму разгорнута самакрытыка, ня гледзячы на асобы.

V.

Выкананьне задач, якія стаяць на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, патрабуе ў першую чаргу рашучага пералому ў працы па організацыі батрацтва і беднаты, па ўзмацненьню працы груп беднаты і ператварэньню іх у сапраўдна-батрацка-бядняцкія групы, дзеля чаго:

а) па бальшавіцкаму разгарнуць працу па выкананьню пастановы Бюро ЦК КП(б)Б ад 25-І 1930 г. па пытаньню аб узмацненьні працы сярод батрацтва і беднаты і аб працы батрацка-бядняцкіх груп беднаты, дабіўшыся рашучага пашырэньня батрацка-бядняцкіх груп пры сельсаветах, КСУ і каапэрацыйных органах і організацыі батрацка-бядняцкіх груп ва ўсіх калгасах у першы пэрыяд іх існаваньня і пры ўсіх таварыствах па супольнай апрацоўцы зямлі;

б) на бліжэйшых сходах партыйных ячэек і раённых паставіць даклады аб становішчы працы па організацыі батрацтва і беднаты, дэталёва прапрацаваўшы пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б па гэтаму пытаньню.

З недаацэнкай значэньня працы сярод беднаты, з нежаданьнямі працаваць па організацыі батрацтва і беднаты трэба весьці самую рашучую бязьлітасную барацьбу, як з яўнымі праявамі праваопортуністычнага ўхілу;

в) безадкладна павінна быць праведзена растлумачальная праца па ўсіх ячэйках аб новым пэрыядзе ў політыцы партыі, політыцы ліквідацыі кулацтва як клясы. Неабходна дабіцца поўнага разуменьня сваіх задач кожным камуністым, пільна сочачы і забясьпечваючы самае строгае правядзеньне непрымірымай барацьбы супроць кулацтва, супроць усялякіх хістаньняў з боку асобных камуністых і груп у бок абароны кулацтва, з скрыўленьнямі клясавай лініі. Усе, хто хістаецца і ня здольныя праводзіць політыку ліквідацыі кулацтва як клясы, павінны безадкладна замяняцца новымі клясава-вытрыманымі таварышамі;

г) РК і ячэйкі павінны прыняць усе захады, каб у найбольш кароткі тэрмін у раёнах, сельсаветах суцэльнай колектывізацыі было праведзена раскулачваньне і організована перадача кулацкіх сродкаў вытворчасьці ў калгасы і саўгасы. У астатніх мясцох, дзе не разгорнута яшчэ колектывізацыя, павінны быць прыняты ўсе захады супроць продажы і псаваньня сельска-гаспадарчага інвэнтару і маемасьці кулакамі.

Асабліва неабходна пры гэтым пільна сачыць за тым, каб гэтыя мерапрыемствы ні ў якім разе не закраналі серадняцкіх гаспадарак.

VI.

Партыйныя організацыі абавязаны перабудаваць працу саветаў так, каб сельскія саветы ў сапраўднасьці выконвалі сваю ролю, як органы пролетарскай дыктатуры, сапраўднымі кіраўнікамі калгаснага будаўніцтва, організатарамі пад кіраўніцтвам партыі і практычнымі праваднікамі палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы.

Роля саветаў у даны пэрыяд набывае асабліва важнае значэньне, таму неабходна:

а) у справаздачна-праверачна-перавыбарчую кампанію правесьці генэральную чыстку саветаў ад усіх кулацкіх і інш. клясава-варожых элемэнтаў, якія маюцца ў складзе саветаў, ад усіх тых, хто ня хоча і ня можа праводзіць чоткую клясавую лінію і садзейнічаць колектывізацыі сельскае гаспадаркі і стаіць у баку альбо змагаецца з політыкай ліквідацыі кулацтва.

Неабходна рашуча павялічыць у складзе саветаў партыйна-камсамольскае ядро, рабочых, батракоў і батрачак, беднякоў і бяднячак. Склад сяброў саветаў павінен быць пераважна з ліку рабочых, батракоў і беднякоў;

б) неабходна пасьля перавыбараў зараз-жа організоўваць батрацка-бядняцкія групы пры ўноў абраных саветах, організоўваючы працу іх;

в) лічыць немэтазгодным і прынцыпова няправільным на даным этапе правядзеньне ўзбуйненьня сельскіх саветаў у раёнах суцэльнай колектывізацыі і ў буйных калгасах, на тэрыторыі каторых знаходзіцца па некалькі сельскіх саветаў. Неабходна не ўзбуйняць, а ўзьнімаць іх дзейнасьць і кіраўніцтва працай аддзяленьняў калгасаў (вёсак), забясьпечваючы ачыстку іх ад кулацкіх і нэпманаўскіх элемэнтаў і хутчэйшае гаспадарчае іх замацоўваньне. Дапускаць і практыкаваць у такіх выпадках правядзеньне сумесных паседжаньняў прэзыдыуму і пленуму па агульных пытаньнях жыцьця і працы буйнага калгасу.

## VII.

Працы сярод жанчын, якая набывае зараз выключнае значэньне, павінна быць удзелена ў некалькі разоў больш увагі чым да гэтай пары. Нарада з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае неабходнасьць узьняцьця ўсёй працы сярод бядняцка-серадняцкіх жаночых мас на больш высокую ступень. Кожная партыйная ячэйка, кожны камуніст у паасобку павінен працу сярод працоўных жанчын разглядаць, як адну з галоўнейшых чарговых задач партыйнай работы, у прыватнасьці:

а) узмацніць уцягненьне ў партыю работніц, батрачак і бяднячак, актывістак-калгасьніц. Неабходна, каб РК і ячэйкі спэцыяльна правяралі і разглядалі пытаньне аб уцягненьні жанчын у партыю. Кожная ячэйка павінна распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы і дабіцца рашучага пералому ў справе ўзмацненьня, уцягненьня ў партыю жанчын;

б) у бліжэйшы час выявіць усіх актывістак жанчын-батрачак, бяднячак і лепшых актывістак серадняччак-калгасьніц і абавязкова прыцягнуць іх да працы груп і сходаў. Праводзячы сярод паказаных жаночых мас клясавае выхаваньне, падрыхтоўваючы іх на практычнай рабоце, з усёй энэргіяй неабходна высоўваць работніц, батрачак і бяднячак на кіруючую работу ў саветы, КСУ, калгасы, саўгасы і г. д. Ячэйкі і райкомы павінны дабіцца рашучых дасягненьняў у гэтых адносінах у прадстаячых перавыбарах кіруючых органаў калгасаў і сельскіх саветаў;

в) павінна шырока практыкавацца правядзеньне спэцыяльных сходаў батрачак і жанчын-бяднячак. Мэтай гэтых сходаў павінна быць клясавае выхаваньне іх і ўцягненьне ў барацьбу з кулацтвам.

Тэрмінова правяраць работу ўсіх дэлегацкіх сходаў, забясьпечыць бесьперабойнасьць працы іх і ператварэньня дэлегацкіх сходаў у сапраўдных праваднікоў уплыву на асноўныя масы працоўных жанчын;

г) устанавіць рэгулярна правядзеньне спэцыяльных сходаў калгасьніц для абгаварэньня пытаньняў жыцьця і працы калгасаў.

## VIII.

Партыйныя організацыі павінны ўсямерна ўзмацніць работу па стварэньню, выхаваньню актыву з батракоў, беднякоў і лепшых серадняков, па лініі работы саветаў, КСУ, каапэрацыі, калгасаў і добраахвотных організацый.

Неабходна ў прыватнасьці перабудаваць работу добраахвотных організацый на вёсцы (МОПР, Асо-Авіахім, Бязбожнікі і г. д.), організаваўшы гэтыя таварыствы ўва ўсіх саўгасах і калгасах. Устанавіць сыстэматычнае і рэгулярнае правядзеньне нарад сакратароў добраахвотных організацый, сяброў бюро і г. д.

## IX.

Работа камсамольскіх ячэек павінна быць перабудавана так, каб камсамольская організацыя ў сапраўднасьці зьявілася памоцнікам партыі ва ўсёй рабоце на вёсцы і ў першую чаргу ў правядзеньні суцэльнай калектывізацыі ў выка-

наньне задачы ліквідацыі кулацтва як клясы.

Парт. ячэйкі і РК КП(б)Б павінны праверыць і пасапраўднаму забясьпечыць кіраўніцтва работай камсамольскіх арганізацый, дабіваючыся ў прыватнасьці палепшаньня соц. складу іх і большага ўдзелу ў барацьбе з рознымі скарыстаньнямі клясавай лініі ў рабоце розных арганізацый і ўстаноў на вёсцы.

X.

Правядзеньне масавай і суцэльнай калектывізацыі патрабуе рашучай перабудовы ўсёй работы прафсаюзных арганізацый на вёсцы, значна большага ўдзелу іх у практычнай рабоце па калектывізацыі і пастаноўкі культурна-масавай работы. Нарада просіць ЦК у бліжэйшы час распрацаваць гэтае пытаньне і даць належнае паказаньне на мясцох.

*Проэкт.*

# Палажэньне аб організацыі і рабоце сэктараў пры партколектывах і ячэйках прадпрыемстваў.

### Задачы сыстэмы сэктараў.

1. Падзяліць усю работу партыйнага колектыву, ці цэхавай ячэйкі па важнейшых галінах партыйнай дзейнасьці і зрабіць партыйнае кіраўніцтва конкрэтным, прыстасаваным да ўмоў данага прадпрыемства.

2. Увесьці ў сыстэму самой работы пэрсанальную адказнасьць комуніста за выкананьне партыйных дырэктыў па сэктару яго работы і праверку выкананьня гэтых дырэктыў і плянаў.

3. Шляхам уцягненьня ў практычную работу сэктараў усіх членаў партыі— утварыць колектыўнасьць ва ўсёй рабоце партколектыву і садзейнічаць выхаваньню новых кадраў партыйнага, гаспадарчага, прафэсыянальнага і грамадзкага актыву на практычнай рабоце.

4. Выхаваньне партыйнага і беспартыйнага рабочага актыву па кожнаму сэктару, вывучэньне, конкрэтнае кіраўніцтва ім і яго плянавае высоўваньне.

5. Перайсьці ад шматлікіх паседжаньняў, усялякіх камісій і унівэрсальнасьці, якая была патрэбна ад членаў камісій, да конкрэтнага партыйнага абавязку з точна вызначаным сэктарам работы і поўнай адказнасьці за яго становішча.

### Організацыя работы сэктараў.

1. Пры бюро партколектываў і ячэек прадпрыемстваў арыентыровачна ўтвараюцца наступныя сэктары: 1. Гаспадарча-вытворчы. 2. Культурна-масавы. 3. Вучобы. 4. Агітацыі і друку. 5. Росту партыі і работы з кандыдатамі. 6. Партнагрузкі (вучот і разьмеркаваньне). 7. Работы сярод моладзі. 8. Работы сярод жанчын. 9. Падрыхтоўкі і вылучэньня кадраў. 10. Садзейнічаньне колектывізацыі.

УВАГА 1. Сэктары па рабоце сярод жанчын утвараюцца толькі на тых прадпрыемствах, дзе жанчыны складаюць меншую частку рабочых. У іншых-жа прадпрыемствах работа сярод жанчын павінна быць справай усіх організацый прадпрыемства.

Пры бюро цэхавых ячэек утвараюцца наступныя сэктары: 1) Гаспадарча-Вытворчы, 2) вучобы, 3) агітацыі, 4) росту і работы з кандыдатамі, 5) работы сярод моладзі, альбо жанчын (у залежнасьці ад колькасьці тэй ці іншай групы ў цэху).

2. Бюро колектыву, ці ячэйкі, зацьвярджае організатараў сэктараў і іх намесьнікаў, каторыя зьяўляюцца памоцнікамі бюро, і сакратара ячэйкі па данай галіне работы. Зьмены ў складзе організатараў сэктараў могуць утварацца толькі згодна пастанове бюро колектыву ці ячэйкі. Організатары сэктараў павінны замацоўвацца на больш доўгі тэрмін работы, ня менш, як на тэрмін абранага бюро.

3. Усю работу кіраўнік сэктару праводзіць на аснове прыцягненьня да выкананьня паасобных заданьняў, да праверкі і падрыхтоўкі практычных прапаноў членаў ячэйкі, уцягваючы ў гэту работу (праз адпаведныя непартыйныя ор-

ганізацыі) беспартыйных рабочых і тэхнічны пэрсанал. Для правядзеньня работы на сэктару організатар, пры неабходнасьці, зварочваецца ў сэктар партнагрузкі, ад якога бярэ сабе ў дапамогу камуністых. Організатар данага сэктару вядзе колькасны і якасны вучот удзельнікаў у рабоце сэктару.

4. Работу на сваім сэктары організатар праводзіць праз працуючых на гэтым вучастку камуністых (прыкладна, фракцыя профбюро, фракцыі Добр. воб-в, групоргі), не падменьваючы выкананьня імі іх абавязкаў, не апякуе, а зьбірае іх увагу на вузлавых пытаньнях работы на даным вучастку. Пры налічча на даным сэктары фракцыі непартыйных організацый (проф-сэктар, Добр.воб-в) організатар сэктару не бярэ на сябе функцыі адказнага кіраўніка фракцыі, а практычным кіраўніцтвам дапамагае яму ў выкананьні пляну і рашэньняў ячэйкі аб працы на даным вучастку, нясучы, аднак, перад ячэйкай поўную адказнасьць за становішча работы на кіруемым сэктары. Організатар сэктару адказвае за тое, што ён зусім ці несваячасова сыгналізаваў аб недахопах перад фракцыяй і бюро. Дзеля гэтага організатар сэктару павінен быць поўнасьцю ў курсе ўсёй работы на сэктары, сваячасова ставячы ўсе асноўныя пытаньні перад бюро ячэйкі і фракцыяй.

5. Організатар сэктару прысутнічае на бюро ячэйкі пры абгаварэньні ўсіх пытаньняў работы па яго сэктару, сочачы за сваячасовай падрыхтоўкай матар'ялаў і практычных прапаноў і іх праверкай.

6. Організатар Сэктару прымае ўдзел у складаньні агульнага пляну работы ячэйкі, намячаючы асноўныя моманты партыйнай работы на даным сэктары і пытаньні, па яго думцы, падлягчаючыя разгляду бюро і сходу ячэйкі. Акрамя агульных трохмесячных плянаў, бюро ячэйкі зацьвярджае конкрэтныя месячныя каляндарныя заданьні па сэктары (таксама падрыхтаваныя організатарамі сэктару) у саадпаведнасьці з агульным плянам работы ячэйкі.

7. Перад зацьверджаньнем месячных каляндарных заданьняў па сэктарах бюро ячэйкі, конкрэтна па пунктах, абгаварвае выкананьне організатарамі сэктараў такіх-жа заданьняў за мінулы месяц, з прысутнічаньнем на гэтым бюро ўсіх організатараў сэктараў, выносячы практычныя прапановы па кожнаму нявыкананаму пункту, патрабуючы адказнасьці з боку організатараў сэктараў.

8. Організатар кожнага сэктару павінен мець на вучоце ўвесь партыйны і беспартыйны актыў, працуючы на даным сэктары, сочачы за правільнасьцю яго скарыстоўваньня, яго ростам і вылучэньнем. Адначасова кіраўнік сэктару павінен працаваць над выхаваньнем рэзэрву гэтага актыву. Ніводнае пытаньне вылучэньня не павінна праходзіць міма кіраўніка адпаведнага сэктару.

9. Узаемная сувязь і разьмежаваньне ў рабоце кіраўнікоў сэктару ўрэгуліруецца „палажэньнем“ і заданьнем бюро ячэйкі. Пры абгаварэньні якой-небудзь кампаніі, якая патрабуе правядзеньня работы па цэламу шэрагу сэктароў, бюро (а ў прамежак між бюро, сакратар ячэйкі) узгадняе з кіраўнікамі сэктараў мерапрыемствы, якія высоўваюцца імі для правядзеньня кампаніі на гэтым сэктары.

10. Організатар сэктару, нясучы поўную адказнасьць за становішча работы, павінен, не чакаючы ўказаньняў сакратара ячэйкі, сам высоўваць перад сакратаром і бюро ячэйкі ўсе пытаньні, якія хвалююць рабочых, ускрываючы недахопы і іншыя моманты, патрабуючыя ўвагі партыйнай ячэйкі.

11. Організатары сэктараў у цэхавай ячэйцы працуюць па таму-ж прынцыпу, што і ў колектыве. Кіраўнікі сэктараў колектыву кіруюць іх працай шляхам індывідуальнага інструктажу, скарыстоўваючы іх як асноўны актыў данага сэктару. Кіраўнікі сэктараў падтрымліваюць сувязь і ажыцьцяўляюць зьвеньнявое парткіраўніцтва, кіраўнікамі саадпаведных вучасткаў КСМ.

12. Асноўнай формай кіраўніцтва сэктарамі цэхавых ячэек з боку організатараў сэктараў партколектыву павінна быць жывая, індывідуальная сувязь і інструктаж. Кіраўнік сэктару цэхавай ячэйкі падтрымлівае з кіраўніком непасрэдную сувязь, інфармуючы яго аб становішчы работы і зварочваючыся за індывідуальным інструктажам.

13. Стрыжнем работы кожнага сэктару партыйнай ячэйкі зьяўляецца ажыцьцяўленьне звароту ўвагі парторганізацыі да вытворчасьці, згуртоўваючы ўвагу на правышэньне заданьняў шляхам арганізацыі актыўнага ўдзелу рабочых і тэхнічнага пэрсаналю ў рацыяналізацыі прадпрыемств.

### Гаспадарча-вытворчы сэктар.

1. Правярае выкананьне дырэктыў бюро і сходу ячэйкі і вышэйстаячых партыйных організацый па гаспадарча-вытворчых пытаньнях.

2. Правярае плян прапрацоўкі гаспадарчых пытаньняў ва ўсіх організацыях прадпрыемства, цэху, увязваючы работу гэтых організацый такім чынам, каб ажыцьцявіць масавы кантроль над гаспадарчым кіраўніцтвам.

3. Правярае частку агульнага пляну работы ячэйкі і месячнага заданьня на яго аснове для свайго сэктару, сочачы і організоўваючы яго выкананьне, праверку і падрыхтоўку практычных прапаноў праз максымальнае прыцягненьне членаў ячэйкі, беспартыйных рабочых і тэхнічны пэрсанал (організоўваючы гэтую праверку як праз існуючыя формы—вытворчых нарад ВКК і г. д.—так і праз часовыя брыгады).

4) Сачыць за працай вытворчых нарад і камісій, за ўцягненьнем і разгортваньнем актыўнасьці рабочых у іх, за організацыяй дапамогі тэхнічнага пэрсаналу ў іх рабоце, за зьместам і выконваньнем іх рашэньняў.

5) Сачыць за разгортваньнем соцыялістычнага спаборніцтва і за работай ударных брыгад.

6) Ставіць праз фабзаўком перад інжынэрна-тэхнічным пэрсаналам пытаньні выкананьня партыйных дырэктыў аб рацыяналізацыі вытворчасьці і сачыць за іх рэалізацыяй, вывучаючы мэтады найлепшага скарыстоўваньня інжынэрна-тэхнічных сіл і палажэньня іх на вытворчасьці, прымаючы ўдзел па распрацоўцы пытаньня аб кампляктаваньні новых кадраў.

7) Вывучае пытаньні гаспадарчай структуры, ажыцьцяўленьня прынцыпу, адзіначальля і давядзеньня яго да нізу (брыгады, аддзяленьні).

8. Правярае кіраўніцтва цэхавых ячэек гаспадарча-вытворчай працай.

### Сэктар культ-масавай работы.

1) Правярае выкананьне партыйных дырэктыў у пастаноўцы культурна-масавай работы, ставячы зьвязаныя з гэтым пытаньні перад бюро ячэйкі, фракцыяй профбюро і цэхавымі ячэйкамі. Дабіваецца пранізваньня ўсёй культурна-масавай работы профсаюзу палітычным зьместам.

2) Сочыць за пастаноўкай культ-масавай работы ў абедзены перапынак, дабіваючыся яго максымальнага скарыстаньня.

3) Сочыць за організацыяй экскурсій і колектыўных праглядаў прадстаўленьняў, дабіваючыся іх прыспасабленьня да дню адпачынка рабочых, максымальнага ахопу імі і іх зьместам.

4) Правярае пастаноўку работы па ліквідацыі няпісьменнасьці, сочачы за стопроцантным ахватам і работай сеткі па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, ставячы пытаньне аб недаліках у гэтай галіне перад фракцыяй профбюро і бюро ячэйкі.

5) Сочыць за работай сеткі проф. і вытворчага абучэньня.

6) Дабівацца найбольш поўнага скарыстаньня чырвонага кутку для культурна-масавай работы.

7) Сочыць за сваячасовасьцю і зьместам падрухтоўкі да правядзеньня масавых палітычных, культурна-масавых кампаній (пазыка, дэмонстрацыі і г. д.).

8) Правярае правільнасьць організацыі культурна-масавага абслугоўваньня рабочых у дні адпачынку.

9) Сочыць за пастаноўкай фізкультуры.

10) Правярае мастацкае афармленьне ўсіх масавых кампаній.

11) Складае частку агульнага пляну работы ячэйкі і месячныя заданьні сэктару, культмасавай работы, ораганізоўваючы і правяраючы яго практычнае ажыцьцяўленьне.

### Сэктар вучобы.

1) Організуе і кіруе сеткай парт-асьветы ячэйкі, праводзячы камплектаваньне яе (праз цэхавыя ячэйкі). Сочыць за зьместам, мэтодыкай, пастаноўкай у працы і наведваемасьці школ, праз прапагандыстаў і старастаў школ, выпраўляе маючыяся недахопы ў працы.

2) організуе паліт-баі.

3) Складае частку агульнага пляну работы ячэйкі (і на яго аснове месячнага заданьня вучастку) па кіраўніцтву вучобы, практычна яго ажыцьцяўляе ў частцы парт-асьветы і правярае выкананьне ў частцы пастаноўкі вучобы профсаюзнай і грамадзкімі організацыямі.

4) Сочыць за наведваемасьцю агульназавадзкіх форм парт-асьветы членамі ячэйкі.

5) Сочыць і правярае пастаноўку паліт-адукацыі ў ячэйцы ЛКСМ і вучобы дэлегатак.

6) Сочыць за камплектаваньнем і правярае па зьместу і мэтодыку пастаноўкі вучобы проф. організацыяй і Добраахвотн. Воб-мі.

7) Ажыцьцяўляе кіраўніцтва вучасткамі вучобы цэх-ячэек.

### Сэктар агітацыі і друку.

1) Улічвае запатрабаваньні і настроі рабочых як па пытаньнях палітычнага характару, так і вытворчага, зарплаты, быту і г. д., дабіваючыся праз скарыстаньне агітатараў і правядзеньне сходаў хуткага рэагаваньня ячэйкі на ўсе пытаньні, якія хвалююць рабочых.

2) Організуе скарыстоўваньне абедзенага перапынку дзеля бясед, чытак, пытаньняў і адказаў па бягучых кампаніях.

3) Праводзіць чарговыя агітацыйныя кампаніі, мітынгі і праз групавых парторганізатараў прасоўвае на абгаварэньне рабочых паасобныя пытаньні.

4) Сочыць за прыцягненьнем і падрыхтоўкай грамадзкімі і профсаюзнымі організацыямі беспартыйнага профактыву пры правядзеньні бясед аб колумове.

5) Правярае выкананьне дырэктыў партыі і організуе працу з рабкорамі і насьценных газэт, мобілізуючы ўвагу рабкораў і рэдкалегіі па асноўных пытаньнях, над разрашэньнем якіх і працуе у даны момант партыйная ячэйка.

6) Сочыць і дапамагае ў працы рэдкалегіі насьценнай газэты, зьвяртаючы ўвагу на рэгулярнасьць яе выхаду, водклік газэты на асноўныя палітычныя кампаніі, організацыі актыўнасьці рабочых у барацьбе з недахопамі. Праз сэкратара бюро ячэйкі рашуча змагаецца супроць няўважлівых адносін да рабкораўскіх нататак.

7) Сочыць за асьвятленьнем жыцьця прадпрыемства ў цэнтральным друку.

8) Сочыць за ходам падпіскі на пэрыодычную літаратуру і прымае меры да палепшаньня яе організацыі, яе павялічэньня, вядучы агітацыю за друк.

9) Організуе вакол газэт і журналаў групы іх чытачоў, організуе колектыўную чытку і абгаварвае газэтны матар'ял (скарыстоўваючы абедзены перапынак).

10) Складае частку агульнага пляну ячэйкі і месячныя заданьні па сэктару агітацыі і друку і практычна ажыцьцяўляе яго.

### Сэктар росту і работы з кандыдатамі.

1) Вядзе дасканалы вучот росту ячэйкі і складу кандыдатаў КП(б)Б (па форме, даваемай агульназаводзкім сэктарам), ставячы ўсе пытаньні тэмпу і рэгуляваньня росту і пераводу на бюро ячэйкі.

2) Складае частку агульнага пляну работы ячэйкі і месячных заданьняў сэктару па росту ячэйкі, практычна яго ажыцьцяўляе.

3) Дабіваецца, каб цэхячэйкі і фракцыі грамадзкіх організацый канкрэтна ставілі пытаньне аб росьце ячэйкі, выяўляючы праз групоргаў і кіраўнікоў усіх сэктароў базу росту за лік рабочага беспартыйнага актыву, індывідуальна прыкрапляе да гэтых рабочых камуністаў дзеля падрыхтоўкі іх у партыю і сочыць за ходам гэтай работы.

4) Трымае сувязь з сэктарам па рабоце сярод моладзі па пытаньню перадачы ў партыю падрыхтаваных членаў ЛКСМБ.

5) Сочыць за прыцягненьнем беспартыйных рабочых на адчыненыя партсходы і ў формы партвучобы, выяў-

ляючы прычыны недастатковасьці яго і дабіваючыся іх зьнішчэньня (праз сэкратароў ячэек, кіраўніка сэктару, вучобу і іншых таварышоў).

6) Вывучае прычыны адсеву, пэрыодычна ставячы пытаньне аналізу на бюро ячэйкі і ўносячы практычныя прапановы па зьнішчэньню прычын адсеву, зьвязаных з недахопамі ў працы.

7) Сочыць за прахаджэньнем кандыдатамі КП(б)Б кандыдацкага стажу, дабіваючыся, каб цэхячэйкі правяралі наведваемасьць кандыдатамі партсходаў, абавязковай партвучобы, выкананьне нагрузак і правяралі кожнага кандыдата на працягу данага яму кандыдацкага стажу.

8) Склікае сход кандыдатаў КП(б)Б па пытаньнях прахаджэньня імі кандыдацкага стажу.

9) Падрыхтоўвае да бюро ячэйкі прыём і перавод у чл. КП(б)Б (правяраючы ў прыватнасьці правільнасьць яго афармленьня), апавяшчаючы ў насьценных і друкаваных завадзкіх газэтах, сочыць за тым, каб агульны тэрмін з часу падачы заявы рабочым да яго канчатковага зацьвярджэньня не перавялічваў 1 месяцу.

### Сэктар партнагрузкі, вучоту і разьмеркаваньня.

1) Улічвае нагрузкі і іх выкананьне членамі ячэйкі.

2) Вылучае членаў ячэйкі ў дапамогу кіраўніком іншых сэктараў дзеля правядзеньня работы.

3) Вядзе вучот партыйнага актыву (як непасрэднай партыйнай рабоце, так і па галінам работы), сочачы за іх ростам і за правільнасьцю расстаноўкі партсіл (абясьпечаньня парт. сіламі ўсіх вучасткаў работы).

4) Усе пытаньні вылучэньня па партлініі павінны падрыхтоўвацца сэктарам вучоту і разьмеркаваньня.

5) Складае частку агульнага пляну ячэйкі і месячныя заданьні сэктару вучоту і разьмеркаваньня і практычна яго ажыцьцяўляе.

### Сэктар па партківраўніцтву комсамолам

1) Правярае ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі ў штодзенным жыцьці ячэйкі ЛКСМБ і работы на іх аснове сярод моладзі прадпрыемства.

2) Дабіваецца ўстанаўленьня саадпаведнасьці зьместу форм і мэтадаў работы ячэйкі ЛКСМБ задачам соцыялістычнага будаўніцтва і ўдзел у ім моладзі.

3) Організуе практычную дапамогу парт'організацыі ва ўсёй рабоце ячэйкі ЛКСМ.

4) Сочыць за ідэолёгічным становішчам і разгортваньнем практычнай работы ячэйкі ЛКСМБ, ставячы ўсе асноўныя пытаньні непасрэдна перад ячэйкай КСМ і пры неабходнасьці перад партыйнай ячэйкай.

5) Складае частку агульнага пляну работы ячэйкі КП(б)Б па кіраўніцтву работай сярод моладзі і месячныя заданьні сэктару, уключаючы ў яго ня толькі агульныя справаздачы ячэйкі КСМ, але, галоўным чынам, зьвеньневыя (па пасобным галінам камсамольскай работы) пытаньні работы ячэйкі ЛКСМБ, сочачы і організоўваючы іх ажыцьцяўленьне.

6) У дапамогу работы ячэйкі ЛКСМБ па паасобным галінам (вытворчае выхаваньне, палітычная адукацыя, культурна-масавая работа і г. д.) падбірае і праз парт'ячэйку, вылучае кадр членаў КП(б)Б (пераважна з старых членаў партыі і былых камсамольцаў), практычна дапамагаючы выкананьню пляну камсамольскай работы па данай галіне, сочачы і кіруючы работай вылучаных партыйцаў і патрабуючы ад іх адказнасьці перад партыйнай ячэйкай.

### Сэктар жан-работы.

1) Кіруе работай сярод жанчын прадпрыемства.

2) Організоўвае выбары, інструктуе і кіруе работай дэлегатак аддзелу.

3) Удзельнічае ў разьмеркаваньні жандэлегатак на практычную работу.

4) Сочыць за наведваемасьцю жан-дэлегаткамі дэлегацкага сходу і практычнай работы і наведваемасьці сэкцый саветаў.

5) Садзейнічае профбюро ў організацыі вытворчых жан-гурткоў для падвы-

шэньня і дачы кваліфікацыі работніцам, сочачы за іх работай.

6) Вывучае склад работніц прадпрыемства. Дабіваецца падвышэньня іх актыўнасьці, шляхам падвышэньня іх вытворчай кваліфікацыі ў гуртках пісьменнасьці, у школах малапісьменных, палітычнага ўзроўню і грамадзкай актыўнасьці ў гуртках, школах і на сходах, уцягваючы і сочачы за іх наведваемасьцю і прымаючы меры для яе падвышэньня.

7) Сочыць за культурным абслугоўваньнем работніц, організоўваючы пэрыодычна вечары работніц.

8) Сочыць за стварэньнем магчымасьці актыўнага ўдзелу работніц у грамадзкай працы шляхам максымальнага абслугоўваньня работніц ясьлямі, дзет.-садамі, прачашнай, сталоўкамі, дастаўкай кааперацыйных прадуктаў і г. д.

9) Организоўвае падрыхтоўку і сочыць за ростам ячэйкі за лік работніц, зьвязваючыся па гэтаму пытаньню з сэктарам росту.

10) Складае частку агульнага пляну ячэйкі і месячныя заданьні па жан-сэктару і практычна ажыцьцяўляе яго.

11) Падтрымлівае сувязь і правярае выкананьне партыйных дырэктыў жанработнікам проф-бюро.

### Сэктар падрыхтоўкі і вылучэньня кадраў.

Задача сэктару ў асноўных рысах зводзіцца да наступнага:

1. Падтрымліваньне штодзеннай сувязі з фабзаўкомам, добраахвотнымі таварыствамі і іншымі грамадзкімі организацыямі прадпрыемства, з мэтай вучоту ўжо працуючага актыву і кіраўніцтва ўсімі мерапрыемствамі паказаных организацый па падрыхтоўцы новых кадраў профсаюзнага, гаспадарчага і грамадзкага актыву.

2. Наладжваньне і кантроль за работай адпаведных організацый па падрыхтоўцы новых пластоў актыву з камуністых і беспартыйных рабочых.

3. Прапрацоўка і практычнае праламленьне ва ўмовах данага прадпрыемства дырэктыў вышэйстаячых партыйных органаў у галіне вылучэньня і падрыхтоўкі кадраў.

4. Складаньне часткі агульнага пляну работы парткалектыву ў галіне падрыхтоўкі і вылучэньня кадраў.

5. Сочыць за наліччам у кожным сэктары ячэйкі і ў цэхавых ячэйках вучоту беспартыйнага рабочага актыву (асабліва прафактыву, актыву дабр. Воб-в, жанактыву) і правядзеньнем з імі сыстэматычнай работы па ўцягненьню ў партыю (сходы беспартыйнага актыву, старых вытворцаў, індывідуальная праца).

6. Сочыць і арганізуе праз адпаведныя грамадзкія арганізацыі плянавае высоўваньне работніц як на вытворчасьці, так і ў грамадзкіх арганізацыях.

7. Вядзе вучот гаспадарчых кадраў, вылучэнцаў на гаспадарчую работу. Праз сэктары цэхячэек вядзе вучот кадраў на вылучэньне, ставячы праз вучастак вучобы іх падрыхтоўку і організоўваючы сталую працу з вылучэнцамі.

### Сэктар садзейнічаньня колектывізацыі.

Сочыць за выкананьнем партыйных дырэктыў у галіне ўдзелу рабочых мас у справе колектывізацыі вёскі, кіруе наладжваньнем выездаў рабочых брыгад у вёску, праводзіць праз адпаведныя організацыі растлумачальную работу сярод рабочых аб чарговых задачах партыі і савецкай улады ў справе колектывізацыі, сочыць за работай шэфтаварыства і аказвае яму дапамогу, вывучае становішча колектывізацыі ў падшэфным раёне.

Складае частку агульнага пляну партыйнага колектыву ў галіне сувязі з вёскай і садзейнічаньня колектывізацыі.

**Ад рэдакцыі**. ЦК накіраваў проэкты палажэньня аб рабоце сэктараў пры партколектывах і ячэйках прадпрыемстваў, якія трэба скарыстаць пры пераходзе да сыстэмы сэктараў, аднак з такім разьлікам, каб кожны колектыў у залежнасьці ад своеасаблівасьці дадзенага прадпрыемства праявіў уласную ініцыятыву па палепшаньню і ўдасканаленьню гэтых палажэньняў.

Адказныя рэдактары: **О. Канакоцін.** **А. Гаруновіч.**

